**АЛЕСЬ КАСКО**

# МЕЖАВЫЯ ЗНАКІ

*Вершы*
*Навелы і мініяцюры*
*Запісы*

Мінск
Кнігазбор
2014

**Вершы, навелы і мініятуры, дзённік.** — Мінск: Кнігазбор, 2014. — 204. — (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў "Кнігарня пісьменніка"; выпуск 52).

ISBN 978-985-7089-42-0

У кнігу паэта Алеся Каско ўвайшлі выбраныя вершы, напісаныя на працягу мінулых дзесяцігоддзяў, а таксама новыя творы, у якіх аўтар шчыра, прачула і па-майстэрску выяўляе свае душэўныя пачуцці і грамадскія перажыванні пра жыццё, творчасць і беларускую будучыню.

Змест

**III**

# I

x x x

Травою быў - а нехта ў небе сінім
сказаў: адчуй свой боль і стань мне сынам.
І я прайшоў шлях веры і зняверы,
парою грукаўся ў чужыя дзверы,
любіў, кахаў і зведаў смак самоты…
Але - што потым?
Я не прыму фальшывай пазалоты
на сэрцы і траве, што мне раднёю.
Мне ўсё радзей лавіць прамень над ёю,
часцей – сачыць за знічкавым палётам.
Але – што потым?
Былінку слова, каліва пяшчоты
пакіну вам, і гэта дасць мне сілы
змяёй не віцца ў кроку ад магілы
і ўдзячнасць прашаптаць нямоглым ротам.
Але – што потым?
Травінку пацалую без употы,
не ў гнеў Таму, чый кліч у небе сінім
пачуў аднойчы, каб назвацца сынам.
І страціць сэнс адвечная турбота –
а потым што?...
Бясспрэчны і адзіны
адказ ёсць там, адкуль няма звароту.

## НЕДАЖЫН

Як бы доўга ні жыць – не дажыць
да канца… Зноў і зноў паўстае перад намі
грыўка спелых жытоў – недажын,
што асыплецца ветрам, прыб’ецца дажджамі.

От бы ўсё – ад зярнят да расы –
зберагчы і напоўніцу ўсім наталіцца!
Дакахаць, дапісаць… Папрасіць
даравання ва ўсіх, з паміраннем змірыцца

Зручны быў бы няношаны ўбор,
і пачулі б анёлы, схілёныя нізка,
што гучыць літасціва не хор
адпявальны – то маці пяе над калыскай.

О, каб гэтак! Але да мяжы
часу меней нашмат, чым да зжатага жыта.
Можна загадзя ўпасці, не жыць…
Ды з таго і жывем, што жывем недажынам

х х х.

Чым менш застаецца да роднага дому,
тым больш краявід адчужае знаёмы.
Яго пазнаеш па купчастых аблоках,
высокіх, як памяць, і чыстых, як вока.
Яны – міражы, што паўсталі з маленства,
а ўнізе – а ўнізе ўсё менш падабенства
з абрысамі мяккіх аблокаў-лятункаў:
як шмат тут груваcткіх, няўклюдных малюнкаў.

Ці гэта разрыў між гадамі вялізны,
ці проста гляджу праз халодную прызму?
Ва ўзгорка бязлесага конусны выгляд,
канавы-трапецыі сціснулі выган,
дарога запала пад пліты-квадраты,
без колішніх дрэў вуглаватыя хаты
панура цікуюцькубічны аўтобус…
А ў школьным акне – яшчэ круглы ўсё глобус.

x x x

Свісне рак – і ўсё. І ўсё збудзецца!
Хто адвеку спаў, той абудзіцца,
блудны сын дамоў тут жа вернецца,
у вачах сляпцоў змрок развеецца.
Будзе так: бядняк есць папоўніцы,
вольным – воля свет, здольным – творыцца.
Дым з фабрычных труб пахне свежасцю,
кожны ў полі дуб – роўны з вежаю.
Хто піў моцнае – п’е маркоўнае,
і паўсюль усе – памяркоўныя.
Аж круцель-хіжак стане правільным,
і памірацца Каін з Авелем…
— Дзе ж той рак, аднак? Ці не свішчацца?
— А табе, лайдак, лёгка пішацца?..

## ГЛЫБІНЯ

Зазірну ў калодзеж –
бяздонне
за кругамі, аброслымі мохам,
за лебядою,
за чорнай вадою.
Ускіну вочы
на вядро сухое
ў дзюбе драўлянага жураўля –
бачу дно:
не апусціцца больш яно.

## РАЎНАВАГА

1

Скінуў белы лебедзь
мне белае пяро,
скінуў белы бусел
мне белае пяро,
скінуў белы голуб
мне белае пяро…
Скінуў чорны воран
мне чорнае пяро –
аж тады ўзляцеў я.

2

Маю ўсяго па долі:
долю радасці –
долю болю,
долю веры –
долю зняверанасці,
долю памяці –
долю забыцця…
Хто мне скажа,
што – абяздолены?

3

Пакідаў тлум горада
ценем панурым.
Іду з улоння прыроды –
намармытваю песню:
ці з таго,
што спазнаўся з воляю,
ці з таго,
што да людзей вяртаюся…

**НЯВЕДАННЕ**

У маленстве
не ведаем, што жывем.
У юнацтве
не ведаем, што нявечныя.
У сталасці
не ведаем, ці жыць варта.
У старасці
не ведаем, ці паўторымся.
Не ведаем.
Не ве – да – ем …

## І ЗНОЎ ПРА “ТЭАТР”

— Дае жыццё за раз дзесяткі роляў:
ты вуж і птах,
мізэрнасць ты і лёс…
— Дык што, памкненні марныя?
— Ну вось:
дае жыццё за раз дзесяткі роляў.
— А роля непахісніка ці ёсць?
— Напэўна, ёсць –
згуляць ніхто не здолеў:
дае жыццё за раз дзесяткі роляў.
Ты вуж…
— І птах!
— Мізэрнасць ты…
— І лёс!

**КАРАБЕЛЬ**

Вецер у спіну не вецер.
Хваля не хваля,
што кошкаю трэцца аб бераг.
Дый бераг не бераг,
калі ён без стромы…

Зведаў я вецер сустрэчны,
раз'юшанасць хвалі,
паўставаў небасхілам мне бераг,
куды не даплыў я,
куды не даплыць аніколі.

Усцешна ў стыхіі!
Мне радасна ведаць:
яна не сцішэе, не скончыцца,
не знікне разам са мною –
па-за маёю вечнасцю.

Іду на бяздоннае дно
і расстайна ківаю мачтаю
таму караблю ацалеламу,
што, аб мой борт ледзь паранены,
спяшаецца стлець на якары.

**ПАМЯЦЬ**

Святлее снег, цямнее неба,
прамень і цень на гарызонце
змыкаюцца. Садзіцца сонца.
І гэта ўсё, што сёння трэба.

Зарука згадак – луста хлеба,
маўклівы стол, цярплівы чайнік.
Немітуслівa. Незвычайна.
І гэта ўсё, што сёння трэба.

Нібы няспешлівы малебен:
гадзіннік счытвае ўспаміны
пра нашы з сябрам пуцявіны.
І гэта ўсё, што сёння трэба.

Ён зрокся шляху… Як сагрэў бы
сяброў непамінальны вечар,
дзе ўсё было б, што трэба вечна,
а сёння – на часіну трэба!

**х х х**

Ступаецца асцярожна:
плюскоча пад снегам вада.
Снег снегам: растане. А вось жа,
апошняга снегу шкада.

Дажджом паліваны, грамнічны
і плаўлены сонцам не раз
змушае быць меланхалічным,
настрой непрадвесні прыпас.

Мне блізкае ўсё, што сыходзіць.
Я сам адчуваю мяжу.
Блажэю. Бліжэю прыродзе.
А людзям?.. Як знаць. Не скажу.

## САД

Сад восеньскі, ціхі –
з водарам празрыстых антонавак,
груш, вінаграду
(на белых сурвэтках),
з цяплінкамі арабінавых ягад
і кляновага лісця
(сям-там рассыпанага незнарок),
з цэлым лугам някідкіх кветак,
сабраных у вазы, -
так скупа , так мала падобны
да сапраўднага саду –
саду без згустку лекавых пахаў
і меланхалічных настрояў,
без спакусы ўтрапёнага сузірання,
што раптам канчаецца зрывам
і недарэчнай высноваю:
у садзе: амаль батанічным,
не стае толькі кветак вянковых…
у сценах бальнічных.

## НА РУІНАХ

Дом на ўскрайку часу, свету…
Скрыпнулі няшумна
сходкі, а на іх – ні следу,
толькі пыл. Ды сум наш.

Замяшанне ветру. Вусціш.
Глуха. Нежыццёва.
І не цепліцца на вуснах
Слова. Ні паўслова…

З кожнай хвіляю знікомы
дом…Яго – ці памяць? –
крэсліць крывізна расколін,
мружыць лісцяў замець.

Доўгі - згадваеш? – па сходках
шлях твой быў уночы
і такой была кароткай
ноч…Нямыя вочы.

Гэтак холадна зірнула
ў іх, дыхнуўшы стомай,
утравелая мінуласць
з-пад руінаў дома.

## ДЗВЕ ЗАРЫ

Апошняе каханне,
як і першае,
лятункамі прыходзіць, снамі, вершамі.
Світальная зара
ці вечаровая –
аднолькава абедзве зачароўваюць,
абедзве не спяшаюцца, не позняцца…
Каханні
паміраннем толькі розняцца.
Становіцца адно
малітвай, згадкамі,
другое – крыўдай, дробязнымі звадкамі.
Світальнае – над стратамі, над бедамі,
змяркальнае
знікае ў чорнай бездані.

## ПРОСТАЯ АСТРАЛОГІЯ

Шляхам Птушыным да Мілавіцы
спяшаецца Вознік — павек не даедзе.
Бачыш: перакуліліся адзін за адным
Воз Вялікі, а воддаль — Малы?..

Гэта і ўсё, што я здолеў сказаць
у думках табе ў тую ноч,
калі дзесьці далёка і ты
самотна ўзіралася ў зорнае неба.

## ДЗЕНЬ НАРОДЗІН

Снежань.
Стрэлкі – нажніцы
рэжуць і рэжуць на стужкі
нябачную
тканіну часу.
Але — уяўляю:
белую–белую,
як палосачкі лёгкага снегу,
што таксама знікаюць —
растаюць у лужынах.
Снегу не стане,
дня народзін не стане,
не стане мяне —
а стрэлкі-нажніцы
будуць.

## АПАТЫЯ

Сягне радок у сон твой душны
і змусіць сэрца затрымцець,
і ўзбудзіць кроў, і горла здушыць,
але — не дужа, не насмерць.

Для заваконня ён — не ў знаку:
там час глухі, ці плач, ці спеў…
З душы сарвеш яго, вужаку,
каб без надзеі не шчымеў.

Не ўважыш, што ён схоў, ахова,
што, бы акраец жабраку,
шанц акрыяць даруе мова
ў табой адпрэчаным радку.

Ён скурчыцца, спадзе бязгучна
па той бок чыстага ліста —
тады спаўе і стане мучыць
паўзучым гадам пустата.

Дарма пачнеш вышукваць словы,
душу і розум тармасіць:
верш незалежны, выпадковы
сябе не дасць уваскрасіць.

x x x

Ты — як пад наркозам,
быцця майго сад:
парос вербалозам,
цвіцеш неўпапад.

І ўчора, і сёння —
кустоўе, платы…
Дай выйсці з сутоння,
з твае нематы!

Хай там, за смугою,
прасторай дыхне,
хай там без двубою
праніжуць мяне —

ці промень бліскучы,
ці ветру кінжал,
ці востры, пякучы
шыпшынавы жаль.

Або хай у полі
прашыюць дажджы…
Так доўга ў няволі
быць нельга душы —

нямотнай, бязбольнай,
чужой…Цераз край
не радасці вольнай,
дык болю ёй дай!

## ПАСЛЯ БУРАЛОМУ

1

Відовішча: пабоішча.
Дрэвы ссечаныя, пакалечаныя
ўдаюць на цэлы чалавечыя,
бязногія і бязрукія;
голле, сукі — абрубкамі,
спарышы — распалавінены,
парасткі — сцятымі пупавінамі.
Вечар. І сок між травін —
чырвоны, бы кроплі крыві.

2

Рупна — санітарная рубка.
Складваюцца ў штабялі
моцныя ралы, камлі.
Яліны ўзорысты ўбор
з дымам плыве да зор.
З попелам перамешаны
завушніцы бярозы, алешыны,
шпількі сасны,
пацеркі арэшыны…
Вусціш лесу — як склеп
дрывяны.

3

Світае; дрэва дрэва гукае.
Тыя, што выстаялі, крэўныя,
пагаліняцца з новымі дрэвамі:
вятрыскам выгаленую прастору
з гадамі заняць зноў гаю і бору.
Але тыя, што годна выстаялі,
пазнавацца будуць, камлістыя,
паміж маладымі лясінамі
пахіленымі вершалінамі…
…О, як многа сляды буралому
могуць нагадваць племю людскому!

## СОСНЫ НА РАЗБУРАНЫХ МОГЛІЦАХ

Ад старадрэвін – хлуд і пні,
сляды капцоў – між новых соснаў,
чые галіны мкнуць высозна,
чые ў прадонні карані.

Пад іх карою час, калі
чыніўся гвалт; вяршынны пошум
штодня вядзе шчымлівы пошук
тых душ, што неба абжылі.

З руінаў, з ямінаў, з вякоў
паўсталі дрэвы строма, дужа,
нясцерпна ім: тут стогнуць душы
глумліўцаў і рабаўнікоў.

І прэч ад іх, ад гнюсных сіл,
страляюць кроны так высока,
а карані – да чыстых сокаў,
глыбей, чым дол былых магіл.

x x x

Дзень так пакорліва сыходзіць
у спрат, бы хмарная турма
цяпер навек, бы і ў прыродзе
ад сёння светлыні няма.
Так і жыццёвым адвячоркам,
якія з прыродай заадно,
чырвонае разбавіш чорным
застылае на дне віно…
Ды ўночы ветру бунт пачнецца,
і дождж успеніцца ў двары,
і змрок стакроць перажагнецца
маланкай – водбліскам зары, -
тады насупраць яркіх вокнаў
адчуеш існае глыбей:
ёсць і цяпер святлынь навокал,
ва ўсім – апроч, на жаль, цябе.

x x x

Зорка з даўнасці… Хто ты: вітанне
ці прароцтва? Дакор або ветласць?
Ці ты ярка-нямое пытанне
вочы ў вочы: чым спраўдзіцца вечнасць?

Зноў і зноў неспатольную фразу
паўтараць - і не будзе залішне,
каб ісці па прыступках адказу,
якія мае адзін Усявышні.

Ці дайду? Ці за крайняй прыступкай
шлях абернецца вынікам марным:
там – нічога , нат зоркі над пусткай,
зоркі з даўняе веры і мары?..

**ВАНДРОЎНІК**

Памяці Міколы Купрэева
Кавеньку-павадыра
паставіць у кут з абуткам.
Запыленым незабудкам
дасць свежай вады з вядра.

Сарваныя ў добры час,
яны ажывуць, як просінь.
“Што ў свеце, кажы, - папросім, -
і што ты згубіў у нас? ”

“Што ў свеце? – ён скажа ў такт. –
Прастора, краса, дарога...”
Бязмэтных цяпер ці многа?
Мы скемім: тут штось не так.

Узятыя на іспыт
няпэўным жыццём замкнёным,
зняверымся ў незнаёмым,
прынеслым палёў блакіт.

Які сёння хцівы свет,
якія ў ім ходзяць чуткі!..
Чысцюткія незабудкі
пакіне, між тым, паэт.

## САРАКАВІНЫ

Так зелена, весне,
што вішня сама
ступіла да весніц.
А мамы – няма.

У хаце прыбрана,
у хаце гурма:
людзей, нібы ў храме,
а мамы – няма.

Перад абразамі
пярстамі трыма
мы гутарым з мамай
без мамы: няма

Міг ночы – і ранак.
Дзесь голасна: “Ма-а!..”
Выходжу на ганак:
нікога няма.

Хоць зелена, весне,
на сэрцы зіма.
Так, мама ўваскрэсла –
і ўсё-ткі няма…

## МУДРАСЦІ ВОДАР

На вокладку кнігі – апошняй, мажліва… -
свой здымак з юнацтва захоча паэтка.
Угледзіцца пільна і скажа тужліва:
“О фотагербарый, без водару кветка!”

Яго адкладзе, ашчаджаючы сэрца,
на іншых запыніцца – сталага году –
і ціха ды вольна сабе пасміхнецца:
адчуе ў партрэце тым мудрасці водар.

## КРАЯВІД

Чужы для бязлюднага краявіду,
пазіраю на попельнае поле,
дзе вугольчыкамі
тлеюць забытыя бульбінкі,
дзе стырчакі сланечніку
спрабуюць падвысіць смугу,
нібы ўсё яшчэ шукаюць
сонца… Яно
ўжо даўно пад імі –
зжоўклымі скарынкамі гарбузоў,
лісцем голых кустоў і яблынь.
Чужы для бязлюднага краявіду,
заўважаю, як многа
пакінутых тут “крыжоў” –
маркотных агародных пудзілаў,
і нясмела, бы ўлетку,
над імі кружляюць вароны.
Хоць бяры ды і сам
шырока растапырвай рукі –
дапасоўвайся
да бязлюднага краявіду.

## З ЮНАЦКАГА СШЫТКА

1

Прачнуўся позна я.
Даўно
разгаманіўся куст каліны
і крык світальны жураўліны
праплыў прызыўна паўз акно.
Даўно
са звонам у раўчук
упалі сонечныя промні…
Але, здалося, -
я ўсё помню,
нібы ўсё бачыў я і чуў:
і як трубілі дзесь ласі,
і як рыпеў калодзеж векам…
Яшчэ не высахлі на вейках
у маці
кропелькі расы.

2

Вынырне бліскучы месяц з-за гары,
пад пушыстым снегам бор засне стары,
і заплюшчаць вочы хаты ўсе, адно
доўга не патухне любае акно.
Гэта зноў дзяўчына не захоча спаць
і самотна будзе ў ночку пазіраць.
Да яе прыйду я – о жаданы міг! –
прыкіпіць дзяўчына да грудзей маіх.
Сэрцы два сальюцца з жарам у адно…
Вось тады й патухне любае акно.

3

Імжа над статкам. Пожня ўскрай дубровы.
Ля дрэва маці. З-пад галля дымок.
“Дык заўтра?.. Грэйся, мусіш быць здаровы,
вучыся… Ат , карову прадамо.”

Мне позва ёсць: студэнт. Але экзамен
на ростань – ведаю за ўсе слабей.
Хаджу за статкам. Мокну. І шкада мне
і маці, і карову, і сябе…

4

І клёны кланяюцца ветла,
і лашчыць ветрык валасы.
Жанчына ўголас: “Чый жа гэта,
такі худы, – Аксенін сын?”

Мужчыны, хлопцы цiснуць рукі,
сябры б’юць хвацка па плячы,
расказваць просяць, як з навукай,
сустрэчу б, кажуць, “замачыць”…

Стары сусед, рыбар умелы:
“Дамо ўжо ж плотцы па хвасце!
Ну, а шырокі клёш твой белы
да дзеўкі сцежку падмяце.”

Мае няцяжкія пакункі
задумны бацька мой нясе.
“Адпачывай, сынок, пакуль ты,
а там – паклонімся касе”.

Яшчэ не думаю, што вёска –
мой летні вырай, што я зноў
у горад з’еду рана ўвосень,
пакіну клёны, дом, сяброў…

5

Ты, старонка, — сама цішыня:
у снягах растварыліся гукі,
і смугой вечароваю рукі
тваіх дрэў
абняла вышыня.

Не ў мальбе, не ў малітве яны

над заснежанай рунню падняты.
Пазнаваць па іх будзе араты
надыход клапатлівай вясны.

І не ў грозьбе ды немай кляцьбе
твае рукі да неба прыкуты.
Ты прайшла
праз такія пакуты,
што даволі трывання ў цябе.

Проста снег – ён да стрэх дастае,
проста навісь – вятрам не разгушкаць.
Па руках тваіх
людзі і птушкі
знойдуць хаты і гнёзды свае.

**ФРАГМЕНТЫ**

1

Вярнуўся ў кут продкаў
шукаць сваё сэрца –
сталымі гадамі жыву без яго
ці з сэрцам,
перасаджаным ад каменя.
Пад маімі нагамі
камянелі травінкі на чорным асфальце;
аб мяне разбіваліся птушкі,
пранізаныя сцюжаю
невядома калі ахалолых вачэй.
Я праходзіў скрозь абалонкі людскія
і не пытаўся імёнаў,
як ніхто і ў мяне не пытаўся,
адно тупа і глуха грукаліся
камень аб камень –
сэрца аб сэрца...

Граў я калісьці на ветры –
струны парваліся,
і я майстраваў свісцёлкі гліняныя
з выявамі абезгалоўленых пеўнікаў;
хлапчук, мой нашчадак, і той
не выдзьме з іх ані гуку.
Гэтулькі часу – як,
як я хадзіў адранцвелы?
Як піў ваду
стуленымі сухімі вуснамі
і як прамаўляў імі слова?

Чым я жыў,
чым жывіў адсутнае сэрца
ці сэрца,
перасаджанае ад каменя?..

2

Мне няцяжка шукаць:
пацяжэлыя яблыні
галіны кладуць мне на плечы,

і росы (буйныя, нібы антонаўкі)
скочваюцца па мне –
сцюдзёняць да невыноснасці,
абпальваюць да горычы.

І сонца прыходзіць з-за блізкага лесу,
ключы аддае прамяністыя
ад хаты з рукамі самкнёнымі,
ад клуні, дзе ўгнездзілася цеплыня
на кожнай жардзінцы,
на кожнай сянінцы;
дзе ўночы жывуць толькі ластаўкі,
а ўдзень – кажаны...

Мне няцяжка шукаць:
дзве касы – мая паржавелая
і вострасрэбная бацькава –
самі скасілі быллё ў агародзе,
каб убачыць я здолеў сляды,
якія пасеяла маці на градках апошніх,
і на дзічцы – ката здзічэлага,
і сабаку, што сам
засіліўся на ланцугу на плоце...

Мне няцяжка шукаць:
расхрыстаны весніцы,
нябёсы расхрыстаны –
і расхрыстаны грудзі
для сэрца.

## II

## ПАЭТЫ

Адзін ляжаў на мулкай драўлянай лаўцы ў скверыку ля вакзала і не зважаў на вечаровую прахалоду, на кроплі сціхлага дажджу, збіваныя з лістоты каштана ветрам. Худы, знерухомлены, ён быў жывы і зрэдзьчасу нагадваў пра гэта – рукою, што спадала да самай зямлі і зноў вярталася на грудзі, пад борт палінялага паліто, кашлем, які змушаў паварочваць сівую галаву набок, і тады пад ёю шамацела торбачка з цэлафану. Увесь ён быў стома і сон.

Другі, маладзейшы, у цёплай тужурцы і шырокім капелюшы, стаяў над ім. На твары гэтага другога то папераменна, то ў адначассе праяўляліся здзіўленне, жаллівасць, нерашучасць. Сабрата ён напаткаў знячэўку, калі прагульваўся ў скверы, і цяпер вагаўся: будзіць яго ці не? Стары і лядашчы гатэль на рамонце, вакзал нанач зачыняецца, а дома запярэчыць жонка – валацугу прывёў, скажа.

“Бадзяга, хіба ж, - пашкадаваў другі. – Ды мо і праўда пабудзіць? Завяду да каго-небудзь, папрашу...” Згадаў аднаго знаёмага, другога – дарма. Збянтэжацца, скасавурацца. Пакратаў соннага за руку. Той не паварушыўся. Наўрад ці можна дабудзіцца яго, здарожанага, да таго ж нападпітку. Тленны пах таннага віна чуўся добра.

“Няшчасны, і ўсё тут”, - зноў са шкадаваннем падумаў другі. Прысеў у ягоных нагах і пачуў, як храбуснула пакамечаная папера. Газета, заламаная наўскос, яшчэ не вельмі намоклая. А ў ёй хлебная лустачка, недакураны пачак “Прымы”, аркуш, спісаны-скрэслены знаёмым почыркам. У цэлафанавай торбе, ён гэта добра ведаў, таксама газета, дзве-тры чужыя кніжкі, чарнавікі ўласных вершаў. Наплылі ў памяць вершы друкаваныя, і ён запыніўся на адным з іх, які і вабіў, і развярэджваў прывязанасцю да гэтай недарэчнай сустрэчы.

Я брат ваўку,
і мне няма спачыну,
я з дому вашага ўцяку
шукаць айчыну...

Прытулак у “воўкавага брата” недзе быў – у вёсачцы каля самай пушчы. Але хіба адно ў зімовыя халады ён затрымліваўся там. Бадзяўся па ўсім краі, ужо немалады і вечна прастужаны.

Ён зноў закашляўся, і другі падумаў пра дачу. Можна запаліць у каміне, заварыць малінніку. Пятнаццаць хвілін электрычкаю, затым

крыху болей пехатою. Праўда, з ім не “крыху”, і ўсё ж... Абмацаў свае кішэні: ну так, ключоў няма. “Дома, а дзе яшчэ. Хіба часта бываю на самоце? Часта пішу?”

І ён заставаўся сядзець на лаўцы, перамешваў уласныя думкі з радкамі соннага паэта. “Я брат ваўку, і мне няма спачыну...” Няцяжка схадзіць на кватэру і ўзяць ключы неўпрыкмет ад жонкі. Або сказаць ёй, што едзе адзін. Не паверыць, бо зараўнуе, і, на грэх, не без прычыны... А пабыць там якую часіну і вярнуцца назад ніяк нельга: назад першая электрычка ідзе толькі ўранку.

“Я з дому вашага ўцяку шукаць айчыну...” Мэты ўцёкаў і пошуку Другі не разумеў, а інтуітыўна не прымаў. Акурат надоечы за цьмянасць паэтычнай думкі ён паўшчуваў сабрата ў газеце “Родная речь”, дзе працаваў літкансультантам. Затое пахваліў за вобразную свежасць, за нязмушаную, бурлівую плынь пачуццяў, якіх цураліся або не мелі астатнія аўтары. От і цяпер, ледзь ускалыхнуў настрой, з якім пісаў артыкул, уявіліся яму кроністыя дрэвы, што мкнуцца цераз дарогу ў абдымкі адно да аднаго, і вецер, што раскудлачвае іхняе голле, не дае сустрэцца, сплесціся, і поўня, разгайданая імі, і постаць чалавека на дарозе, пад поўняю і дрэвамі...

З каштана ўсё яшчэ зрэдзь падалі кроплі. Той, хто спаў, паранейшаму не зважаў на іх. Прыступ кашлю мінуў, і ён чарговы раз заглыбіўся ў працяглае забыццё. Адно часам мыляліся губы, нібы шапталі нячутную малітву.

“Умее пісаць – не ўмее жыць”. Другі падняўся з лаўкі, зняў капялюш і паклаў яго на нерухомага сабрата, насунуў яму на вочы. “Няхай паспіць, мо і добра, што выпіў, засцярогся...” Зусім звечарэла, цьмяна і вільготна засвяціліся ліхтары. Ён з хвіліну пастаяў каля лаўкі, паўзіраўся ў іхнюю мігатлівую блякласць. “Я брат ваўку...” І раптам адчуў: нешта ваўчынае агортвае яго самога. Шчыльна затуліў грудзі тужуркаю, як быццам гэтак хацеў зберагчы, не адчужыць ад сябе прыемнае, але здрадлівае пачуццё, і пакрочыў са скверыка на аўтобусны прыпынак. Хутчэй, хутчэй! Зараз ён прыедзе дадому, незаўважна ад жонкі павесіць тужурку пад нядаўна падораны ёю капялюш, сагрэецца моцнаю гарбатаю і зачыніцца ў кабінеце. Будзе пісаць! Потым, стомлены, з насалодаю ўпадзе на канапу і засне, але не пакіне мармытаць вершаваныя радкі. Раніцою да яго зойдзе жонка, паставіць на стол сняданак, убачыць акуратны стос аркушаў, горбачку недакуркаў у фарфоравай попельніцы і разгублена спыніцца над імі: будзіць ці не?..

Незаўважна прайсці ў кабінет не ўдалося, аднак. Жонка пачула яго яшчэ ў дзвярах і паклікала на кухню. Ён выпіў каньяку, доўга

вячэраў, думаючы, а што ж уласна, ён сёння напіша? Нарэшце перайшоў за пісьмовы стол і перагартаў чарнавікі. Зачапіўся за няскончаны верш “Дзікі пляж” і вярнуў сабе той даўні настрой, з якім збег ад жонкі гэтым летам на моры. Лёг на рукі галавою і задрамаў. Сніліся яму сонца, мора і жанчыны, што выходзілі з мора пад бліскучым сонцам.

## АПОШНІ ВАЎКАЛАК
### Гісторыя пра зніклае вяселле

— Ай, куды цябе нячысты панясе? – перад каляднымі “канікуламі” пыталіся ў мяне калегі. – Што ты сёння запішаш? Той жа гарадскі фальклор, што і тут! Пабудзь, адсвяткуй, а там... Дзівак!

У вёску я прыехаў за тры дні да Каляд. Амаль дзесяць гадзін дарогі цягніком, затым, з раённага гарадка, халодным аўтобусам, нарэшце пехатою па заснежаных вясковых вуліцах страшэнна стамілі мяне, і я, разамлелы ад хатняга цяпла і зацішку, упаў на ложак і моцна спаў да раніцы.

Маці ўжо напякла дранікаў; яны былі свежыя, толькі што з агню, і абпальвалі не толькі пальцы і губы, але і душу, стваралі пакрысе сапраўднае свята дзяцінства. Дранікі з адборнай бульбы, згатаваныя на алеі ў печы, мая самая любімая яда. Мама пра гэта памятала і дагадзіла сыну, няхай сабе той сын і немалады, і ўжо не надта чуллівы. Я нават бываю злосны, калі старыя бацькі пачынаюць казаць, як гэта б заўтра ці паслязаўтра ім не прачнуцца, ціха, без лішніх турботаў для дзяцей пакінуць зямнужю юдолю. Ува мне, мусіць, азываецца не проста жаласлівасць, а звычайны эгаізм. Пакуль жывуць бацькі – ты малады, яны не толькі ўчарашні твой дзень, а сённяшнасць і, няхай не вельмі пэўная, прышласць.

За дранікамі, за сцюдзёным малаком з вялікіх гліняных кубкаў, што засталіся яшчэ ад тутэйшага, палескага, ганчарства, цяпер ледзь не паўсюль зніклага, мы паволі, па-сямейнаму гаманілі. Мая цікавасць да вясковых навін мала, на жаль, наталялася. Навіны адно зрэдзь сягалі за межы дзвюх крайнасцей: хто памёр і хто ажаніўся або выйшаў замуж. Пахаванне ці не адзіная нагода-прычына, дзеля якой старыя, найперш маці, бывалі на людзях. Звычайна сядзелі дома, нячаста нават хадзілі ў краму: хлеб, соль ды запалкі купляла для іх (паводле дамоўленасці са мною) суседка-настаўніца, наша крыху сваячка.

Вяселлі, якія часам надараліся, нягледзячы на няўхільнае старэнне вёскі, былі для бацькоў і адхланнем, і радасцю. Чутае з другіх і трэціх вуснаў дамалёўвалася ўяўленнямі, фантазіяй, перапляталася ўспамінамі пра сваю маладосць, нярэдка закруглялася нязлоснымі слоўнымі сутычкамі. Пачынаў бацька: “А памятаеш, якою я цябе забіраў? У адной хустачцы!”

— У адной хустачцы? А больш на мне нічога не было, голая была? Каб ты так еў, калі гэта праўда.

— Ну-у, чаму голая... Шаўковая кашуля была на табе, кортавая спадніца. А хромавыя боцікі чые былі? Мае, я падарыў. Я ўжо тады шаўцом рабіў, ці не памятаеш?

— Ага, майстар! Пахваліся, як на трэці дзень перашываў тыя боцікі, бо разлезліся на задніку.

Гэтым разам бацька закончыў іначай, нечакана для мяне:

— Пра адно даўняе вяселле — ваўкі яго перастрэлі — ты ў Яўхіма распытаў бы. Некалі ён казаў мне, ды я ўжо многае забыў, баюся нахлусіць. Увечары можаш да яго схадзіць, чаго ў хаце сядзець. Зранку ён на паляванне цэлую гвардыю павёў. Мяне падбіваў, ды куды мне! А ён яшчэ дужы, хоць і старэйшы на цэлы год.

— На зайцоў пайшлі? – абыякава запытаўся я, адстаўляючы недапітае малако.

Я адчуў, што спрабую суцешыць сябе. Паляўнічы білет ляжаў у мяне ў паліто, а бацькава стрэльба-дубальтоўка ўжо даўнавата была перапісана на мяне. Паляўнічык я так сабе, ды ахвочы пабадзяцца па лесе. Калі не дзеля прыгодаў, дык дзеля ўспамінаў пра маладосць. Аднак суцешыцца не давялося: “цэлая гвардыя”, як сказаў бацька, рушыла на ваўка.

— Аб’явіўся раптам адзінец. Здаравенны, кажуць, чорны, бы комін. Два цяляці ўжо зарэзаў, вепрука... Даўнавата не было ў нас ваўкоў, пастралялі. А тут – на табе. Калі заб’юць, у Яўхіма можаш паглядзець. Ну, і пра вяселле хай раскажа, калі ўспомніць. Ты ж яшчэ не перастаў усялякія байкі запісваць?

У лес я не падаўся: дзе ты знойдзеш тых паляўнічых у нашых вялікіх, пакуль што, барах? Аблава, канечне, рушыла яшчэ цёмначы і ўжо богведама дзе. Цэлы дзень я ўвіхаўся з бензапілою, пілаваў дровы, прывезеныя на трактары суседам, мужам настаўніцы. Ён і дапамагаў мне. З ім, пад бацькава яблычнае віно, мы паабедалі ці, лепш сказаць, павячэралі, бо на дварэ ўжо змерклася. Сусед спаслаўся на стому і да Яўхіма са мною не пайшоў. Бацька адмовіўся таксама: “Выбачай, ісці далекавата і слізка, чаго добрага, яшчэ на руках будзеш несці”.

Жыве Яўхім не так і далёка. Ягоная старая, але здаровая, смалістая хата мне, і ўсім, добра знаёмая. Як і сам ён. Паводле царкоўных запісаў і афіцыйных паперак, такіх імёнаў у вёсцы некалькі. Але Яўхім адзін. Астатнія – Хіма, Халімон, Ваўхім і нават Хом, як мянушка. У вёсцы не любяць паўтораў. Скажам, Кастусь таксама адзін, мой бацька. Ягоныя ж цёзкі – Костусь, Коста, а мала гэтага, дык і Коця. Нікога ні з кім не зблытаеш. Яўхіма, найлепшага паляўнічага і гаспадара, завуць менавіта так, бадай, з павагі. Не надта гаваркі, але заўсёды лагодны, зычлівы. Яшчэ не стары быў, калі памерла хворая на рак жонка. Ні з кім болей не ажаніўся, пажыў крыху з адною ўдавіцаю, патрываў, колькі мог, потым папрасіў сысці ад яго: не тая, не здолеў ужыцца. Перапрашаў пасля, выбачаўся...

Калі я адчыніў дзверы, дзядзька Яўхім еў і карміў сабаку, такога ж ладнага, жылаватага, як сам. І як сам, сіва-белага.

— Во, і госць да нас. А я думаў, з кім гэта адкаркаваць наліўку. Не з Белуном жа. Ідзі ляж, Бялун, досыць.

Ён павітаўся са мною за руку, зняў з мяне шапку, павесіў яе над ручніком і дастаў са шкапчыка кварту. Наліў з яе ў дзве шклянкі, пасунуў на край стала плеценую хлебніцу з печывам.

— Дык за твой прыход, ды ў мой рот. На ўсё добрае!

Потым падставіў да ўжо напаленай грубкі дзве табурэткі і папрасіў цыгарэту.

— Куру я нячаста, але сёння многа курцоў было, увесь мой тытунь высмалілі, не разрахаваў... Што ж на тваім белым свеце чутно? Як бацька? Нямоглы, калі з намі ў лес не пайшоў. Ведаў бы я, што ты маешся прыехаць, цябе ў гвардыю запісаў бы.

— Шкадаваць ці не, мне цяжка пакуль што казаць, - пачаў я падступацца да дзядзькі, - на такое паляванне ні разу не хадзіў... Дзе ж воўк? Не знайшлі ці не забілі?

— Забілі, - ягоная сівая барада, было, растулілася для ўсмешкі, але тут жа самкнулася, вочы ўспыхнулі і зніякавелі. – Адразу ўтрох. Залпам, можна сказаць, бахнулі. Але воўк не ў мяне, хлопцам аддаў. Яны, бадай, у Аніла атабарыліся. Знялі шкуру, святкуюць... Будзе ахвота, зайдзі заўтра-паслязаўтра, зірні. Мацёры, буйвал, а не воўк.

— Няйначай, ваш воўк, дзядзька? Чаму ж не ў вас? А я так...

— А нашто ён мне? Няхай маладыя вучацца шкуру лупіць. Сам я, праўда, усяго раз лупіў, хоць забіў не аднаго ваўка. Іх раней вадзілася ого! Сярод белага дня сабак кралі, тых, што не на прывязі былі. Дый дзяцей, было, кралі... Мо гэта і не ваўкі былі, а ваўкалакі, ну, людзі, што ў ваўкоў перакінуліся.

Яўхім раптам спахмурнеў, узяў металічны крук-качарэжку, забразгаў дзверцамі. З адчыненай грубкі нас абодвух абдало жарам. Калі разгарэліся падкінутыя паленні, ён павярнуўся расчырванелым тварам да мяне. Вочы яго былі сумныя.

— Ты ўсё казкі запісваеш, а сярод казак і праўда ёсць, ну, напалову праўда, як хочаш, так і разумей. Успомніў адну гісторыю, не нанач яе расказваць, ды што ўжо... Давай-такі яшчэ цыгарэту.

Я выняў цэлы пачак і паклаў яму на калені. Ён закурыў, хвіліну паўзгадваў сам сабе, нарэшце пачаў казаць, пазіраючы на праблiскі агню, што звінеў за дзверцамі грубкі.

— Мо за дзедавай маладосцю гэта было, ці што... Ты прыгубляй наліўку, прыгубляй, не хутка ўсё раскажацца. Слухай.

Неяк позна ўвосень, недалёка ад Каляд, прапала вяселле. Прапала па дарозе сюды з Плескаў, адкуль наш хлопец забіраў маладую з пасагам. Выехалі, як і трэба, з гармонікам, бубнам, з песнямі – і не прыехалі. А дарога ж тады ішла праз гушчар ды балота, па грэблі... Адзін з трох, а мо чатырох, коней прыцягнуў парожнія сані пад ноч. Астатніх коней знайшлі назаўтра ў лесе, спуджаных, бы зайцы, не высахлых ад поту. У той дзень, кажуць, прайшоў снег, от па слядах ад вазоў і паадшуквалі іх. Але ніводнага з вясельнікаў не ўдалося ні адшукаць, ні дагукацца. Нават на чалавечы след не натрапілі. Няма, і ўсё. Затое многа было воўчых слядоў. “Як гэта? – дзівіліся людзі. – Ніводнага знаку, ніякай рэчы. Не маглі ж ваўкі паесці іх ад шапак і хустак да ботаў. Дый канякаў не зачапілі...” Пакуль нехта – ці не дзед мой? – не сцяміў: зачаравалі вяселле, адпомсцілі за якое ліха, зрабілі грамаду ваўкалакамі-пярэваратнямі. Дык мужчыны паўскоквалі на вазы ды па конях, па конях, паўцякалі дадому.

І праўда, праз некалькі дзён паляўнічыя пачалі расказваць, што бачылі ў лесе ваўчыную зграю. Дванаццаць ці трынаццаць налічвалі дужых, як адзін, ваўкоў, а паперадзе ўсіх ішла маладая пара – лапа да лапы, вуха да вуха. Хадзілі ўсе з апушчанымі мордамі, на людзей не ашчэрваліся, але і не падыходзілі блізка. Па іх стралялі, ды толькі адпалохвалі, бо ўжо чулі пра чараўніцтва. Уначы тая зграя, было, завывала, але не так, як ваўкі выюць, а стогнамі і галашэннямі. Баяліся людзі лесу, хоць, вядома ж, і дровы трэба былі, і сена.

Дык знайшліся смяльцы. Першы сярод іх – рэкрут, той, што доўга служыў у войску. “Брахня! – казаў. – Ніякія там не ваўкалакі!” Падгаварыў ён дужых маладых хлопцаў і зрабіў аблаву. Адну, другую. У трэцюю здабылі такі ваўчыцу. Яе, кажуць, у пастцы застрэлілі, бо хлопцы не толькі хадзілі з дубальтоўкамі, а і расстаўлялі пасткі ці ва

ўсім лесе. Ага, як сталі здзіраць шкуру з ваўчыцы, дык памлелі. Знайшлі пад шкураю пацеркі, шпільку, нейкія матузкі, а на правай пярэдняй лапе заручальны пярсцёнак. Закапалі чыста ўсё – і ваўчыцу, і гэтыя рэчы – недалёка ад могліц. Пабажыліся, што ніхто нікому нічога не скажа. Ды нехта з іх усё-такі прагаварыўся...

Ад недакурка Яўхім прыпаліў новую цыгарэту, запытальна зірнуў на сцішанага мяне: маўляў, не стаміўся, казаць далей? Я кіўнуў галавою, і дзядзька адвярнуўся да грубкі.

— Як чутка разышлася, - працягваў ён, - дык людзі яшчэ больш устрывожыліся. І ў нас, і ў Плесках па шаптунах пайшлі, па знахарах, як дзе кажуць. Адзін быў такі ў нашай вёсцы. Звалі яго Ваўхімам, ці што, амаль як мяне, крый Бог нагаварыць... Жанкі падаліся да яго пытацца, ці ён ведае што пра ваўкалакаў і ці ўмее іх адгаворваць. Той збялеў увесь, пачаў адмахвацца: нічога не чуў, нічога не ведае! І раз хадзілі жанкі, і два, тыя, хто смялейшы і гаваркі, ажно ён памякчэў, ледзь не папрасіўся: “Нядобрага я не рабіў, хіба не карыстаецеся з мае ласкі, калі што баліць? Зелле, каму трэба, бярыце і зараз, але адчапіцеся, не ўгневайце, чаго добрага... Ну, ведаю, як адчароўваць, маці казала. Хай сваякі з імі сустрэнуцца... А лепш не хадзіць, лепш пачакаць. Няшчасныя самі вернуцца, позна альбо рана, людзьмі”. Чакаць не надта хто хацеў, ды пакуль збіралі сваякоў, памёр, на бяду, шаптун. Ці проста стары вельмі быў, ці прастудзіўся, бо прыціснулі маразы, а ён жыў адзін, сын яго пакінуў... Але што далей было! Як на тое, пасля Ваўхімавай смерці некуды адразу сышла, прапала ваўчыная зграя. Шукалі яе доўга і тут, і каля Плескаў, і паблізу іншых вёсак, ды так і не знайшлі нідзе. Ніхто больш не бачыў. Мо хіба тых ваўкалакаў пастралялі дзе-небудзь далей, прыняўшы за простых ваўкоў. Мо яны разбегліся, дык па аднаму загінулі. Ці што яшчэ здарылася. Я ўжо гэтага не скажу.

Яўхім порстка і, як мне падалося, знервавана шпурлянуў недакурак у грубку, адчыніўшы дзверцы, памарудзіў і паклаў два-тры новыя палены ў агонь. Дзверцы не зачыніў шчыльна, паўзіраўся прыжмурана. Было відно, што ўспамінамі ды фантазіяй ён развярэдзіў сабе душу. Народныя апавядальнікі, казачнікі, як правіла, і самую невераемную гісторыю ўспрымаюць за сапраўднасць, перажываюць у сабе. Нібыта яна адбылася зусім нядаўна, а яны былі яе ўдзельнікамі або сведкамі. Памятаю, як адзін з іх у чарадзейную казку ўставіў фразу: “А дзень быў такі во пагодлівы, бы сёння...”

— Дык зачараваў вяселле... – я вытрымаў паўзу, - ... хто?

— Ды ён жа, шаптун. Здагадаліся пра гэта, калі сын яго прыехаў на пахаванне. Успомнілі, што Ваўхімаў хлопец калісьці раней сватаўся

да той дзяўчыны з Плескаў. Яна не пайшла за яго, бо любіла другога, ну, таго, прапалага з вяселлем. Найперш маладой Ваўхім і адпомсціў. Акурат у вясельны дзень, пра гэта людзі таксама ўспомнілі, шаптуна не было ў вёсцы, некуды на кані ездзіў. От і разгадка табе.

— Ці вядома, дзе пахавалі шаптуна?

— На могліцах. Ды капца ніякага няма. Знік, зраўняўся з зямлёю ці не праз год, як пахавалі. Або нехта зраўняў. Яшчэ не так даўно людзі пагаворвалі, што на тую мясціну – гэта на старых, пад хмызамі, могліцах – у поўню воўк прыходзіць, вые там. Я ні разу не чуў. Дзе тыя ваўкі цяпер у нас? Во, ці не астатняга сёння застрэлілі... – Дзядзька Яўхім разбіў, разгроб галавешкі, зачыніў грубку і падаўся да стала. – Сам на паляванне заўтра пойдзеш? З маладзейшымі сходзі, я не напарнік. Тыдзень трэба адпачываць, так натаміўся. Старасць. Дый зараз пара ўжо спаць, заседзеліся. Але ж дапі-такі налíўку, слёз у хаце не пакідай.

Я выпіў і развітаўся.

* * *

Назаўтра паляванне было няўдалым. Мо з-за таго, што я паляваў адзін, без напарнікаў і Яўхімавага сабакі, папрасіць якога не насмеліўся. Увечары хадзіў – праз усю вёску – да Аніла, але дома не застаў яго: жонка сказала, што паехаў па дачку-студэнтку ў Мінск. Вучыцца яна першы год, з восені, і самастойную дарогу бацькі ёй пакуль што не давяраюць. Ці мала што можа здарыцца з дзяўчом, няхай і разумным, якое вывучае “кампуцеры”. У наступныя тры дні наведацца я не меў часу, дый, прызнацца, стала менш і жадання, бо гісторыя, якую распавёў Яўхім, засланіла нейкага там звычайнага ваўка, тым болей не яго самога, а проста здзертую шкуру з яго. Дні правёў у размовах з бацькам і маці ды занатоўваў пачутае ад іх і ад дзядзькі Яўхіма. Дарэчы, з ім я развітаўся яшчэ раз перад ад’ездам, пачаставаўшы яго сякімі-такімі прысмакамі з вясковай крамы.

З Анілам жа, першым асілкам на вёску, спаткаўся нечакана, на аўтобусным прыпынку, дзе ён стаяў з ніцінкаю-дачкою. Так, прынамсі, яна выглядала поруч з бацькам. Яны ехалі ў Мінск, я ў іншы бок, у раённы гарадок і далей, але абодва аўтобусы прыходзілі сюды амаль адначасова, і мы перакінуліся словамі. Спачатку пра ягоную дачку-студэнтку, а потым, зразумела, пра ваўка.

— О-о, - забасаваў Аніл. – І праўда, здаравенны. Большы за Яўхімавага сабаку. Дзе там! Два такія сабакі ў ім змясціліся б. Ды карысці з яго! Спнеў. Стары, худы, шкура задубелая, як мокрае сукно на марозе. Пачалі здзіраць – ломіцца, парвалася тут і там. Закапалі

ўсё, а трэба ж было ў лесе разглядзецца, праўда, цёмна ўжо было, ды і Яўхім не схацеў. Хочаце, кажа, дадому цягніце. Я і прывалок на сабе.

— А ці не сапраўднае сукно закапалі? – пажартаваў я.

Аніл зарагатаў:

— Ты ў Яўхіма быў, а не? Ён і нам нешта плявузгаў пра ваўкалакаў, але хто ж яму паверыць? Яна і то не паверыць, - паказаў ён на дачку, а тая паціснула плечыкамі.

Мой аўтобус быў першы, і я ўжо стаяў у ім з крыўдаю на гэтае самаўпэўненае “плявузгаў”. Стагоддзямі жыве, перадаецца дзіўная гісторыя-паданне пра нешчаслівыя любошчы. Яны, паданне і любошчы, аднолькава даўгавечныя, пройдуць, пэўна ж, і скрозь “кампуцерны” век. Ці ж не бывае і цяпер гора на самай вяршыні шчасця? Ці ж не будзе?

Няўпэўненыя, кволыя дзявочыя плечыкі доўга не знікалі з маіх вачэй.

## ЗЯМНОЕ

Памяці брата

Нехта ў чорным гарнітуры і збялелы ў твары быў тваім ценем; стаяў каля цябе найбліжэй за ўсіх, плыў бязважка за табою — без голасу і жэстаў, а словы, што былі толькі думкамі, спрасціліся ў адну фразу, чутую ад вяскоўцаў: такі, што не пакрыўдзіў і мухі.

Слова-знак, апошняе ў гэтай фразе, матэрыялізавалася і пакінула яе, ублыталася ў лёгкую белую накідку, у дзве столкі пасланую на дамавіну. Гусціўся гарачы жнівень, і за плоймаю назойлівых жамерын маленечкай мушкі ніхто не заўважыў, не пачуў, хоць яна бзыкала, трапяталася зеленавата-чорнаю краплінкаю ў выцінанкавым узоры накідкі. Яна сталася палонніцаю палонніка вечнасці. Ніхто не бачыў, не чуў, не ведаў.

Не ведала пра яе бабуля-пабожніца, стомленая за час усяночнага сядзення каля цябе і зморана-такі нараніцу.

Не ведалі маці і бацька, забітыя горам. Не ведалі суседзі, бо, як належыць, стаялі воддаль.

Не ведалі незаплаканыя плакальніцы і абыякавыя аркестранты; не ведалі далакопы, што паспешліва забівалі цвікі ў вечка дамавіны.

Так і пахавалі разам з тваім нерухомым і сцяжэлым целам жывую, трапяткую істоту.

А нехта ўсё ж бачыў і чуў яе трапятанне, але — змаўчаў, не зварухнуўся, каб вызваліць. Хацеў, каб хоць штосьці зямное-жывое было побач у апошняй дарозе? Ці ва ўтрапенні і роспачы думаў: няхай, калі так, і ўсё ідзе тленам?..

Мусіць, і сам Нехта не адказаў бы, каб толькі можна было ў яго запытацца. Ён знік, усё роўна як растаў у паветры адразу пасля пахавання. Мо і праўда, што ценю чалавека без самога чалавека не бывае? Аднак і гэтае пытанне засталося без адказу.

## ЦЁМНЫЯ АКУЛЯРЫ

Цёмныя акуляры мой знаёмы пачаў насіць пасля таго, як перажыў багата непрыемнасцей з-за сваіх вачэй. Першы раз — у піўным бары, калі з адзіноты і нуды неадчэпна, цягам цэлай гадзіны цікаваў за рухавым здаравяком бармэнам. Той падышоў да століка, забраў у яго недапіты куфаль, выплюхнуў рэшткі яму пад ногі і рашуча паказаў на дзверы. Другі раз — у гарадскім гаёчку, дзе ён забываўся на газету, якую чытаў, і кідаў позірк па той бок прасады: там абдымаліся двое. Яны перахапілі ягоны позірк; дзяўчына млява апусціла рукі, а кавалер умомант перасек нешырокую прасаду, пераскочыў кветнік і гняўліва саштурхнуў майго знаёмага з лаўкі. Трэці... Зрэшты, гэта не істотна. Істотна тое, што ён запрыкмеціў няладнае з вачыма: іхняга гіпнатычнага зірку цураліся нават здалёку.

Тады ён купіў сабе цёмныя акуляры. І хоць нагадвалі яны — танальнасцю халаднаватага восеньскага вечара — тыя самыя вочы, ад яго пераcталі адварочвацца, спагадліва размаўлялі з ім, што, аднак, усцешыла ненадоўга. Ён сцяміў, што ці не кожны суразмоўца падазраваў у ім якую-небудзь фізічную загану, нібыта аслоненую такім чынам. Гэта ўводзіла яго ў роспач, ён раптоўна замаўкаў ды ішоў прэч. А то наўмысна скідваў цёмныя акуляры на ланцужку, бліскаў поўневым холадам зрэнак. Калі-нікалі я быў сведкам гэтага, аднак зрокся супакойваць яго, пастаўлены перад новымі загадкамі. Таго разу ён злосна абарваў мяне і падаўся вуліцаю ў адваротны бок.

— Куды ты, на чыгунку? — рагатнуў я, бо гарадскі аўтобус спыняўся побач.

— Ага. На цягнік “Кабул — Магадан”.

Ягоны з’едлівы адказ я ўспрыняў — чаму, не ведаю — як намёкі на вайну і турму ў адной звязцы. “Быў на афганскай дэзертырам? Ці адмаўленцам наогул?..” Агучваць такія далікатныя, народжаныя інтуіцыяй пытанні перад ім я не адважваўся.

Калі я што і ведаў пра свайго знаёмага, дык толькі тое, што ён прыехаў з Расіі і туліцца ў нейкім інтэрнаце; час ад часу размалёўвае рэкламныя планшэты для фабрыкі, таксама “нейкай”, не названай ім. Яму спадабаліся мае архітэктурныя пейзажы на гарадской фотавыставе, і ён прывязаўся больш да іх, чым да мяне. Ягоныя крытычныя заўвагі бянтэжылі — ён ухваляў кампазіцыі і ўшчуваў аўтара.

— Ты ведаеш, у тваіх будынках людзі не жывуць, — сказаў ён пры першай сустрэчы ў выставачнай зале.

— Чаму ж? Яны там, за асветленымі вокнамі.

— Пазашываліся ў кут?..

Ягоная панурасць сяк-так трывалася ў фаталабараторыі, бо не замінала працы, а ў рэдкіх шпацырах па горадзе прыгнечвала. Яго нельга было развесяліць, ён то быў няўважлівы, сам у сабе, то блукаў вачыма па тварах прахожых, аднак не запыняўся ні на адным, асцерагаўся, відаць, увярэдзіць і сустрэчных, і сябе. Чалавеку было нявыкрутна, яму, я нарэшце падумаў пра гэта, патрэбен быў псіхолаг. Ні паводзінаў, ні логікі свайго знаёмага спасцігнуць я не мог. Неяк ён спытаўся: “Табе зараз не хочацца зрабіць што-небудзь кепскае? Або добрае? Запаліць лабараторыю, напрыклад...” Ён пачынаў усяляць у мяне боязь, выклікаў прыкрасць, папросту абрыдаў мне. Спагадаць яму, як астатнія, я не хацеў з прынцыпу. Гэта занадта лёгка — спагадаць, калі ў цябе дом, сям’я, штодзённы занятак у архітэктурна-праектнай установе...

— Рэч тыповая, — заявіў адмысловец з цэнтра псіхалагічнай дапамогі пасля таго, як мы ўтрох правялі дзень на прыродзе. — У твайго знаёмага, ці хто ён табе, няўтоленая патрэба ў павышанай увазе да ўласнай персоны. Вытокі прасочваюцца, але ў цэлым ён прытвора і пястун.

Калі я запытаўся, ці варта пра ўсё гэта сказаць яму, адмысловец пацiснуў плячыма: навошта, маўляў, я сказаў сам. Віна легла на мяне.

З месяц знаёмы не аказваўся. Ды аднаго разу пачуўся ягоны стук у дзверы, умоўлены, але не ціхі, як раней, а напорысты, гулкі. Здзіўленне маё было большае, чым я мог чакаць. Ён заявіўся без акуляраў, з дбайна прычасаныміваласамі, безбароды, у новай сіне-паласатай кашулі. Цёмная шэрань вачэй праяснілася да світанкавай смугі, у якой пераліваліся цёплыя бліскаўкі. Я наліў яму віна з пытаннем: за што вып’еш?

— За каго, — з нечаканай усмешлівасцю ўдакладніў ён. — Мяне, ты ведаеш, усё-такі змусілі зняць гэтую штуковіну. Бачыш?

— Бачу, аднак ледзь здагадваюся — хто? — я прамовіў стрымана, бо ягонае заўсёднае “ты ведаеш” успрыняў цяпер як папрок.

— Яна! Яна падышла і папрасіла зняць акуляры. Доўга стаяла і ўзіралася ў мяне, не зміргнула ні разу. Я жыў, ты ведаеш, у нейкім ніжэйшым свеце, а яна — падняла, адхінула новы...

Ён гэтым разам шмат і весела гаварыў. З кожным келіхам віна разнявольваўся ўсё больш і не ўтаіў інтыму начэй, чым, урэшце, абарваў ланцужок маіх уяўленняў пра тую, што так нязмушана, у адначассе, утаймавала ў ім, як прынята казаць, звера. Зацкаванага звера. Зараз ён наталяўся воляю, а я душыў у сабе прыкрасць. Ставала тут і фрывольнасці, якое ён, мусіць, не заўважыў, каб даўмецца, хто была таямнічая жанчына: падобных да яе ці мала ашываецца каля рэстаранаў і бараў?

Шчаслівая перамена ў ім абярнулася, на жаль, крайнасцю, ад мяне далёкаю, бо нашы прыязныя стасункі парваліся самі сабою, пакінулі мне ролю староннягa сузіральніка і міжвольнага спажыўца чутак.

Цёмныя акуляры мой знаёмы знелюбіў да хваравітасці і ледзь не да шаленства — гэтак, што амаль кожнаму, каго ведаў і не ведаў, тактоўна і не, у запале раіў адмовіцца ад іх. “Здыміце да д’ябла свае заслонкі, — найчасцей захмялелы, прыўлашчваўся ён і да пляжнікаў, і да маладых модніц і моднікаў на вуліцы. — Свет, ці ведаеце вы, цудоўны, не засланяйцеся!” Ад яго зноў кідаліся ўбакі, жанчыны падымалі гвалт і наклікалі на яго міліцыянера. Ён не заўсёды падпарадкоўваўся, намагаўся давесці сваё, і ягоныя рукі, якім даваў волю як апошняму доказу, апыналіся ў “бранзалетах”.

Скончылася ўсё вельмі кепска. Аднойчы за столікам у піўной ненавіснік цёмных акуляраў не ўтрымаўся, каб уласнаручна не зняць “дурной штуковіны” з былога вайскоўца.

Наведнікі, што назіралі сцэну, сцішыліся, а чалавек са скалечанымі вачыма ўткнуўся тварам у далоні. За маладога, але амаль невідушчага інваліда заступіліся вайскоўцы ў форме і збілі нахабніка на горкі яблык — па скулах, па носе, па вачах...

Без цёмных акуляраў я больш яго не бачыў.

## “ИД... ... ЦЕМ”

Апошні сынаў ліст Вольчыха чытала і перачытвала. Іхняе ліставанне і так было нячастым, - ведама ж, у сына афіцэрская

служба. Яна вадзіла, кідала яго з краю ў край, але з гэтым Вольчыха патроху звыклася, балазе Андрэй прысылаў вестку адразу, як толькі асталёўваўся зноў; было, напісаў нават з прамежкавай станцыі. Вольчыха, галоўнае, ведала: ён адгукнецца. І адгукаўся. А тут на табе: напішу праз месяцы тры. Вось і чытала-перачытвала яна гэты ліст, бо што яшчэ было рабіць? Кожнае слоўка завучыла, запамятала, хай сабе і не вельмі разборлівае, пісанае спехам. Не магла разабраць адно канец ліста, радок, сем разоў перакрэслены, траха не замаляваны. "Ид… …цем" – вось і ўсё, што здолела вычытаць, колькі ні ўзіралася. Але не хавала далёка таго ліста, пакідала на стале, каб зноў і зноў вяртацца да яго. Спробы ўчытацца як след, дапяць да новай, хоць невялічкай, весткі пра сына сталі яе пастаянным заняткам, бадай, найважнейшым з тых, што складалі яе адзінокае жыццё, - есці сяды-тады зварыць, курэй ды вепручка дагледзець, загадзя дроў расстарацца.

Секчы цапнік, прывезены суседам-трактарыстам, дачка прыслала на зімовых канікулах Валеру. "Ат, з гэтым цапнікам! Паспееш", - сказала Вольчыха ўнуку, і той не надта каб засмуціўся. У школе ён быў выдатнік, прападаў за кніжкамі, да якое-кольвек работы рукі не ляжалі. Ды якая ў горадзе работа для хлапчука?

— Хорошо, бабушка, - сказаў Валера і ўжо на другі дзень узяўся разбіраць Андрэеў ліст. Вольчыха не адыходзіла ад яго, сядзела ля стала, чакала. Валера пакапаўся ў кішэнях чорна-чырвонай спартыўнай сумкі і выняў павелічальнае шкельца. Гэтым пузатым шкельцам-лінзаю найперш пахваліўся: паказаў, як ён мацуе ў сабе сілу волі пучком святла, скіраваным на далонь. Тады прыклаў лінзу да закрэсленага сказа на Андрэевым лісце і пачаў чытаць:

— Ид... у. Доб... цем. Добр... в... цем. Добро-вольцем! "Иду добровольцем", бабушка.

— Па добрай волі, значыць? А куды, дзіцятка? – насцярожылася Вольчыха.

— Не знаю. Наверно, в Афганистан... В Египте война уже окончилась. Я знаю дядю Пашу в Бресте, он был там, в Египте. Говорил, маме говорил, что везли на пассажирских кораблях, в черных костюмах под галстуком. Как туристов. А потом одели в египетскую форму...

— І што з ім, з Пашам тваім? – спыталася Вольчыха заняпалым голасам.

— Ничего, пьет. Денег привез... Как это? Сертификатов.

— А-а, - вымавіла Вольчыха. – Дык што ж ты, дзіцятка, думаеш, і дзядзька твой, Андрэй, за грошы паехаў ваяваць?

— Так он же военный. Наши везде есть – и в Афганистане, и в Анголе, и в Эфиопии. Бабушка, ты хоть радио слушаешь?

— Слухаю, - кінула роспыты Вольчыха. Такога ўнук нагаварыў, што галава верацяном круціцца. Падрос не вышэй ад калёс, а бач ты, усё ведае, кеміць ва ўсім. “У чорных касцюмах, пад гальштукам...” А чаму? Гэта ж нашто хавацца, калі – за праўду?

Яна спалохалася гэтай думкі, і падтрымаць яе не было каму. От яе Мікіта разважыў бы як след. Старое ўсё ж разумнейшае за малое, бо не чуткамі ды кніжкамі, а доляю сваёю даходзіць да праўды. Мікіта ваяваў і ў Польшчы, і ў Нямеччыне, пад самы Берлін дайшоў, покуль не кантузіла. Мо ад тое кантузіі і памёр намнога раней за яе... Дык то ж была помста. Каб не нападалі больш, не лезлі на скрут галавы. І не лезуць жа. Дык што, самім трэба? І куды? Божачкі! На край свету.

Вольчыха цяпер часцей пачала ўключаць радыё, але пра Афганістан яно або маўчала, або чагосьці не дагаворвала. Зрэдку выступалі сладацікі, што ўжо вярнуліся адтуль, але яна іх пабойвалася. Злосныя нейкія, нецярплівыя, усё гразяцца, гразяцца... Яна не дазволіла б гэтак гаварыць Андрэю. Нашто ж, каб усе цябе баяліся? Было, набаяліся, матка яе, Волька, у лагеры сядзела. Нібыта за шкодніцтва, за растрату ў краме, а па-цвярозаму, дык за тое, што не дагадзіла вось такому пагрозліваму... Брыгадзіру.

Тыдняў ля двух тупала па хаце ды па двары са сваімі думкамі Вольчыха. Унук паехаў дадому, ужо аж да летніх канікулаў, і толькі тады яна ўспомніла, што не разлічылася з суседам за прывезены цапнік.

Сусед разгледзеў штэмпель на канверце і дасведчана зазначыў:

— Страцягічаская пазіцыя. Блізка да граніцы, - патлумачыў ён, - вось і перакінулі. Не думаю, што надоўга. Адслужыць сваё, афіцэрскае...

— Добра табе, Хведарка, так казаць.

— Дак я табе хто, ваенсавет? Генералісімус? Распараджаюся, каго пасылаць, а каго не? – зазлаваў Хведар. – І хіба я сказаў, што там ваююць? Евін хлопец вярнуўся вунь... Халера іх пойме.

“Дурная, - цяпер сама сябе папракала Вольчыха. – Еву ж учора ў краме бачыла. І не загаманіла...”

Назаўтра яна памкнулася да Евінай хаты. Але ў хату да сына Ева не пусціла. Кінула бярэмінку дроў ля ганка, пайшла насустрач па расчышчанай ад снегу сцежцы.

— Не трэба яго чапаць, - не даслухала, насцярожана прамовіла Ева. – Не ў сабе ён. Не скажа нічога. Не хоча гаварыць.

— Дык што, страляюць там, Евачка?

— Ужо ж не! Майго акантузіла. Пенсію, во, даваць будуць... – Евіны словы памякчэлі, аслаблі, і яна загаласіла.

Вольчыха таксама не ўтрымалася, дала адхланне затоеным слязам, а з імі і крыўдзе на сына:

— От надумаў што – па добрай волі! От надумаў! Безгаловы, ой, безгаловы...

Яна паўтарала і паўтарала гэта, покуль Ева не ўслухалася, не спытала яе:

— Не трэба так, крый Божа, раней часу бяду наклічаш, - і перахрысцілася. – Мо і я чым угнявіла Яго. Кляла без дай ладу армію, начальнікаў над той арміяй... А ты – сына! Не трэба. Няможна.

Вольчыха замоўкла, пацалавала мокры Евін твар і падалася дахаты. Нічога цяпер не заставалася, як чакаць. Але чакаць проста так, бы агню з вады, не магла. Пісала лісты дачцэ: а раптам ёсць вестачка ў яе, мо прыслаў? Не, адказвала Ануля, няма, яшчэ ж толькі-толькі тры месяцы мінулі.

Дый адпісвала дачка рэдка – раз на два лісты. З апошнім адказам дык і зусім зацягнула, а потым бразь варотцамі – і ў двары, сама прыехала, не папярэдзіла.

З таго, як шпарка, з першай вясновай гразёю на боціках дачка ўвайшла ў хату, пачала разгублена таптацца ў парозе, Вольчыха здагадалася, што прыехала яна з нядобрай весткаю. “Хай сабе, - стрымалася Вольчыха, - абы хоць якая пэўнасць...” Яна адчула, што выбалела душа яе ад чакання, пасуровела. Другі раз было гэта ў жыцці ў яе. Першы – у вайну з немцамі, калі Мікіта напісаў, што перайшлі мяжу з Нямеччынай. Ой, як зашчымела, заныла тады сэрца! Чула яно, балеснае, што бяда як ніколі блізка падступілася да Мікіты – немец жа будзе з усіх сіл біцца, не чакай літасці, наробіць крыві. І не памылілася: выбух снарада адкінуў аглушанага, панявечанага Мікіту ажно ў Тыфліс, у Тбілісі па-сённяшняму. Адтуль толькі, са шпіталя, праз якога паўгода напісаў ён зноў, а душа яе ўжо не адчула ні болю, ні радасці...

— Не цягні, Ануля, кажы як ёсць. Жывы? – суха прыспешвала дачку Вольчыха.

— Мама, ты не палохайся: жывы, - нарэшце скінула паліто, прытулілася да матчыных грудзей Ануля. – У шпіталі ён па гэты бок. Саслужывец яго напісаў мне. Пад дыктоўку... Ой, мамачка-а! – Яна ўпала галавою на матчына плячо, зайшлася ў плачы: - Ой, мамачка-а-а! Хай бы яго лепш... Скажу, скажу, хоць і прасіў ён, каб маўчала... Бязногі ён. І рук няма. Кажа, каб не забіралі або атруты якое

прывезлі. Настаяў, мусіць, каб саслужывец напісаў... Ой, мама, што ж гэта нарабілася-а-а!

Застылая стаяла Вольчыха. Дзве слязінкі далучыліся да Гануліных слёз, ды не апякалі твару, а, наадварот, студзілі, выводзілі са здранцвення. Яна адхіліла дачку, страсянула рукамі:

— Як гэта, не забіралі? Ты што кажаш?! Ім пакінуць, ім?.. Дагледжу. Заўтра ж паеду... Сёння! Дзе канверт, адрас давай. – Успомніла пра Андрэеў ліст, дачытаны ўнукам, і ўжо з нястрымнай роспаччу накінулася на дачку: - Трэба, каб Андрэй быў тут. Мне трэба, табе, Валеру твайму... Ага, Валеру! Ты як гадуеш яго, га?

— А што я? – перастала плакаць Гануля, апрытомненая нечаканым матчыным папрокам. – Хіба я адна гадую, адна выхоўваю? Каб жа адна... Што ён у школьным сачыненні напісаў, ты ведаеш? “Мой дядя исполняет свой долг в Афганистане. Я тоже пойду добровольцем...”

— Куды? Куды ён пойдзе?! – Вольчыха замітусілася, пачала збірацца, хапаць адзежыну з вешалкі ля дзвярэй. – Куды-ы?!

## ЛЕКЦЫЯ

Мне вельмі ж, вельмі трэба было выклікаць з універсітэцкай аўдыторыі Леанілу, але я не адважваўся ўвайсці і толькі злёгку прачыніў дзверы. Па-першае, за кафедраю стаяў строгі і пашаноўны прафесар, а хто я? — год з хвосцікам, як працую настаўнікам; па-другое, лекцыя была надзвычай цікавая, захапіла мяне і да ўсяго ж заканчвалася. Я прыслухоўваўся да гартаннага прафесарскага голасу і пры гэтым не забываў цікаваць за нявестаю, каб падаць знак, што я тут:

— ... гэта чалавек, цалкам пазбаўлены эмоцый. Для яго “боль”, “каханне”, “смерць” — усяго толькі назвы, канкрэтныя абазначэнні, простыя і беспачуццёвыя, як “стол”, “кубак”, “дрэва”. Разумовыя здольнасці ў яго не парушаны, наадварот, ён занадта цвяроза думае пра сваю ахвяру. Ахвяра марна будзе яго прасіць і расчульваць. Ён спакойна і ўважліва назірае, што адбываецца з ёю, калі яе душаць, калі яна сыходзіць у апошніх канвульсіях. Псіхапат-забойца робіць матэматычныя разлікі: колькі і каго забіць, каб утварыўся баланс. Зірніце, калі ласка, на манітор.

Экран паказаў чалавека са звычайным тварам, хіба што вочы былі зусім нерухомыя, застылыя. Ці то зводдаль мне такімі ўявіліся. Пасля паўхвіліннага стоп-кадра мужчына на экране загаварыў: “Я

забіў двух хлопчыкаў, і гэта мне падалося аднастайным. Тады я вырашыў забіць дзвюх дзяўчынак. Калі гэта было? Без двух месяцаў два гады назад. Цяпер, пасля курсу лячэння, я ачуняў і мяркую, што разрахаваў правільна. Ці мог бы паўтарыць? Мог бы. Добра памятаю, як рабіў...”

Увесь час, пакуль не выключыўся манітор, прафесар вадзіў вачыма па аўдыторыі і ні разу не змяніў выразу твару, не ўздрыгнуў ніводнаю вейкаю, ніводнаю жылкаю. Колькі ж ён гадоў, прыкінуў я, вось так спакойна і грунтоўна чытае падобныя лекцыі ды практыкуецца ў псіхіятрыі? Добра, што ў мяне — літаратура...

— На сёння ўсё, — сваім ранейшым выразным голасам сказаў прафесар, — адно мушу дадаць, што... Што той, хто выслухаў гэтыя выкладкі, мае і майго пацыента, без прыкметных эмоцый, — той схільны да псіхапатыі, хочаце таго ці не. Ну, вось вы, малады чалавек, — ён раптам паказаў рукою на прачыненыя дзверы, — як вы ўспрынялі?

Я ступіў па другі бок дзвярэй і паспрабаваў пасміхнуцца. Студэнты як адзін павярнуліся да мяне запытальна. У здзіўленні і чаканні пазірала Леаніла.

— Успрыняў так, прафесар... Успрыняў так, што вы аніколечкі не запярэчыце, каб мы з нявестаю (я назваў яе) узялі лахі пад пахі і памчаліся прымяраць вясельныя ўборы. Даруйце, але яны акурат гатовыя. Паслязаўтра вянчаемся.

Спачатку недаўменна і нясмела, затым нязмушана і лёгка студэнты зарагаталі. Я пазіраў на прафесара. Ён незадаволена цёпнуў галавою і пайшоў да стала, узяўся пакаваць партфель. Каб праз хвіліну ён не кінуў яго і не далучыўся да агульнага вясёлага смеху, я кепска падумаў бы пра вельмі пашаноўнага чалавека.

## ТЫ ЖЫВАЯ, ГАННА?

— Ты жывая, Ганна? Бачу: дзівішся, не чакала.

— Ну, чаму ж. Але чакала не сёння, ты ж прыходзіш у дні, калі ў хаце няма памагатае. Праўда, яна сёння і носа не паказала.

— Хіба першы раз так? Схаджу ўсё-ткі я да ўлады, хай новую жанчыну прыставяць. Гэтай — дарма грошы плацяць. У вочы ёй казаў.

— Кінь: якія грошы, такі і догляд. Сама ўправілася. Дроў, што ты нанасіў, хапіла, бульбы. Хату, бач, падмяла... Хоць сватоў засылай.

— Дык, гэта, я магу і са сватамі...

— І з вянчаннем, і з вяселлем?

— Ты не пагодзішся, а то чаму б. Не смейся. Проста… Проста жыць нам трэба ў адной хаце — ці тут, ці ў маёй, навейшай… Даўно пара.

— От як. Не даўмелася ў акно зірнуць: мо на кані прыехаў, і званочак пад дугою? Давай-такі зірну, падмажы ўстаць.

— З акна не ўбачыш, карэта пад самым ганкам стаіць… Згледзіш хіба суседку, была на вуліцы. Зноў "добры дзень" кінула мне са смяшком.

— Ці не да мяне, паламанай качаргі, раўнуе! Неяк жартам спытала, дык яна зацялася. Даўно не заходзіла, хіба дачка яе часам.

— Часам жарты выходзяць на праўду. Ці казаў я: была і яна ў мяне на прымеце? Не яна адна… А да каго ласціўся, каго любіў, тое і кожны камень ведае… Спадзяваўся адстаяць цябе перад Іванам, потым, дурань, — забраць у яго. Не атрымалася, а тым парадкам і ўсе мае "запасніцы" павыходзілі замуж. І, глядзі ты, дасюль з мужыкамі жывуць.

— Цэлае сяло каханак, а ты ўсё адзін. Жонку, хай і на старасці, вярнуў бы. Га, Рыгор?

— Якая мне яна жонка. У горадзе сабе, пры мужыку, сыне ды нявестцы. Не заходжу да іх… Дай Бог памяці, калі я ў іхнім горадзе быў! Сын гады ў рады вырвецца адтуль, праведае — дзякуй і на тым. Машынаю прыедзе і паедзе, не заначуе. Няма калі: у начальніках ходзіць, жонка на гадоў пятнаццаць маладзейшая… А от у дом старых і адзінокіх, як мы з табою, не пускае. Не саром, кажа.

— Не ўся праўда твая, Рыгор. Ты што, проста так угаворваў мяне першаю ехаць у той самы дом?

— Як гэта проста так! Дзяцей у цябе няма, зусім адна і хворая. На даглядчыц табе не шанцуе. Няхай бы сабе ехала. Але ж не, пабыла крыху і вярнулася.

— Цябе сын не пускае, а мяне — няма каму? Як прыехала з пансіяната, адразу на могліцы пабегла. Не было тыдня, каб не завінулася там, балазе здароўе папраўіла… Цяпер куды мне: яны самі да мяне ходзяць.

— Хто?

— Маці, бацька, вельмі часта — Іван. Мо крыўдуюць, што не наведваюся на магілы. Мо ў Івана не адно з-за гэтага крыўда… Гэта ў яго дзяцей не магло быць. А я — грэшніца. Хацела ўпотайкі зацяжарыць. Ад цябе, ты яшчэ быў жанаты тады… Не змагла, прызналася Івану. Спадзявалася нават, што пагодзіцца на гэта. Людзі

ж так робяць часам. Галава авечая! Ледзь не загубіла яго. Ён засіліцца спрабаваў, добра, што прыгледзела, не дазволіла…

— Не плач. Лёгкая ты як на жарт, так на слязу. Папракаеш мяне маім сынам? Твайго, ну, нашага, калі б ён раптам быў, часцей бачыў бы, а майго — гэты наезджы плюшч гарадскі малым забраў. Няблізкія мы. Давай з табою блізкія станем. Дзве хаты свае маем —нашто чужое?

— Во, з чаго пачалі, тым і скончылі… Ага, пра карэту тваю забыла. Дзе яна? Дальбог, схаджу гляну. Ну, хоць ката ўпушчу, даўно ў дзверы шкрабаецца… Падай, добры будзь, мыліцы.

— Не трэба табе мыліцы! На, накінь ватоўку. Яшчэ не зломак на рукі цябе ўзяць. Смейся-смейся… Мацней мяне за шыю абдымі. Якая ж ты лёгкая, высахла ўся, мала ясі… Не бойся, сходкі зручныя, сам ганак падладжваў. Сядай, бач, якая карэта! Нямецкая, сын расстараўся… Уселася?

— Уга, што вяльможніца. Але ж людзі, Рыгор… У сваю хату павязеш?

— Затуліся, дзень ветраны. Восень.

Ужо амаль аддыханы, ён пасунуў інвалідскі возік перад сабою. За весніцамі павярнуў у бліжэйшы канец вуліцы. Там, за кукурузным полем, высіўся пагорак з купкамі дрэў, дзе ляжалі іхнія продкі, дзе ў адведзіны чакаў Ганну яе Іван.

## САМААХВЯРНАСЦЬ

Яна дала яму ўсё: высокае неба і неабсяжныя прасторы зямлі, прагу жыць і ствараць красу. Яму, аднак, было мала, і яна падаравала яму сына, потым дачку. Яго не пакідала пачуццё незадаволенасці, і яна збавіла яго ад багемы, заадно — ад хатніх клопатаў і дазволіла ўзыходзіць па стромкіх прыступках вядомасці. А яму па-ранейшаму чагосьці бракавала, і яна здагадалася, чаго: смутку, трывогі. Яна пакінула яго назаўсёды, і адно тады ён адчуў усю паўнату жаночай самаахвярнасці: падараваць страту.

## ЧАЛАВЕК-СЛАНЕЧНІК

Хударлявы і надзвычай высокі, з цяжкаю бялява-рыжай галавою на прыгнутай шыі, — чалавек-сланечнік. Гэтак я зазначыў адразу, калі ўбачыў яго на балконе восьмага паверха ў доме насупраць. Там

ён паяўляўся тройчы на дзень, прастойваў паўтары гадзіны кожнага разу і нязменна быў у зялёнай кашулі пад гальштукам (няйнакш, вайсковай) і з цыгарэтаю ў доўгім муштуку, які ён зноў і зноў запраўляў курывам. Паяўляўся ў адным і тым жа часе, чым пагатоў апраўдваў маю метафару, бо нездарма сланечнік называюць сонечным гадзіннікам.

Пачынаў ён сваю варту а сёмай раніцы, неўзабаве пасля таго, як я сядаў за пісьмовы стол перад акном. Пісалася марудна, і больш, чым нездароўе, — прастудзіўся ў дождж на дачным агародзе, дзе, між іншым, самасеем разрасліся сланечнікі, — я лічыў прычынаю марудлівасці яго, новага суседа. Ён забіраў маю ўвагу, напрошваўся ў маю навелу з пакручастым, і без таго, сюжэтам. Не за правіла было мне рабіць гвалтоўны залом там, дзе ўсё было абдумана; заставалася толькі гэтак жа паслядоўна дапісаць.

Мяне, у акне трыма паверхамі ніжэй, ён таксама мог бачыць. Калі б хацеў. Але нашы позіркі ні разу не сустрэліся. Ён то застываў, абаперты рукою на парэнчу балкона, як быццам для таго, каб не зламацца ў сваёй высокай постаці, і пазіраў на дол, то прысаджваўся на чымсьці за балконнаю сценкаю і апускаў галаву. Адпачываў, а пасля зноў узіраўся ў двор, у забетанаваную сцяжынку, што вяла шматлікімі адгалінаваннямі да кожнага пад'езда абодвух дамоў. Мне трэба было падыходзіць да акна і прыпадаць да шыбіны, каб тая сцяжынка адкрылася вачам. Гэта я рабіў па абедзе, у часе другой суседавай “вахты”; я чакаў ганарару з часопіса і спадзяваўся заспець паштарку ў двары, баяўся, што яна палянуецца падняцца на пяты паверх і кіне квіток у паштовую скрынку ўнізе. Мне, занятаму навелай і ў дадатак хвораму, было не з рукі ісці на пошту.

Навела па-ранейшаму не давалася, стыль чым далей, тым больш траціў зграбнасць. Мяне ўсё мацней раздражняў чалавек-сланечнік. Не пісалася ні тады, калі ён нудзіўся на балконе, ні тады, як — апоўдні і адвячоркам — надоўга знікаў. У ягоную адсутнасць мяне даймала думка пра мэту гэтага знікнення. Ці то ён маркоціўся ў глыбіні кватэры, ці то некуды сыходзіў з яе? Куды, на вакзал? Я амаль не сумняваўся, што ён заклапочаны чаканнем.

Паштарка, якая ўсё ж аддала ў рукі мой ганарар і атрымала за гэта свой, з ахвотаю пацвердзіла, што новы “абанент” і праўда ў чаканні — жонкі і сына або хаця б тэлеграмы ад іх. Ён марна шукаў кватэру ў Мінску і купіў тут, у памежным горадзе. Вестку паслаў тэлеграфам, чакае выніку, бо ехаць па сям'ю самому, казаў, няблізка. “Усё так проста, і ўсё так банальна”, — падумалася мне.

Уначы прымроілася сустрэча: сям'я апантана-шчаслíва абдымаецца на балконе, які ўвесь патанае ў квецені сланечніку... "Глупства", — падумаў я ўранку. Зусім не такая канцоўка мелася быць у навеле, у якую я ўвёў усё-такі партрэт і паводзіны чалавека-сланечніка. Спакусіла прыгожая метафара? Падштурхнула ягоная незнарочыстая назойлівасць, з-за якое гэтак туга пісалася?

Але тады, пасля прыснёнай сустрэчы, мне ўсцешна было, што застаў у акне нязменнае: балкон у вышынным доме і самотнік на ім з паніклай галавою. Ранішнюю "вахту" я адстаяў разам з ім, смаліў, як ён, цыгарэты ў адчыненае акно і намагаўся выкрасіць у думках завяршэнне навелы. Вось ён, нізка нахілены над балконам, раптоўна ачуваецца, ускідваецца ад радаснага дзіцячага воклічу і неабачліва, сам ахоплены радасцю, мкнецца на голас кумільгом, цераз парэнчу... Я мерыўся падбіраць варыянты і па абедзе, аднак, на маё здзіўленне, чалавека-сланечніка на балконе не было. Ён стаяў унізе, у двары, з паштаркаю. Распісаўся ў яе службовым сшытку, узяў з яе рук тэлеграму. Не затрымаўся, каб прачытаць, хуценька знік у пад'ездзе. Мне ўрэзалася ў памяць, як спачувальна-разгублена пазірала ўнасач яму паштарка.

Надвячоркам тузануў да акна жаночы крык. Я вызірнуў: у двары галасіла, клікала людзей суседка з дома насупраць і паказвала рукою то ўгару, на восьмы паверх, то некуды за кветнік пад сцяною. Астатняе — адно памятаю, што я кінуўся да дзвярэй, — праплыло на мяжы сну і явы. Ці то ў свеце маёй навелы, якую нечакана завяршыў, але не магу з пэўнасцю сказаць, што здзейснілася раней: жыццёвая праява або аўтарская фантазія. Час ад часу перачытваю канцоўку: "Першы і апошні раз я ўбачыў яго блізка. Гэта быў сланечнік са скручанай галавою — так хістка, няўклюдна ляжала яна паверх тулава, распластанага на зямлі".

І толькі нядаўна падумалася, што я мог адхіліць такі фінал.

## БББ (БУНТ БЯССПРЭЧНАЙ БОЛЬШАСЦІ)

Варта было паявіцца ў лячэбніцы маладому доктару – змяніў калегу, які выйшаў на пенсію, - як яны ўзбунтаваліся. Дыягназ яму паставіў Гіпакрат, былы вясковы фельчар:

— Смаркаты недавук, схільны да эксперыментаў над намі.

Яго па абедзе падтрымаў Кулінар, кулінарам ён быў і да хваробы, — адмовіўся прымаць таблеткі, пакуль не пакаштаваў іх сам доктар.

— Раней нам давалі цукеркі, а цяпер, як я галавою думаю, могуць даць атруту.

Пільны Камісар Мегрэ, ён жа нядаўні мадэльер на швейнай фабрыцы, заўважыў няладнае ў доктаравым халаце: караткаваты, затое з дужа вялікімі кішэнямі. Яны скралі халат, падралі кішэні на стужкі, каб іх можна было падшыць знізу.

Назаўтра яны зацікавіліся запісамі, якія рабіў доктар то ў сваім кабінеце, то дзе-небудзь на калідоры, схілены над падваконнікам, то зрэдзь у палаце. Сабралі дэлегацыю, вытрабавалі сшытак і даручылі рабіць запісы ў ім Рахункаводу, які тут, у лячэбніцы, пачаў складаць вершы.

Бунт працягваўся цэлыя два дні, і ніхто, на тым настаяў доктар, яго не ўціхамірваў. Увесь гэты час у палаце верхаводзіла бясспрэчная большасць.

З пункту гледжання пацыентаў усе яны былі нармальныя – адносна доктара, які іх лячыў.

## ЗБОЙ

### 1

З нядаўняга часу ў горадзе дзеялася невераемнае: норавы, паводзіны і ўчынкі жыхароў увачавідкі мяняліся. Гуманізацыя, як пісала самая папулярная гарадская газета, пасоўвалася “паскоранымі і, галоўнае, няспыннымі тэмпамі”. Называлася і лічба: ужо да 95-ці адсоткаў насельніцтва стала беззаганнымі, калі не сказаць ідэальнымі, людзьмі. Урэшце, амаль кожны гараджанін дзіўныя перамены ў сабе і ў іншых заўважаў сам, кім ён ні быў бы, якую б пасаду ні займаў.

Дворнікі не мялі смецця на ногі прахожым і не лаяліся, дый лаяцца, па сутнасці, не было на каго: нават маленечкую паперку ўсе наравілі кідаць толькі ў сметніцу.

Міліцыянер – адзін з тых, хто застаўся ў ахове правапарадку пасля кардынальнага скарачэння штату, - затрымаў ці не апошняга п’янага. Пры гэтым правёў затрыманага не ў “малпавік”, а да яго на кватэру, дзе дапамог таму распрануцца і прыняць душ.

Прадаўцы не аблічвалі пакупнікоў. Бухгалтары, загадчыкі складоў і нават злодзеі ў законе не кралі.

Начальнікі тактоўна ставіліся да службоўцаў, а хадакам-просьбітам гатовыя былі ахвяраваць хоць адзін, няхай і не самы

новы, свой аўтамабіль. Просьбу, малую ці вялікую, рупіліся выканаць тут жа, прынамсі, давалі тысячы гарантый, што выканаюць заўтра.

Весела, з песнямі і карагодамі, без ніякіх эксцэсаў праходзілі гарадскія святы. Не зачыняліся дзверы грамадскіх бібліятэк, пры гэтым найбольш ходкімі кнігамі зрабіліся "Этыка", "Эстэтыка" і "Горад Сонца".

Перамены адбываліся велізарныя, людзі пакрысе рабіліся добрымі, суседскімі, клапатлівымі. Адно, на што яны часам скардзіліся, - на няўцямны шум у галаве, і наракалі на круглаверхі будынак з антэнамі за высокай белай сцяною: казалі, адтуль сыходзіць радыяцыя. Але неўпрыкмет звыкаліся, балазе шум усё больш мякчэў, нярэдка перапыняўся і пераходзіў няхай у незразумелы, затое прыемны чалавечы голас, які заспакойваў і нават прыносіў асалоду. Пераставаў непакоіць і круглаверхі будынак на ўскрайку горада, больш за тое, пайшлі чуткі, што там месціцца ўнікальная касмічная абсерваторыя, якая прымае сігналы з Галактыкі.

Апошняя акалічнасць значна аблегчыла апытальную працу гурта людзей у лёгкіх бела-блакітных камбінезонах, што там і сям паяўляліся на вуліцах. Іхняя вопратка, а таксама дыктафоны і планшэты ў руках, у дадатак да ўсяго бліскучыя слухаўкі на галовах у некаторых дужа прываблівалі прахожых. Яны самі прыпыняліся і ахвотна ўжыўляліся ў гутарку. Цікавасць да космасу, аднак, ні трошкі не наталялася: бела-блакітныя камбінезоны ў дзесяць разоў больш задавалі пытанняў, чым адказвалі на пытанні суразмоўцаў. Давалі адзін і той жа адказ – суха, а то і грубавата, з раздражненнем: маўляў, аб'ект засакрэчаны, пра яго яны ведаюць гэтулькі, як вы; задача ў іх простая, "зямная": яны праводзяць папярэдні перапіс насельніцтва. Прахожых гэта не расчароўвала, хутчэй наадварот. Найбольш кемлівыя меркавалі: ці не пачаўся і ў іхнім горадзе падбор астранаўтаў-турыстаў? Пакуль што турысцкія касмічныя падарожжы не такія частыя, але хто ведае, што будзе праз год, праз два.

Найбольш кемлівыя, зразумела, былі і найбольш радыя пераменам, перш за ўсё – пераменам у саміх сабе.

2

У авальнай зале будынка за белай сцяною праводзілася вучоная нарада.

— Псіхатронная сістэма дала збой, - катэгарычным тэзісам пачаў свой даклад старшыня кантрольна-праверачнай камісіі. – Не выклікае сумнення, што была парушана частотнасць электрамагнітных імпульсаў. Сёння нам трэба высветліць віноўных.

Старшыня нарады перабіў яго:

— Так адразу і віноўных. Скажыце спярша, што сталася на самой справе?

— Сталася адваротна прапарцыянальнае таму, чаго мы чакалі. Біяэфекты проста агаломшваюць. Калі б эксперымент прайшоў ў зададзеным кірунку, гэта быў бы найвялікшы трыумф айчыннай і сусветнай навукі і, адпаведна, нашай абароназдольнасці…

Цягам гадзіны старшыня камісіі аналізаваў і падсумоўваў вынікі праверкі, падаваў яскравыя рэальныя факты, якія былі палярна неадэкватныя праведзенаму эксперыменту. Факты закраналі не толькі прадаўцоў і дворнікаў, бухгалтараў і міліцыянераў, але і выключных, як сказаў ён, грамадзян. Так, дакладна высветлена, што крымінальны аўтарытэт, калі выйшаў з турмы, не здолеў адпомсціць былому свайму хаўрусніку, які ў турму яго пасадзіў: замест кухоннага нажа ён схапіў, нечакана для сябе, скібу хлеба са стала і замахнуўся ёю. Цалкам праўдзівы і такі выпадак: патрульны вайсковы афіцэр, узброены табельным пісталетам, ушчуваў і ўгаворваў гвалтаўніка, што глуміўся з незнаёмай маладой жанчыны… Напрыканцы дакладчык не без скрухі пацвердзіў лічбу, названую журналістамі папулярнай газеты: маральна-псіхалагічны стан палепшыўся, у разуменні псеўдагуманістаў і псеўдапатрыётаў, амаль ў 95-ці адсоткаў гарадскіх насельнікаў.

Авальную залу сціснула душная цішыня. Праз невыносна доўгую паўзу яе парушыў старшыня нарады.

— Калега, – сказаў ён, - ці высветлена, хто тыя астатнія пяць-шэсць адсоткаў, што не падпалі пад агульную тэндэнцыю?

— Гэта найперш псіхічна нездаровыя людзі, - канстатаваў старшыня кантрольнай камісіі. – Электрамагнітнае ўздзеянне на іх блізкае да нуля.

Ні з таго ні з сяго ў глыбіні залы рагатнуў малады асістэнт. Усе павярнулі галовы да яго.

— Даруйце, - з застылаю ўсмешкаю прамовіў той. – Я не пра хворых падумаў… Уявіў вайскоўца, што згадваўся ў дакладзе. Раптам - ён міжкантынентальшчык, афіцэр на дзяжурстве! Мы яго апрамянілі, але ў нас – збой у сістэме. Замест таго, каб праявіць пільнасць, рашучасць і мужнасць, ён упадае ў мілажальнасць і меланхолію. Абрывае з пульта кіравання балістычнымі ракетамі каштоўныя металы т майструе з іх адмысловыя кветкі для жонкі, цацкі-забаўкі для дзетак… Як гэта вам?

Ягонага жарту ніхто не падтрымаў.

— Абсурд. Крамола, за якую нас пакараюць без суда, - прабурчаў адзін з вучоных.

— Што зашкодзіла, тым і лячыся… - запярэчыў яму другі. – А што калі дзеянне псіхатроннай сістэмы ў рэжыме, які выпадкова ўтварыўся, скіраваць на варожую армію?

— І тады не мы, а яны няхай забаўляюцца ў часе баявых дзяжурстваў, так? – давяршыў думку трэці.

Згода, аднак, не настала. Усчаліся спрэчкі. Сумніўцаў аказалася больш, чым прыхільнікаў новай стратэгіі. Ці мажліва закінуць у варожы стан легіёны шпіёнаў і дыверсантаў, паколькі псіхічная зброя дзейсная пакуль што на вельмі блізкай адлегласці? Як ахаваць саміх дыверсантаў?.. Малады асістэнт усумніўся і ў тым, ці можа назваць сябе пераможцай армія, якая пасля ўдалай псіхатроннай атакі пачне паланяць, а то і забіваць, бязвольных, бяскрыўдных, у рэшце рэшт прыязных варожых салдат? Хтосьці з вучоных назваў ягоную сентэнцыю рэліктавай, хтосьці ўважыў за жарт, і ўсе пасмяяліся.

Падвесці рысу мусіў старшыня нарады. Ягоныя высновы былі такія ж нечаканыя, як і вынікі эксперыменту, – гром з чыстага неба.

— Наўрад ці засмучу вас, і ўсё ж ведайце, - сказаў ён. – Адсоткі людзей, якіх бракуе да поўных ста, - гэта, калегі, вы. За час працы над фантастычнай зброяй вы так прасякліся ліхам, што Усясветная праграма дабра і міру вас не закранула. Яна гвалтоўна, неўпрыкмет была закладзена ў сістэму, распрацаваную вамі, і збоі тут ніпрычым. Змененая сістэма, аднак, не змяніла вас. Нават за гэтыя тры гадзіны звышінтэнсіўнага ўздзеяння яна не дала станоўчых вынікаў. Цяпер вы зусім вольныя, пажывіце сярод людзей. Магчыма, некаторыя з вас яшчэ сюды вернуцца. Лабараторыю Цэнтр перадае асістэнту, ён падбярэ новы штат навукоўцаў.

Калі прысутныя пакінулі залу, старшыня падышоў да маладога асістэнта і ўзяў яго за руку:

— Расшчамі кулак, хлопча, выпусці муху, а то задыхнецца. Бачыў, як ты злавіў яе ў часе дыскусіі… Ад нуды?

— Вы сёння ж дадому, на Альфу? – ужо вольнаю рукою хлопец паказаў на акно, за якім апускаўся вечар і свяціліся першыя зоркі. – Сувязь будзем трымаць на ранейшых частотах?

# РОСКА, або ПАКІНУТАЯ ВЫЖЫЦЬ

1

Зараз яна, калі б хто яе бачыў, нагадвала самотнае паганскае божышча, сіва-белае і доўгавалосае, што заняло гэтую паўцёмную апусцелую чатырохсценку, каб нарэшце адгарадзіцца ад ліхога, апастылелага свету. Аднак свет зноў і зноў упарта нагадваў пра сябе, і Роска наструньвалася, чуйная да таго, што чынілася на двары. Рану яна ўжо залізала, крыху сцішыла боль, падабрала кропелькі крыві з падмоклай і без таго саломкі, на якую клалася пярэднімі лапамі і галавою, каб адпачыць. На спіну раз-пораз сцякалі халаднаватыя дажджынкі, аднак сука не сыходзіла з-пад іх: страха ў хляве свіцілася паўсюль, а ля самых варотаў ужо стаяла лужынка.

За варотамі, у хлюпаце двара, грызліся між сабою яе дзеці. Яны шалёна храплі, гыркалі, стукаліся аб хлеў, не здатныя падужаць адзін аднаго. Іхняя валтузнабуджала ў Росцы то страх, то ярасць. І тое і другое зыходзіла ад бяссілля. Яна была слабейшая за кожнага з іх, чатырох самцоў, і не падобная да іх, вялікагаловых, іклатых, з настабурчанай шэраю поўсцю на загрыўках і шырокіх лапатках. Роска, як бы ні прагнула, больш не магла напаіць іх сваім малаком або ўціхамірыць іначай — рашучым позіркам, як нярэдка абыходзілася раней з бездапаможнымі, хоць і тады ўжо настырнымі шчанюкамі. Разагнаць, прыструніць забіякаў змог бы толькі чалавек: гаспадар ці нават Санік. Першы — уладным крыкам, другі — пранізлівым плачам, а не дык замашною пугаю, з якою амаль штодня, пасля вясновага і да восеньскага снегу, хадзіў за каровамі. Росцы падабалася дагаджаць яму, яна зазвычай не чакала ягонай каманды і бегла заварочваць траіх рагатых шкодніц ад жытнёвага поля або ад стажка сена на ўзболатку. Санік у такім разе частаваў памочніцу кавалкам хлеба ці салодкага блінца, гладзіў пры гэтым па ўскудлачанай грыве. Але тое ўсё было так даўно. Зараз тут людзі, да якіх прыкіпела ўсім нутром і вобразы якіх наплываюць парою ў мроі-тумане, ужо зусім не паказваюцца.

Калі бойка ў двары прыпынялася, Роска чула, як храбусціць голая і цвёрдая, бы камень, костка на зубах у наймажнейшага са шчанюкоў — адваяваная ім спажыва. Астатніх адольвала знямога, і яны адсопваліся, адлежваліся, смокчучы ўласную кроў, — залізвалі раны.

Роска была радая гэтым хвілінам. Супакоена корпалася вакол сябе ў саломцы, вышчыпвала зубамі выпадковае зярнятка ці жавала ссохлую, але яшчэ не распыленую, бо набралася вільгаці, зялінку. Хлеў

быў яе сховаю і яе пасткаю. Яшчэ тады, як дзеці гняўліва ашчэрыліся на яе ўпершыню і яна адказала ім той жа непрымірымасцю, Роска заўважыла прысыпаны парахнёю пралом у сцяне хлява — невялікі і акруглы, бы лісіная нара; яна сцяміла, што тая акруглiна і ёсць яе адзінае выратаванне. Уцякаць больш не было куды: проста перад ёю і злева ад яе шчыльнілася заслона з шумавінных пашчаў і маладых нязломных лапаў. Справа, на высокім калодзежным зрубе і гэткай жа трывалай глухой браме, акляпанай жалезам, ляжала суцэльным друзам страха з шыферам і некалькімі цаглінамі ад коміна. Не заскочыць і нават не закараскацца на такую крэпасць.

Не, Росцы падзецца не было куды, а толькі ў гэтую нешырокую адтуліну за сабой, адкуль час ад часу павейвала пахамі прэлай саломы. Першы наскок зграі яна вытрымала, няхай і паплацілася шматкамі сваёй доўгай поўсці і парваным сухажыллем на правай пярэдняй лапе. Яе апірышчам аказалася сцяна, аб якую яна спачатку абаперлася ўсім хрыбетнікам, выстаяла, каб тут жа моцна адштурхнуцца заднімі нагамі. Найдужэйшы з нападнікаў кульнуўся на спіну, і яна праляцела над ім, апусцілася на крокі два далей. Каб не праклятая загарадзь з калоў наперадзе, Роска вырвалася б на волю. Аднак давялося не марудзячы завярнуцца і кінуцца, віляючы паўз агаломшаных сабак, у пралом у хляве. Застрамілася ў ёй на хвіліну, запульсавала ўсім целам і ў рэшце рэшт апынулася ўсярэдзіне. Пад яе напорыстасцю верхняя частка сцяны асела і зрабіла адтуліну завузкай, каб пралезці мажнейшым за яе, тым, хто застаўся ў двары. У першыя хвіліны Росцы мроілася гэтакая ж выратавальная дзірка-праломіна і ў сцяне насупраць. Яна вынюхвала, шукала яе ўпарта і мітусліва, але скразнога шляху для ўцёкаў так і не знайшла. А там жа, па той бок сцяны, была дарога, якою калісьці яна ляцела за машынаю доўга-доўга, да бяссільнай роспачы.

## 2

— Роска, Роска! Сюды, на-цю-на! Даганяй!..

Санікаў голас гучаў нават і тады, калі за пылам і газам знік грузавік, на якім між клункаў сядзеў хлапчук, яе сябар і абаронца, поруч з бацькам. Бацька адной рукой трымаў яго за плечы, другой грозіў ёй, Росцы, што спачатку дужа і шпарка, потым усё слабей гналася ўслед:

— Вон! Ма-а-рш дадому, ну!

Гаспадар прагнаў яе яшчэ на двары, сцёбнуўшы дубцом і папусціўшы ў яе палкаю. Яна адбеглася. Стаяла за яблыняю і не

рашалася наблізіцца. Мо да канца выканала б волю чалавека, калі б, ужо седзячы ў кузаве, не паклікаў Санік.

Цяпер іх не было, як не было і сілы, каб збегчыся з машынаю. Дый нельга было далей. Роска, калі развеяўся пыл, убачыла наперадзе чужых людзей: перагарадзілі дарогу даўжэзнаю паласатаю жэрдкаю, а ўлева і ўправа ад яе нацягвалі драціны. У некаторых мужчын віселі на рамянях кароткія стрэльбы, не дужа падобныя на паляўнічыя.

Яна пасядзела, паўзіралася і — заскавытала, хапаючы паветра перасохлым ротам. Двое здалёк заўважылі, пачулі яе, пачалі набліжацца, клікаць, але зычлівасці ў іхніх галасах Роска не ўлавіла. Паднялася і патрухала па дарозе ў адваротны бок, потым, калі разварушаныя ногі падужэлі, прыпусціла наўскач да свайго двара. Там расцягнулася на ганку хаты перад шчыльна зачыненымі і перакрыжаванымі дошкамі дзвярыма ды і знепрытомнела да самага золку. На золку звычайна прачыналіся ўсе: спяваў певень, гергеталі гусі, рыпелі дзвярыма і бразгалі вёдрамі людзі. Роска вітала гаспадыню перад сваёю будкаю, падстаўляла галаву пад незанятую яе руку. Жанчына хавалася ў хляве, а неўзабаве ішла назад і налівала ў місачку цёплага малака.

Малако і зараз бялелася ў місачцы. Яно было даўняе, нясмачнае, аднак Роска мусіла наталіць смагу і перабіць голад. Да мяшанкі ж у вялікім чыгуне і да горбачкі костак каля яго не прыпала. Не адна ноч і не адзін дзень павінны былі прамінуць, каб Роска пакрысе асвойталася ў гэтым ачужэлым раптам двары, напоўненым цішаю і нудою.

Ужо ўпаў першы ліст, калі смутак адзіноты змяніўся вострым неспакоем. У маладой самкі пачынаўся гон. Яна прагна ўнюхвалася ў пахі лесу, пільна ўслухоўвалася ў далёкі сабачы брэх за ім, нарэшце не ўтрымалася і па вузенькай сцяжынцы пабегла насустрач. Ледзь-ледзь засвіцілася скрозь рэдкую лістоту дрэў вёска на ўзгорку, як нечакана бахнуў адзін стрэл, за ім другі. Сабачы брэх саступіў віску і енку. Інстынкт падказаў ёй, што гэта не простае паляванне на зайцоў або лісіц, што трэба як мага хутчэй уцякаць адсюль. Так і жыла, вярнуўшыся, у пакутах паміж адвечным клічам і страхам.

Страх аднойчы ўвасобіўся ў людскія цені-постаці, што з’явіліся за плотам. Роска не паспела добра разгледзець іх, стоеная за будкаю. Першы стрэл змусіў яе выскачыць з хованкі, другі моцна апёк яе за вухам і пагнаў прэч паўз хлеў, дрывотнік, па збуцвелым бульбоўніку ў ельнік. Яна аддалялася і аддалялася ў гэты цёмны лес, дзе ніколі дасюль не была. Праляжала ноч на ігліцы пад ялінаю. Досвітак не ўзбадзёрыў: у кожнай дрэвіне, раздвоенай ценем, бачыўся страх. Яна

падалася яшчэ глыбей у гушчар, нібыта незнаёмы лес меўся не толькі схаваць яе ад людзей, ад самотнага і знепакоенага хутара, але і збавіць ад невыноснай, неспатоленай прагі... З-пад галля бліснулі вочы, асветленыя першымі сонечнымі промнямі. Ветрык дзьмуў акурат з таго боку, але яна не адразу адрозніла ваўчыны пах ад сабачага. Усяго аднойчы яна чула яго, калі воўк сярод белага дня прыходзіў на хутар і на яе вачах украў з загародкі парася. Роска была тады на прывязі, а на яе лямант ніхто з хаты не выйшаў: усе яшчэ цёмначы кудысьці паехалі на кані возам. Яна і зараз апынулася сам-насам з драпежнікам, аднак не падобным да таго, колішняга. Яго позірк, спачатку востры і пагрозлівы, памякчэў і засвяціўся прыязнасцю, ноздры прагавіта раздзьмухваліся і цягнуліся насустрач. Роска не скранулася з месца, замахала хвастом у чаканні любошчаў...

3

Сабакі-ваўкі за варотамі хлява крыху супакоіліся нанач. Але бурчалі і ў сне, зрэдку перагрызваліся. Спаць ім не даваў голад. Яны і гадавалыя смакталі матчына малако, рвалі яе ўсохлае падчарэўе, патрабавалі спатолення і кусалі моцнымі зубамі за морду, за вушы. Ім усё роўна было, здатная ці ўжо не здатная маці накарміць іх.

Роска нарадзіла шчанюкоў удалечыні ад двара, часта пакідала іх адных, каб папоўніць свае сілы лёгка высачанымі, ды нялёгка выкапанымі з-пад карэнішча мышамі, спелымі і пераспелымі ягадамі — іх, чорных і чырвоных, удосталь было — ці выпадкова злоўленаю дробнаю птушкаю. Калі ўзяліся прымаразкі, а потым лёг на зямлю сцяжок, Роска павяла сям'ю на хутар, што вабіў недаедзенымі косткамі ды мроямі пра хлеб і малако, пра нязменную клапатлівасць гаспадыні, Саніка і нават гаспадара, які злаваўся не заўсёды.

Тая зіма была амаль бясснежная, і пракарміць вывадак абнадзеенай Росцы напачатку ўдавалася. Яны ўсе разам хлябталі ваду ў расколінах лёду, адшуквалі рассыланае збожжа пад паветкаю, прывыкалі да яблык-паданак і груш-гнілушак. Развальвалася ж і прападала сямейная лучнасць з-за костак і костачак, якія трапляліся ўсё радзей, ды з-за кожнага злоўленага мышаняці. Роска тады не пазнавала дзяцей: яны схільныя былі загрызці адно аднаго, абы спажыва дасталася самаму спрытнаму, хай адшуканая і не ім. Знаходка ці здабыча нарэшце з'ядалася, і чатыры пары вачэй утаропваліся на маці. Тады ўсе чацвёра былі заадно, ператвараліся ў зграю, гатовую рынуцца і на яе.

Ім трэба было мяса. Яны ўсё часцей сыходзілі з двара на цэлыя дні, гойсалі па лесе, бывала, вярталіся сытыя, памяркоўныя,

безуважныя да ўсяго. Двое залазіла ў яе будку, двое ўлягалася побач, і ўсе задаволена мармыталі, злізваючы з пысаў свежую кроў. Роска назірала за імі зводдаль, чакала, пакуль паснуць, і ўкладвалася на ганку хаты сама. Але так было адно зрэдзьчасу, звычайна палявальшчыкі прыходзілі паўгалодныя і лютыя, і тады Роска ўцякала ад іх.

Іх і тым адвячоркам не было ў двары. Роска скрозь дрымоту лавіла іхняе вяртанне, як раптам пачула выключна адрозны пах. Ваўчыны. Скінула з сябе дрымоту, выпрасталася, падуладная знаёмай позве. Але ступіла з ганка адно крок-другі. Спынілася, збітая з тропу сярдзітым шматгалосым гырканнем, ляскатам зубоў і балючым вішчаннем. Хвіліна — і яна прыйшла ў сябе, адрэагавала паводле звыкламу: якая б ні чакала небяспека, умешвацца ў сабачыя катавасіі ці спачатку павіжаваць вакол іх, каб улучыць момант. Блыталася ў кустах і ў лясным валежніку, бегучы напрасткі. І ўсё роўна прыпазнілася. Калі дамчалася да месца бойкі, воўк (нюхам і зрокам яна распазнала яго) ужо пакінуў супраціўляцца, а сабакі ўсё шкуматалі і шкуматалі ягонае цела…

… Хлеў, ратунак яе і пастка, зноў ажыў. У праломіну ўбіваўся галавою, лез капцюрыстымі лапамі найдужэйшы з яе дзяцей. Намаганні былі настырнымі і назойлівымі. Роска гучна рычала на яго зводдаль, адзін раз наблізілася і драпнула здаровай лапаю па ягонай пысе. Ёй абрыдлі яе вязніца, бясконцыя пакуты ад няпэўнасці і безвыходнасці, ад гэтага безвыніковага супрацьстаяння на адлегласці. А больш за ўсё мучылі голад і смага, наталіць якія немагчыма было бруднаю, прапахлаю гніллю вадою з лужынкі каля варотаў.

Супрацьстаянне скончылася знянацку — стрэламі і людскім галёканнем. Ішло паляванне на сабак — на яе дзяцей. Заенчыў адзін, за ім другі… З разгону, з усіх сіл Роска прабіла трухлявыя абломкі сцяны вакол адтуліны і выкінулася ў двор. Два сабакі, першы пад сцяною хлява, другі недалёка ад яблыні, ляжалі ўжо нерухомыя. Яшчэ адзін круціўся, віляў паміж рулямі дубальтовак, што наравілі тыцнуцца яму ў пашчу, у бок, але чамусьці не выдыхалі агню і дыму. Чацвёрты, самы дужы з іх, з акрываўленаю галавою, сядзеў на прыгнутых лапах, увесь пружыністы, рашучы, і рыхтаваўся да скачка. Роска апярэдзіла яго. Збіла з ног напалоханага чалавека і пачала ўскарасквацца на браму з паваленай страхою. Другі чалавек ударыў яе па хрыбетніку, потым па галаве, і Роска ўжо не бачыла, кінуўся ў смяротную бойку ці не яе самы дужэйшы сын.

## НА ЛАНЦУГУ

З ланцуга! Усімі сіламі, з маладой лютасцю — на волю! Скінуць ашыйнік: ён ірве і душыць горла. На падмерзлай зямлі — шарыкі-пухіры ад гарачай сліны. Нясцерпна ад натугі. Але пруткім целам ускідвацца ўгору, на момант завісаць у палёце, спружыніць назад і падаць. Прагна хапаць загуслае паветра, зноў ускокваць, зноў падаць. Ускокваць — падаць. Бразгоча на зямлі ланцуг, з кожным разам усё больш пэцкаецца парэшткамі ўчарашняй ежы. Чадна ад іх і ад поту.

У хвіліну пярэдыху б'юць дрыжыкі. Збавіцца ад іх намаганнем сухажылляў. Скачкамі адчаю. У адзін, у другі бок. Безвынікова, што і наўпрост! Душыць ашыйнік, не пускае ланцуг. Ужо няма голасу. Гха-а, гха-а!.. Але яго дастаткова, каб раптам прыблізілася рука ў скураной пальчатцы. Халодная, асвяжальная. Рука-пальчатка слізгае па галаве да колца на ашыйніку, пстрыкае сашчэпам: марш!

Ашыйнік усё яшчэ муляе. Затое не трымае ланцуг, ён вужом звіўся воддаль, каля будкі. Аднак палохае і адтуль. Бегчы! Праз усю дзялянку выкапанай бульбы. Туды і назад. Зноў адчуць моц мускулаў, наталіцца бегам. Туды і назад, не дабягаючы на скок, на два да скураной пальчаткі і вужакі-ланцуга. Туды і назад. Туды... На ўзмежку спакушаюць купінкі цёмна-зялёнай травы. Травінкі вельмі сакаўныя былі нядаўна. Зараз яны шорсткія і прысыпаныя шэрымі крупамі. Крупы таксама нясмачныя. Ледзяністыя, з пылам.

Сядзець сярод поля сцюжна. Сагрэцца ў руху. Не, не ў той бок, дзе будка: там ланцуг. Наперад, дзе чарнеецца і злёгку варушыцца калматая суседава спіна. Стоп. Стары, мажны Зеўс ашчэрыўся. Шкрабнуў зубамі раз, другі аб вялізную пляскатую костку і гырчыць, скасавураны. Зеўс ёю ні з кім не падзеліцца. А костка так дражніць нюх! І так блізка ляжыць...

А-ай! Голас вырываецца сам. Смыліць ад болю і марозу карак. Шматок поўсці стрэсваецца з угнутай галавы і запарушвае вочы. Залізваць рану не дацягнуцца. Адзіны паратунак — лежма ўткнуцца галавою ў пярэднія лапы і перачакаць пякучку.

Сцяжынка з задворкаў вядзе ў доўгую-доўгую вулачку. На ёй іншы раз гарэзавалі з Зеўсам. Навыперадкі знаходзілі што-небудзь спажыўнае. Калі на вуліцы былі дзеці, перападаў ладны кавалак хлеба. Не тое што ўсохлая костка на сметніку.

Хлеб!.. Гэтак смачна еўся ўчора хлеб, перамешаны з сырым мясам! Яды было так багата, што не змінаді ні прычэплены ўпершыню ланцуг, ні ашыйнік. На дзіва, ашыйнік не адчуваецца і

цяпер. Яго як бы і няма, гэтак мякка ён аблёг шыю. Што і мучыць, дык толькі голад.

Ступаць па сваіх слядах? Назад?.. Амаль круглыя, злітыя ў пасак сляды нагадваюць дужа непрыемную рэч, ад якой хочацца кінуцца наўцёкі. Яна раздражняе, непакоіць. Але варта крыху пасядзець або прылегчы і замружыць вочы, як нежаданае блякне, зліваецца з белашэрым сняжком. На змену яму мройна наплываюць кілбасныя скрылікі, хлебныя сушкі, нешта яшчэ, што падбухторвае спачатку паўзці ў дрымоце, затым порстка падняцца і прыпусціць з усіх ног. Прыпусціць па вулачцы, кумільгом абмінуць Зеўсаву будку, разбэрсаць снег на сваім двары. Адзін верад — паспець бы!..

Рука ў скураной пальчатцы махае здалёк, вабіць, кліча. Дарма, што ў ёй ніякіх пачастункаў! Яда ў круглай місе, адтуль пахне хлебам і свежанінай. Аб місу грукае нешта грувасткае, цяжкае. Позна! Рука-пальчатка ўчэпіста трымае за ашыйнік. Пстрыкае сашчэп. Не напяты вужака-ланцуг звіваецца побач. Імгненная прагнасць — пашкуматаць і чорную пальчатку, і назойлівы ланцуг, і ненавісную зараз місу. Але ў місе — мяса і хлеб.

Рука-пальчатка тыцкае ў карак, якраз там, дзе ледзь-ледзь запяклася рана: еш!

І размыкае сашчэп.

На шыі цяпер іншы — бязважкі і нябачны — ланцуг.

## “ПРЫВІДНАЯ” КАМАНДЗІРОЎКА

Упершыню я абмінаў бацькоўскі дом, пакідаў яго далёка збоку. Дом, але не радзіму: мясціны, куды нарэшце выбраўся, паяднаныя з нашымі аднымі лясамі, усё яшчэ вялікімі, хоць і моцна прарэджанымі, балотамі, на якіх цяпер журавінныя заказнікі, старымі няўезджанымі дарогамі, вузкімі і занадта глейкімі для машын, а для вазоў дык і вельмі прыдатнымі дасюль. Іншая рэч, колькі тых вазоў засталося і каму ў іх сёння ездзіць? За маім жа дзяцінствам аднавяскоўцы даволі часта выпраўляліся туды, у палескія нерушы: паляваць без дазволу і спілоўваць хваіны без вялікай рызыкі, купляць танную скаціну, сватаць цнатлівых і працавітых нявест, мяняць усё на ўсё, часам “дуплятае на прабітае”, а то і “гаршчкі на гліну”. Людзям, прынамсі, здавалася, што ўсё там лепшае, балазе далекаватае і таямнічае. Гэта я ведаў з расповядаў, бо недарослых у далёкія і неаднадзённыя вандроўкі не бралі. Мала мяне тое засмучала, я прогся ў горад, сядзеў у кніжках, для допісаў у паўфарматную

газету мне ставала збіранага школьнікамі, у іх ліку мною, параскіданага трактарнага жалеззя для новых трактароў, скупых успамінаў былых франтавікоў і партызанаў ды “подзвігаў” меліяратараў напачатку наступу на безабаронную і ціхую, як лань, прыгажуню Лань-раку і яе ўзбярэжжы.

Далей за Гарыльчыцы, дзе жыла замужняя сястра, я не бываў ні ў школьніцтве, ні ў студэнцтве. Як і аднагодкаў, студэнцкае лета спакушала прасторамі Крыма, Сібіры, Казахстана. А потым я стала асеў у горадзе. Мае журналісцкія дарогі супадалі з маршрутамі аўтобусаў і тралейбусаў абласнога цэнтра – і вось яны сягнулі ў шырокі, а мо, наадварот, у звужаны лясамі ды балотамі і з таго больш загадкавы, свет!..

Збіраўся я доўга, усё чакаў лета – аднаго, другога, пакуль мой добры знаёмы, ён родам з тых мясцін, давершыць свой загарадны домік. Кожнага новага лета ён адно пад’юджваў мяне:

— Едзьма! Незвычайны куток. Там ты такой міфалогіі капнеш. І даўняй, і не вельмі.

- А ты, настаўнік, чаму ж дасюль не капнуў? – Ставіўся я недаверліва не так да ягонага сцверджання, як да сумніўнага “едзьма”.

- Я служка фізікі і астраноміі, навук, якія ўсё ранейшае збольшага растлумачылі. Наперадзе болей загадак, чым сёння і ўчора.... Але я дзеля цябе, па-зямляцку, паеду. Не збаішся зданяў, што і цяпер водзяцца ў нашых лясах?

І зноў, лайдак - марнаслоў, адкладваў паездку. Як і на гэты раз, калі я намерыўся асабліва рашуча: пагарбаціўся на ягонай будоўлі, дамогся ў рэдактара камандзіроўкі. Зарадаваўся, калі “сейбіт разумнага” завітаў у сіненькім гарнітуры, пад гальштукам... Прыпыніў надоўга будаўніцтва, вызваліўся для паездкі? Не, гэта ён скарыстаў маю дапамогу для кароткачасовага перадыху... У рэшце рэшт да мяне дайшло: ён не просты лайдак, ён баязлівец; баіцца парушыць памяць пра радзіму, дзе ў яго анікога з блізкіх не засталося і дзе, магчыма, усё перамянілася з паверхні да глыбіні. Такая боязь сядзіць у многіх, і ці не пагэтаму нас, вясковых, у сталым веку не так цягне дадому, як у юнацтве?

Чым ён падсобіў мне, дык гэта зручнаю – і ў дрыгве, і на пнях не падвядзе, казаў ён, — “Ніваю” ўзамен на час паездкі на мой старэнькі “Фолькс”, куплены з трэціх рук, і схемаю майго маршруту, накіданаю ім.

- На гэтую глухую дарогу, — “сейбіт” абвёў чорным алоўкам нейкую паваротку, — не зварочвай. Здань там блукае, ці што. Шмат

пра яе гавораць, ва ўсялякім разе гаварылі ў мае школьныя гады, ды нямногія бачылі... Смяешся? Эйнштэйн і той верыў у неба, а значыцца, і ў пекла! Вернешся, дык раскажаш.

Я падзякаваў за перасцярогу жартам, а ўсур'ёз, у думках, — за інтрыгу, вартую любой вандроўкі.

Такім чынам, я пакінуў родны дом далёка збоку. Калі б заехаў туды, у асірацелае гняздо, там і замкнуў бы маршрут, акрэслены чаканаю авантураю. Далей не пусцілі б, па - першае,бездарожжа ад нядаўніх зацяжных дажджоў на Палессі, па- другое, вяскоўцы, якія збягаюцца са сваімі скаргамі і просьбамі ў кожны мой прыезд, тым болей рэдкі. І памяць затрымала б... Адным словам, замкнуў бы тым, что калісьці адбылося, а не тым, што не здзейснілася. Невядомасць, ад якой так доўга жыў паблізу, вабіла не толькі прадоўжыць, але, найперш, узбагаціць даўнія юначыя ўяўленні і перажыванні.

Гарыльчыцы былі маім першым адпачынкам і начлегам. Ад нечаканасці сястра спачатку знепрытомнела, потым зацалавала мяне, праслязілася:

-Мне, грэшнай, падумалася неяк: мо ўзяць ды памерці, каб вы паз'язджаліся? Ты прыехаў бы?.. Добра, што дачакалася і так. Апаласні рукі ды за стол.

Жыве Ануля ўжо гадоў пяць адна: мужык памёр ад запушчаных сухотаў, два сыны даўно ў горадзе, прычым далёкім, расійскім. Да сыноў яна пакуль што не збіраецца, хоць тут і радыяцыйная зона. Дакладней, не тут, дзе стаіць яе хата, а за мосцікам. Дзіўнавата: у той канец вёскі ходзяць людзі і ў госці, і на працу механізатарскую і даярскую, але грошай лекавых, ці "дамавінных", як вяскоўцы кажуць, ім не плацяць. Дазіметры важных чыноўнікаў, што разы два наведаліся, паказалі высокую радыяцыю толькі за мосцікам. А ў рачулцы пад ім, а ў надрэчных кустах? Ганулля пацiснула плячамі, а я адчуў, што да мяне сама сабой плыве журналісцкая тэма.

Уранку я сабраўся намацаць яе больш пэўна. Выйшаў на падворак – і затрымаўся: як шмат тут не даведзенага да ладу. Незавершаны, прыкрыты цэлафанавай "посцілкай" стажок сена, бульбяны палетак амаль некрануты, не сцягнуты зградак пасохлы агурочнік, у старым плоце дзіркі. На зарослай мяжы каля паветкі параскіданыя круглякі дроў. Напэўна, нехта дроў прывёз, нехта папілаваў, а калоць узялася Ганулля сама, вунь як няўмела пашчапала чарговы кругляк. Яна не гультайка, не беларучка. Змалку з мамаю была на ферме, пасля школы пайшла самастойна рабіць паштаркаю, а затым тэлефаністкаю, пазней – у нянечкі ў сям'ю начальніцы

пошты. Ад мужа той начальніцы зацяжарыла першым сынам... Я скінуў куртку і ўзяўся за сякеру, балазе Ганулі дома не было: яшчэ на золку пабегла даіць грамадскі статак, падмяняць, хоць даўно пенсіянерка, адну з даярак, что занядужала.

Каля дроў я забавіўся і старшыню сельвыканкама не заспеў: паклікалі ў раён "пясочыць" за... Я не даслухаў сакратаркі і спытаўся, як знайсці вясковага старасту.

Дзед Рыгор гэтак жа, як сястра, падняў ад няпэўнасці плечукі: хто, дзе і як замервае радыяцыю, ён не ведае, бо дазіметр чалавек з райцэнтра ў яго забраў; сказаў, што няспраўны, стрэлка зашкальвае, а такога быць не можа – павышаны ўзровень адно ў тым канцы вёскі. Забраў прыладу, набытую Рыгорам у Польшчы, – стары ездзіў да меншага брата, які пабраўся з палячкаю гадоў сорак назад, - ды так і не вярнуў, хоць абяцаўся наладзіць.

Што было параіць яму? Даў слова наступным разам прыхапіць дазіметр, а ўдасца, дык прыехаць і са спецыялістам, пасля пра ўсё напісаць, на што стараста пасміхнуўся: маўляў, выдаю сябе на таго ж чалавека з райцэнтра... Гаворка пажвавела, калі я спытаў пра дарогі, якімі ехаць мушу далей.

- Здань, ці прывід, як хто кажа, напаткаць хочаш? – узяўся далоняю за вусы Рыгор. – А смуткі яе, ці яго, ведаюць. Адно плявузгаюць, што нехта бачыў. Праўда, калісьці, - тут дзед скінуў усмешку, - у лесе пад Хоцакам, вёрст за дваццаць адсюль, хаваўся пасля вайны хлопец, што спярша ў партызанах быў, потым у карным батальёне, паляваў на тых самых партызанаў, вёскі паліў. Дык яго міліцыянты злавілі, вадзілі і там, і ў нас, каб людзі апазналі. Мала хто прызнаў яго: цень то быў, а не чалавек, змарнелы і тонкі такі, скура на касцях. От ужо праўда, здань-прывід. Дык жа даўно было, я падшыванцам бегаў яшчэ, а хто цяпер сноўдаецца ў нашых лясах – у галаву не вазьму. Мо страх людскі старэчы, тых, хто вайну пераджыў, як я ...

— Дасюль страх?.. Што людзі кажуць: як выглядае тая здань, чым яна страх наганяе?

— От бы вы летась прыехалі, адну бабку самі распыталі б. А так што, позна: у жывых ужо няма. Казала – постаць хлапечая, танклявая і высокая, чорныя космы доўгія, да пояса, а замест вачэй спарышамі вугалі гарацць. Пры маладых апісвала гэта, дык тыя засмяялі яе: у страха вочы вялікія! Яно так, але я змоўчаў: усяго-ўсялякага набачылася за жыццё, дзяўчом у вайну гарэла ў гумне, праз нейкую нару вылезла... Чаго дзівіцца такой памяці? Ды што скажаш

цяперашнім хлапчукам – чаго добрага самі і настрашылі. А вядома ж, ад чужога шалу і ў тваёй галаве круціцца .

— Вы таго ж маленства, няйнакш. Калькі вам было?

— Гэтулькі, як вайне… Я во пра што падумаў. Даруйце, што здань перад вамі нішчу. Я не адгаворваю. Пакруціцеся сабе па лясных дарогах, іх цяпер збольшага падладзілі, у людзей хоцаўскіх папытайцеся, яны больш ведаюць. Едзьце сабе, калі такая работа ў вас, на тое вы і ...

Мусіць, я загаварыў яго. Дзед Рыгор раптам схапіўся за сэрца, абваліўся на ложку да сцяны, прытуліў падбародак да грудзей. Шчасце, падаспела Гануля, шукаючы мяне, акурат зайшла ў Рыгораву хату, і мы прыпаднялі яго, далі вады. Я пабег па машыну.

Фельчарка супакоіла, што з дзедам нічога страшнага не здарылася, часцяком з ім гэтак бывае. Напэўна, дажывае свой век, як і шмат хто ў вёсцы. Няхай, сказала, паляжыць на тапчане пасля ўколу, потым яна сама завязе яго дахаты, муж пад’едзе. Тэлефонаў мала, старыя не ўсе могуць пазваніць, а ў старасты на тым тыдні тэлефон сапсаваўся. “Хаджу па хатах, праведваю дзядоў-бабулек, ды, на ліха, сёння затрымалася, справаздачу ў раён пішу.На аднаго народжанага сем-восем памерлых…”

З сястрою мы папалуднавалі і развіталіся. Даць ёй хоць нейкія грошы — на сена,на дровы — не ўдалося, ад іх яна адмахалася рукамі: я адна, а ў цябе сям’я… Суцешыў сябе тым, што аддам на зваротным шляху, забыўшыся: збіраўся махануць дадому іншаю дарогаю, шашою Пінск - Брэст, калі выеду на яе з людскою падказкаю. “Буду ехаць назад, - прамармытаў, - не адмовішся…” Няпэўнасць засмуціла Ганулю.

— Прыедзь як не цяпер, дык хоць калі яшчэ.Ад нудоты тут і праўда можна памерці.

На выездзе з вёскі я спыніў машыну з незаглушаным маторам - аддаць, як мы пішам у газетах, даніну памяці. Або я проста завагаўся? Хат і падворкаў тут мала, яны, бы астраўкі, падзелены запушчанымі сядзібамі. Людзі няйнакш пакрысе перабіраюцца на той канец вёскі. Тут павышанная радыяцыя, а ў лесе, які пачынаецца амаль адразу за крайнімі платамі, яна, мабыць, яшчэ большая. Сосны ў першых дзялянках прыкметна маладзейшыя, ніжэйшыя за астатні масіў лесу. Акурат адсюль ішоў, разбушоўваўся пажар, недзе тут гарэў і хлеў з людзьмі. Шмат іх у той дзень карнікам не ўдалося сагнаць, дык многіх паліцаі лавілі з канца лета да позняй восені, некаторых тапілі ў палонках на Лані.

Бяры і пішы вялікі нарыс, кнігу цэлую пра Гарыльчыцы. Аднак за буйны жанр я браўся вельмі рэдка. Як працаваў у газеце? Паехаў ці пайшоў, сустрэўся, пагаманіў — і напісаў. Такая карэспандэнцкая праца. Добра, калі па-хвацку напісаў, закруціў, навізну падаў. Але якая, да д'ябла, навізна можа быць на штодзень? Прыдумляеш, коніка выкідваеш, як папракнуў аднойчы мой добры знаёмы фізік-астраном... Згадаў яго і перастаў вагацца: трэба ж упэўніцца ў палескай легендзе, якая тут і да мяне жыла, і цяпер жыве, няхай сабе мала хто ў яе верыць. А раптам? Вось гэта пачатак быў бы !..

Травяністая дарога, пераплеценая каранямі цёмнага хвойнага лесу, спакушала, цягнула далей і далей ад рэальнасці, бліжэй і бліжэй да таямніцы. На вярсце дзесятай яна раптам павужэла і неўзабаве растраілася, прычым наўпраставы шлях быў загароджаны галіністымі кавалкамі дрэў, пакалечаных, відаць, бураломам. Я павярнууў налева, дарога туды падалася шырэйшаю і бралася ўгору. Вяртацца далекавата, дый не па мне: вырушыў дык вырушыў, шукай прыгодаў на неразумную галаву!.. Чакаць доўга не давялося. І паўгадзіны не прайшло, як утравелыя каляіны збеглі з узгорка і ўперліся ў даўно не ладжаную грэблю. Я вылез з машыны, пашукаў аб'езду: яго не было, балота цягнулася ў абодва бакі. Я выняў з багажніка сякеру і пачаў агаляць камлістыя яліны, кідаць лапістае голле ў найбольш глыбокія яміны ў каляінах. Паспрабаваў праехаць, але абноўленая грэбля заўпарцілася: машына забуксавала, і чым больш я націскаў на газ, тым глыбей асядалі заднія колы. “Ніва” з яе нібыта надзейным пярэднім мостам не магла выкараскацца. Я выключыў матор, каб выйсці ды зірнуць, якой даць ёй рады. Не здолеў. Стома ахінула мяне, упаласць духу канчаткова расслабіла, і я адкінуўся на спінку сядзення.

Прабудзіў грук у фортку праваруч. “Памагаты! Хоць калі ды шанцуе”, - першае, што я падумаў, калі ўбачыў за шклом малады, хай сабе вусата-бародкавы твар. Адчыніў дзверцы, і чалавек сеў пабач са мною.Быў ён юнаком - падлеткам, вусы і бародка толькі-толькі прабіваліся на твары, гэта напачатку, за апырсканым бурай гразёю шклом, яны падаліся густымі.

— Маё табе шанаванне, - чамусьці на “ты” звярнуўся хлопец, пазіраючы не на мяне, а наперад, у ветравое акно. Павекі нерухомыя, тонкія губы сціснутыя, скошаная на скронь цёмная пасма валасоў гэткая ж застылая. Што ў ягоных вачах, не відно, але, дай Бог памяці, дзе і калі яго бачыў?

Ягоныя вусны растуліліся і назвалі маю вёску: ён родам адтуль. Мала каго з аднавяскоўцаў-падлеткаў ведаю, але ж і з аблічча ды з густога, як бы вільготнага, голасу не ўгадаю, чый ён.

- З аднаго роду з табой, -ледзь-ледзь павярнуў юнак галаву. Промнік даверу ў ягоных вачах толькі на момант прабіўся скрозь павалоку смутку.

Уголас я пытанняў не задаваў, аднак — дзіва! — ён адказваў на іх. Больш за тое, праз нейкі час я адчуў, што ён навязвае мне сваю волю, змушае думаць і згадваць пра тое, пра што я забыў ці стараўся забыць. І паплылі імгненныя, абрывістыя, але ўпартыя малюнкі, як быццам зараз мая памяць не належала мне.

Першыя школьныя гады. Гуртам, навыперадкі - сустракаць настаўніцу, у вас, падшыванцаў, такая гульня-змаганне: хто дабяжыць найраней, той і паднясе яе падручнікі і сшыткі. Ты папераддзе ўсіх, табе не далася хатняя задачка, табе трэба паддобрыцца... З брамкі перад домам начальніцы пошты выходзіць Гануля, працягвае штосьці. Хлеб?! Ты не хочаш паказаць перад усімі, што вы такія бедныя, ты абураны, што сястра спыніла, і выбіваеш скібку ў яе з рук на пясок. А ўвечары дома, дзе двое меншых сясцёр і брат, табе не перападае ні долькі хлеба...

Зноў школа, кабінет дырэктара. “Шчыра, шчыра прызнавайся!” І ты называеш сяброў, якія ў нядзелю былі ў царкве і бралі ўдзел у хрэсным ходзе. Як і ты ... У піянеры цябе прымаюць, а іх двух не, яны — белыя вароны і ў класе, і ў школе. Вы назаўжды перастаеце сябраваць.

Студэнцтва. Першая журналісцкая практыка супадае з апафеозам меліярацыі. “Так, можна было пайсці ў абход Лані, — дае інтэрв’ю начальнік гідрасістэмы , — але ў абход значна даражэй, нашмат больш народных грошай”. І ты з ім заадно: за ашчаднасць, за “палескія песні бульдозераў”, супраць “плакальшчыкаў” па прыродатворным харастве. Пасля і сам пускаеш міжволі слязу, седзячы на беразе роднай, ды ўжо не тваёй ракі...

Затое ты атрымліваеш працу ў вялікай газеце. Аднак пакуль што — перад выбарам пасады. З табою даверліва гутарыць старанна паголены і прычасаны мужчына ў акулярах, які да газеты мае вельмі ўскоснае дачыненне. Ты пагаджаешся, а праз месяц з ім сустракаешся зноў і называеш...

— ... Нікога я не называў, я прыйшоў, каб адмовіцца! А яшчэ — каб праз другі месяц уцячы ў іншую газету!

Сілком, крыкам я абарваў свае-чужыя згадкі. Не адразу сцяміў, дзе я. Са мною ў машыне нікога не было. Я выйшаў і агледзеўся:

нікога, бязлюдныя лес і балота. Хаця — стой, нечая постаць мільганула на ўзгорку і знікла за ім. Хутчэй! Я ўскочыў за руль, завёў матор і ўключыў заднюю перадачу. Машына надзіва лёгка скранулася з месца, выбралася з ямін, потым усё роўна як паплыла на паветранай падушцы. На сухім я развярнуў яе, вывеў на ўзгорак, не затрымаўся там, пакаціў па дарозе на Гарыльчыцы.

Зрэдзь, на калдобінах, лавіў я свой позірк у люстэрку над ветравым акном.

## МАЛАДЫЯ

Не павітаўся, не спытаў, ці не занятае сядзенне насупраць, а загаманіў:

— Што ні кажыце, халерная моладзь у нас. Злаўсліўцы, гультаі і неслухі. Ні начальніка, ні роднага бацьку – нікога не прызнаюць. Бамбізы, універсітэтам хваляцца, а ў камандзіроўку ім, бачыце, рана. Хоць бы збегалі на станцыю, білет узялі, я ж начальнік! Добра, што электрычка прастаіць тут з гадзіну: прапускае экспрэс, недзе на мяжы затрымаўся... Але што ж добрага? Занудзімся!

Гаманіў і ні разу не павярнуў галавы да абранага ім суседа, перапакоўваў скураную валізу. Нарэшце павесіў яе на большы крук, злёгку пацягнуў уніз – праверыў, ці не парвуцца паскі. Рукі рухавыя, хоць сам сутулы, з барсучынаю гарбінкаю. Маладжава ляпнуў паверх пакункаў капялюш, агаліў моцна зрэджаныя валасы, што гусціліся і нават трохі кучаравіліся адно над самым ілбом. Дэмісезонкі не зняў, а шуснуў на праход вагона, вярнуўся, паставіў на лаўку невялікую клетку з папугаем. Толькі тады ягоны і суседаў позіркі сустрэліся.

- Дзівіцеся, што еду ў камандзіроўку з папугаем? – сказаў сутулы. - Сябру вязу, у яго кватараваць буду. Ну, і пацешуся сам на развітанне, нудная, ведаеце, камандзіроўка... Гугель, ану: віват- віват!

— Ві-ват, - прагугнявіў папугай, - ві-ват!

На маўклівага пасажыра гэта не зрабіла ўражання. Нават калі птушка забрыдкасловіла, ён і не пасміхнуўся, і не пакрыўдзіўся. Затое папугаеў гаспадар увачавідкі сумеўся. Накінуў на клетку хусцінку, якую выняў з кішэні, і заапраўдваўся:

— От бачыце, на што здатныя мае бейбасы? Абы-чаму навучаць Гугеля , а каб дагледзець, дык не, збываць трэба. Я ж кажу, якая ў нас моладзь...

Яго збянтэжанасць ад няўдалай спробы пацешыць пасажыраў цягнулася нядоўга. Успомніў, што дасюль у дэмісезонцы, выпрастаўся

і вачыма стрэльнуў па вагоне. Па той бок лавак- канапак, крыху лявей, сядзелі, туліліся адна да аднае тры драбнатварыя дзяўчаты.

- Ці дазволена, паненкі, распрануцца? - гулліва запытаўся і рагатнуў сутулы. Тыя не адказалі, адно сярэдняя, якой, мусіць, было цяплей у настылым вагоне, чым астатнім, нягучна фыркнула.- Маладыя, а мерзнеце. Даць пагрэцца? - Зняў з плячэй дэмісезонку і хітнуў ёю ў бок дзяўчат.

Сярэдняя не стрымалася, ускінула галаву:

- Дык ці надта палітом сагрэеце, дзядзьку?- апошняе слова яна падкрэсліла. - Хлопцам, вунь, аніякай справы да нас...

Мужчына, відно было, пакрыўдзіўся, тым болей, што згледзеў: непадалёку і праўда сядзела купка маладых хлопцаў. Ён не знайшоў, што яшчэ сказаць, і сеў.

- М-м, - прамармытаў ці то самому сабе, ці то суседу. - Не такія дзеўкі былі ў нашу пару: і пажартаваць умелі, і сур'ёзнае з паўнамёку ўцямвалі. Цяперашнія ж... Табула раса проста. Уночы на вуліцы самі пыху з сябе сціраюць.

Сусед-пасажыр перасмыкнуў тонкія вусны, змоўчаў, павярнуў галаву ў акно. Над запалай яго шчакою сутаргава білася жылка. Яму нецярпелася ехаць.

Электрычка па-ранейшаму стаяла, у запоўненым на трэць вагоне было ціха. Не вурчалі ўжо даўнавата адключаныя ацяплялыныя каларыферы: машыністы эканомілі электраэнергію. Зрэдку цішыню парушалі чацвёра хлопцаў у аднолькавых пярэстых куртках і з аднолькавымі “вожыкамі” на галовах. Хлопцы гулялі ў карты, аднак без асаблівага запалу. Ненатуральна, як бы адно дзеля размінкі, узмахвалі рукамі, нехаця параготвалі з няўдачнікаў. То адзін, то другі падымаліся і з грукатам зачынялі дзверы ў салоне, якія тут жа, самі па сабе адчыняліся зноў.

- Аднаму з вас падзяжурыць трэба ля дзвярэй, - гучна падказаў са свайго месца сутулы, - а я падмяню ў гульні. Нудна сядзець так.

— Мо ідзі ды падзяжур лепш? - буркнуў у адказ зграбны белагаловы хлопец; чарговы разваждацца з дзвярмі хадзіў ён.

Сапраўднае ажыўленне настала тады, калі ў салон нечакана ўляцела пранырлівая сінічка. Перад тым яна звонку вагона шкрабнулася лапкамі і крыльцамі ў адно, другое акно і ўсё-такі знайшла прыадчыненую фортку. Пасажыры зашумелі:

— Нехта нагнаў з двара. Яе выпусціць трэба.

— Хто акно адчыніў, дурны?

— А я думаю, чаму так вогла! Во чаму.

На дварэ стаяла глыбокая восень, і птушка ўцякла сюды няйнакш ад холаду. Уляцела і замітусілася, не чакала, што ў гэтай цёплай, на яе птушыную прыкідку, будыніне будзе не адна. Яна прамільгнула над хлопцамі, ледзь не зачапіла іх крыламі, шмыгнула да рэчаў на паліцы каля дзяўчат. Тыя запішчалі, замахалі рукамі, і сініца сіганула назад, зноў да хлопцаў, пасля па крузе. Нехта з іх паспеў шпурнуць у яе тузінам картаў, яны рассыпаліся па лаўках і заследжанай падлозе, і гэта быў пачатак стыхійнай гульні: хлопцы разам памкнуліся лавіць птушку.

— Што зараз будзе!- усклікнула цётка на бліжняй лаўцы і адсунулася ў кут да акна.

— Што? - пачуў яе сутулы. - Жывадзёрства. Хуліганнё!...

Ён перастаў карміць папугая і прыпадняўся з хусцінкаю ў руцэ. Гульня маладых зацікавіла і яго.

Спачатку птушкаловы спрабавалі наблізіцца да сініцы, калі тая, ужо прытомленая, часцей і часцей садзілася то на металічную паліцу для рэчаў, то на слізкае падваконне. Аднак давацца не збіралася. Чакала, пакуль да яе наблізяцца, а потым выпырхвала з-пад самых рук і стрымгалоў імчалася ў канец вагона. Там яна двойчы прамільгнула над сутулым і ягоным суседам. А на трэці раз - папалася: сутулы, як у сіло, улучыў яе ў хусцінку, якою накрываў клетку з папугаем. Спрытна звёў, сціснуў далоні. Падняў “сіло” над галавою, прамовіў задзірыста:

— Журавель у небе, а сініца ў руках!

— Далікатней, задушыце! - даляцеў з глыбіні вагона жаночы голас.

З твару ўдалага птушкалова знікла ўсмешка. Ён памарудзіў і адной далоняю прыадхінуў хусцінку. “Ай-я-яй! - выгукнуў, калі сініца выпырхнула. - Ай-я-яй!”

З гэткім жа воклічам ён артыстычна развёў рукі перад зграбным юным бяляўцам, які вокамгненна апынуўся побач. Хлопцаў імпэт, аднак, патух пад строгім позіркам маўчуна- пасажыра.

- Прысядзь, - гэта было першае ягонае слова на сёння. - Міца ў аперацыйнай, а вы... Перайдзіце да аднакурсніц і супакойцеся.

- Дык трэба ж выпусціць птушку, Ян Ігнатавіч, шкада!

- Скокні да машыніста, хай адчыніць уваходныя дзверы.

- Хадзілі. Нельга: блізка экспрэс. Добра, падумаем.

Ён пайшоў, на хаду скідваючы куртку. Уся ўвага была цяпер на яго. З распранутай на выцягнутых руках вопраткай ён вачыма шукаў палонніцу. Ніхто не бачыў, куды яна падзелася.

— Ну, шукаць жа яе трэба , - выскачыў на праход, падбег сутулы.- Хлопцы, чаго сядзіце?

У бялявага тым часам паявіўся іншы памочнік - з дзяўчат. Яна прыйшла следам за сутулым.

— Юрась, мо варта скарыстацца тамбурам? Накіруем яе лёт туды, зачынім дзверы, і ты як бач справішся з ёю, гэта ж не салон. Так раіць во гэты мужчына, - і няўрымслiва яна пабегла па вагоне, замахала сваім чырвоным шалікам, які і да таго быў у яе ў руках. Невысокая і лёгкая, з маленькім носікам, нечым сама падобная да сінічкі. Хлопцы ўсхапіліся таксама, і ўсё мелася пачацца нанова. Калі б не птушка, напалоханая дзяўчынаю. Яна раптоўна вылецела з-за рэчаў на паліцы і, сапраўды, нацэлілася на дзверы ў тамбур. Як на ліха, яны былі расчынены толькі напалову. Птушка выцялася аб іх крылом, апусцілася долу. Юрась рэзка ўскінуў кулак: маўляў, ніхто ні з месца. Усе спыніліся, змоўклі.

Самы час было заканчваць прыгоду: машыніст абвясціў праз радыёсувязь, што станцыю праходзіць экспрэс - цягнік. За вокнамі неўзабаве загрукатала, захістаўся вагон, і гэты момант Юрась не прапусціў – накрыў сінічку на ўзлёце. Тады і ўсе збегліся, каб дапамагчы. Ён прыціскаў да грудзей куртку, не ведаў, што рабіць з ёю, як выблытаць птушку: вырвецца – і ўсё спачатку.

“Асцярожна, дзверы зачыняюцца!”- хрыплавата папярэдзіў дынамік у салоне.

— Калі ж яны адчыняліся?

- Мо калі экспрэс прайшоў. Абвесткі не было.

Хлопец кінуўся ў тамбур. Матлянуў, разгортваючы, куртку ў праём, на двор, выпусціў яе з рук і ледзь сам не трапіў паміж палавінкамі дзвярэй. За шклом мільганулася і знікла з вачэй вольная сініца. Электрычка рушыла, паскорана набіраючы ход.

— Куртка! Зрывай стоп-кран! - закрычалі сябры.

— Відовішча працягваецца, - да недарэчнага ўрачыста паведаў сутулы.

Электрычка заторгалася, заскрыгатала коламі і спынілася. Усе пацiснуліся ў тамбур. Юрась разгублена ўсміхаўся. Хлопцы ўзяліся расчыняць дзверы, што было марным і лішнім. Яны праз момант рассунуліся самі: спрацавала аўтаматыка. Адзін з юнакоў выскачыў з вагона і неўзабаве прыбег з курткай, падаў Юрасю. Каля таго стаяў ужо машыніст - гадоў пад сорак, з насупленымі брывамі і шырокім падбародкам.

— Вы што, з глузду паз’язджалі? Аглухлі? - выстаўляў ён свае цяжкія рукі перад ім. - Не чулі? Не сказана вам было, каб вярнулі ручку стоп-крана на месца? І так паўтары гадзіны пралайдачылі.

— Ну, выбачай. Нешта прахрыпеў дынамік, акурат тваім голасам, - з насцярогаю і прыкметнай нярвознасцю адказаў юнак. - Не разабралі, што.

— Ты ... – ускіпеў машыніст. - Ты ў мяне пачуеш!

Юрась па-баксёрску адхіліў ягоны кулак і коратка, спружыніста таўхануў яго. Каб не ўхапіўся машыніст за парэнчы абапал дзвярэй, выпаў бы з вагона. Двое дзяўчат ўскрыкнулі, павіслі на руках у аднакурсніка. Трэцяя, яго нядаўняя “памочніца”, узіралася яму ў вочы, настойлівым позіркам намаўляла спыніць бойку. Але не суняць было сяброў. Яны падстаўляліся пад машыніставы кулакі ўсё зласней, без усмешак на тварах і адказвалі па аднаму, па чарзе, нібыта ў нейкай новай гульні, толькі ўжо не такой, што ў карты або “ў выратаванне птушкі”, а больш апантанай, як у боксе ці ў дзіцячых забіяцтвах, ці ў сямейных сутычках, што заканчваецца часам непапраўна... Тут усё скончылася з паяўленнем Яна Ігнатавіча. Ён акінуў вачыма сваіх студэнтаў і сказаў найперш да Юрася:

— На станцыі Койданава, гэта пад Мінскам, выходзіце і едзеце назад. Зміцера праведаем з дзяўчатамі. Вы не вартыя свайго геройскага сябра.

— Ужо ж так? Зміцер не быў сваавольнікам? Калі б усе былі такія правільныя і рахманыя, як вы...

Рэпліку выкладчык пакінуў без адказу. Адышоўся з машыністам і нешматслоўна папрасіў прабачэння. Яму дапамагла студэнтка-“сінічка”, якая падляцела без попыту, без выбачэнняў перабіла:

— Ян Ігнатавіч, добрая вестка. Дзве весткі! Сотавым я патэлефанавала мінскаму хірургу. Аперацыю Міцю зрабілі ўчора і вельмі ўдала! Другое: берасцейскія пажарныя падаюць нашага Зміцера для ўзнагароды, - яна перавяла дых і дадала: - Дазвольце хлопцам ехаць да канца.

— За навіны дзякуй, - адказаў Ян Ігнатавіч - а што да просьбы... Памяркую... Ну, што ты скажаш!

Апошняя фраза, нярвовая, неўласцівая яму, тычылася пасажыра, сутулага. Ён прыблізіўся да іх неўпрыкмет, звярнуўся тут жа да машыніста:

— Як трэба, я буду сведкам. Гэтыя хуліганы не толькі бойку ўчынілі. Што яны выраблялі ў вагоне да гэтага!..

— Добра, - неахвотна сказаў машыніст, - праз адзін прыпынак падсядзе міліцыя, разбярэмся. Няма мне калі.

І хуценька пайшоў ў электравоз: трэба ж было нарэшце ехаць. Універсітэцкі выкладчык падаўся ў тамбур: можна было хвілінку пакурыць пры адчыненых пакуль што дзвярах.

— Не дазваляецца ніяк тут курыць, ды , як той казаў, на здароўе, ніхто не бачыць, - за ім у тамбур ступіў і сусед па вагонных лаўках. - Я думаў, вы заўсёды маўчыце, аж не, гаворыце, і разумна гаворыце... І ўсё ж адкуль бярэцца такая халерная моладзь?

Ян Ігнатавіч шпурнуў непрыпаленную цыгарэту на двор, узяў сутулага за гальштук, падвёў да дзвярэй і штурхнуў у плечы. Той, спатыкаючыся, зрабіў некалькі няўклюдных крокаў крокаў па пероне. “Асцярожна, дзверы зачыняюцца!..” Сутулы ляпаў рукамі па металічнай абшыўцы, бег за электрычкаю:

— Папугая хаця б аддайце, рэчы!...

Студэнты пазіралі ў вокны і, моцна здзіўленыя, смяяліся.

Аднак жа зноў трэба зрываць было стоп-кран.

## БЯДНЯК

Ён заўсёды абураўся тымі хаўруснікамі-майстрамі, хто пэўную працу на заказ выконваў за некалькі дзён, атрымліваў немалыя грошы і не дзяліўся з ім або дзяліўся не вельмі шчодра.

Ён быў упэўнены, што гэта і ён зарабіў тыя грошы, бо, зрэшты, мог бы зарабіць — проста не меў такога зручнага выпадку ці проста ў той момант у яго не было ні ахвоты, ні імпэту для неадкладнай і вокамгненнай працы.

Ён, абураны, з вялікай верагоднасцю дапускаў, што на цэлую галаву стаіць вышэй за іх, таму што вольны ў сваім выбары.

Ён, нарэшце, прыходзіў да высновы: вольны чалавек заўсёды жыве бедна, — і так знаходзіў апраўданне і супакой.

Ён, закончаны лайдак, быў у дадатак філосафам.

## РУХ НА МЕСЦЫ

Цягнік рухаецца адносна дрэў уздоўж чыгункі, майго паўстанку, што нагадвае хутар, адносна мяне самога — і так штораз, калі выходжу паглядзець на яго. Дакладней, на іх, бо цягнікі паўз мой паўстанак прабягаюць амаль без перапынку, у адзін і ў другі бок. Туды — сюды, туды — сюды, адзін за адным, адзін аднаму насустрач. Калі падоўгу назіраць за імі, як назіраеш за рачнымі хвалямі пад

пераменным ветрам, дык лёгка злавіць сябе на тым, што і я ў няспынным руху: еду то ўлева, то ўправа, туды — сюды, туды — сюды... Дадому іду з такою стомаю і насалодаю, быццам вярнуўся з паўсотні вандровак адначасова, пры гэтым без непатрэбных падарожных рэчаў і лішніх уражанняў, якія зазвычай аказваюцца хлуслівымі, перабольшанымі.

Зноў і зноў я выбіраюся не толькі паглядзець на цягнікі, а і паспачуваць вандроўнікам, якім і ў галаву не стрэльне жыць на такім, як мой, паўстанку-хутары.

## НЕЖЫВЫ

Ляжу на высокім пагорку пад адзінокаю сасною, абмяклы, нерухомы, ціхі. Па мне поўзаюць мурашкі і, напэўна, кусаюць мяне, але я не адчуваю болю. Трушчацца пад плячамі сухія шышкі, некуды, усё глыбей, занепадае пясок, дробны і сыпкі, што порах.

Час ад часу каля мяне прыпыняюцца звяры — рысі, ваўкі, мядзведзі, не распазнаю. Абнюхваюць шыю, ліжуць прагавітымі языкамі мае заплюшчаныя вочы. Потым адыходзяць і сядаюць непадалёку. Пяць і дзесяць хвілін марна чакаюць. Ідуць, нарэшце, далей.

У святочныя дні нада мною схіляюцца людзі. “Ты нежывы?” Я адказваю ўсім сваім распластаным целам: хіба вы не бачыце? Людзі, мусіць, пачынаюць бачыць, бо спяшаюцца сваёю дарогаю.

“Ты нежывы?” — ужо новыя прыходзяць да мяне людзі. І ніхто не запытаецца, чаму я нежывы.

## ПОДАЎКА

Я шчодра падаў вулічнаму скрыпачу. “Усё роўна раскідаю-расцерушу”, — так падумаў. Гэта ў мяне хвароба: як толькі завядуцца грошы, узнікае неадольны сверб іх патраціць. Хутчэй за ўсё на гарэлку, хоць мяне занепаважалі суседзі, нешматслоўна папярэдзілі дактары і прыстрашыла міліцыя.

Калі вяртаўся назад, убачыў яго скасабочаным на лаўцы, з падмятаю пад сябе скрыпкаю. “Затое не п’яны я”, — так падумаў. І кінуў яму ў футарал рэшту грошай.

## ХАТА

Мокрымі вокнамі пазіраю на яго і не бачу ягоных вачэй. Фіранкі, якія ўчора памяняла Люба, мне засцяць мала, болей замінае дождж, што стаіць паміж ім і мною. Дождж, дробны і вусцішны, пачаўся апаўдня і ні разу яшчэ не перасціх. Сыпле і сыпле свае малюсенькія кропелькі, зрэдку гойдае іх на ветры, а разгойдаўшы, плюскае мне на шыбіны, і нядаўнія дажджынкі паволі апаўзаюць ручайкамі-рагамі ў шчыліну рамы. Да іх і прывязаны невідушча ён... Талян. Хоць гэтак яго, пэўна, ужо не завуць. Пастарэў. Калі старэе чалавек, старэе і ягонае імя: Толік, Талян, Натоль. Натолем быў ягоны бацька, а зараз яны вельмі падобныя. Адно што бацькі ўжо няма. Сын гадамі ў яго яшчэ не выйшаў, але вонкава такі ж: худы, танклявы і крыху прыгорблены. Здаецца, што цягнуць яго ўніз і змушаюць сутуліць плечы моцныя і цяжкія рукі. Да таго ж у Таляна ў руках невялікая, але важкая спартыўная сумка. Яна ледзь-ледзь не дакранаецца да зямлі, таго і чакай, расчэпіць Таляновы пальцы на вочапцы і зручна стане ў шэрую каламуць. Нарэшце Талян падцягвае яе вышэй, зварушвае застоеныя чаравікі і адварочваецца.

Бачу крайнім сваім акном, як ён падышоў да ганка, паціху прыпадняў маснічыну і выняў ключ, які ўжо заляжаўся, стаў маёй часцінкаю. Мне прыемна ад дотыку ягонай рукі, ад выемкі, што засталася на сподзе маснічыны замест ключа. Гэты ключ калісьці ён схаваў сам, а другі аддаў Любе. Было тое мінулым разам, калі ён аб'явіўся, каб пахаваць бацьку. Прыязджаў на легкавушцы з двума дужымі хлопцамі ў квяцістых кашулях.

Нябожчыка паміналі амаль тыдзень. Гатавала ім Люба: што ў сябе дома – яе хата відна мне адно краем палінялай страхі-хустачкі, - а што тут. На чацвёртую ці пятую раніцу перакапалі ў куфры, у шкапчыку і што было лепшае – пагрузілі ў легкавушку. Хлопцы селі ў машыну, раз-пораз сігналілі, а Талян і Люба ўсё стаялі на ганку.

— Дык ты не паедзеш? Астатні раз кажу – паехалі, - глуха і спакусліва намаўляў Талян, і ягоная далонь, ліпкая ад кропелек смалы, была халодная. Той халадок памятаю дасюль – так і застаўся ён адбіткам далоні на пляскатым вушаку, на які абапіраўся Талян.

— Ну, што ты сабе ўдумаў! – Люба ажно ўзмахвала рукамі. – Трэба ж! Кіну хворых бацькоў ды паеду. А твая хата – ты хоць бы прадаў яе. Як-бо так: сіратою стаяць будзе, чэзнуць, душу мне вярэдзіць. Пакінь адрас, я сама прадам, грошы вышлю.

— Хто ж яе купіць, заклятую, хто пойдзе жыць сюды? Маці надарвалася, калі ставілі яе, хіба не ведаеш? А бацька чаму не ажаніўся? Ніхто не ішоў за яго, от і ўся прычына.

— Не з-за хаты не ішлі – хто яе праклінаў? – а з-за яго самога, п'янчугі вечнага. І маці ж праз яго ў магілу сышла. Што, не так? Жыві тут, Талянок, будзь лепшы за свайго бацьку, і ўсё наладзіцца, пабачыш.

— Наладзіцца? – мне падалося, Талян завагаўся, палагаднеў. – Мо і прыеду калі, усяляк на свеце бывае. Сам закляты нейкі, загнаны...

Ён саскочыў з ганка, адышоўся, каб яго відно было з вуліцы:

— Зараз, зараз! Не дудзіце вы... Звязаўся з ламавікамі... Ты ведаеш, Люба, - працягваў і здымаў з металічнага колца адзін з двух ключоў. – Там... там у мяне ўсё ёсць. Сама бачыла, што п'ем, на чым ездзім. Дык на халеру мне гэтая хата? Ты другое дзела, мы з табою зажылі б! Ты ж разумніца.

— Кінь, - ужо суха сказала Люба. – Нікуды я не паеду. Мне боязна таго, што робіш ты, скуль грошы бярэш... Добра там, дзе нас няма. Людзі ж кажуць так.

— Ну, і няхай табе будзе добра. На, - і ён аддаў ёй ключ. А я чула, як ён сказаў ужо самому сабе: “Можаш тут і жыць, калі хочаш, цяпер гэта твая хата. А не хочаш – дымам пушчу”.

Так я стала не толькі Таляноваю, а і Любінаю хатаю. Люба прыходзіла зазвычай у суботу, вільготнаю анучкаю працірала стол, шырокі тапчан з перакошанаю спінкаю, зрэдзь заплямленаю і пажухлаю, ні разу не фарбаваную падлогу, і, як учора, мяняла фіранкі.

Аднаго разу Люба засталася на ноч. Прыйшла разам з нелядашчым мужчынам у скуранцы, якая ўвесь час рыпела, калі ён вымаў то гарэлку, то цыгарэты. Яны трошкі выпілі ўдваіх, абдымаліся, ды Люба так і не распранулася, адно растрэсла па плячах свае вымытыя бялявыя валасы. “Не магу, не магу я тут, - казала яна і адводзіла мужчынскія рукі ад адзінага расшпіленага гузіка на грудзях. – Яе, во, саромеюся...” Мужчына з паўгадзіны пазлаваўся, потым грэбліва фыркнуў: “Каго, хаты-ы?” Нацягнуў скінутую скуранку, бразнуў дзвярыма і пасля гэтага не прыходзіў. Да ранку Люба прасядзела адна і пакрысе дапіла гарэлку.

Астатнія ўсе ночы былі для мяне самотныя, доўгія. Ані пад страхою на гарышчы, ані ў вокнах, ані ў кутках ніколі не паяўляўся сон. Часамі я сілілася прыгадаць калыханку, спяваную над Таляноваю калыскаю, аднак голасу ягонай маці, рана памерлай, узнавіць не

магла, і калыханка шчымела танюткаю мелодыяй, ад якой рабілася яшчэ самотней, верадлівей. Салодкая, прагавітая дрымота – ад парога да покуці, ад падлогі да столі – агортвае тады, калі чуецца глыбокае, хай сабе і з прыхропваннем, людское дыханне. Але ж гэта было ўва мне так даўно. Без людзей няўтульна і боязна. Сцішваешся, ды ўсё роўна наструнена прыслухоўваешся... Ужо год, як у падпечку завяліся мышы. Яны скрабуцца, казычуць, пішчаць, часам лагодна і жаласліва, але я так і не звыклася з імі. Не цярплю, калі яны бегаюць па тапчане, караскаюцца на стол ці драпаюць па кафелю грубкі. Тады я шкадую, што сышоў некуды і не вярнуўся пярэсты кот Мармытун. Мо ў Любы жыве, а мо і зусім няма, бо немалады, не патрапіў дачакацца гаспадара.

Талян стаіць у парозе, покуль маладая мышка, дурное стварэнне, хапатліва бярэцца ў падпечак. Пастаяў і апускае на тапчан намоклую сумку, здымае і кладзе зверху куртку, такую ж мокрую, груваcткую. Звешвае так, каб сцякала вада. Сам падыходзіць да грубкі, туліць да кафелю далоні і прыціскаецца каленямі. Зусім па-дзіцячы. Так ён заўсёды рабіў, калі ўвечары прыбягаў з дажджыстай або заснежанай вуліцы. Бацька лаяўся, здзіраў з яго нагавіцы і, мокрымі, хваcтаў па голых нагах: “Ах, ты, байструк! Ах, ты... У маці пайшоў! Г... яшчэ, а ўжо да дзевак! Дацямна!” Памятаю, толькі аднойчы хлопец не вытрываў і закрычаў: “Мама!” Бацька той раз яшчэ мацней адхвастаў яго, і ўночы ён туліўся да шурпатай маёй сцяны тварам і роспачна шаптаў: “Уцяку, а хату спалю! І цябе, ідал, у ёй спалю, папомніш! Яшчэ раз набі.” Праз год, і праўда, уцёк.

Цяпер ён вярнуўся другі раз. І зноў такі самы ключ, як у Любы, ягоны двайнік, ляжыць у замку на тапчане. Я хачу, каб ён ляжаў як мага даўжэй. І як мага даўжэй грэў настылыя далоні і мокрыя калені Талян. Грубка трымае цяпло некалькі дзён. Цёплы дух яе жыве ўва мне, бадай, заўсёды, нават калі яна не прagраваецца дрывамі. Гэтак жа, як пах сасновага лесу. Бярвёны – гэта маё цела, а душа пасярэдзіне, з таго і цёпла тут чалавеку.

Не, я ўсё-такі перахвальваю сябе. Што я такое – без людзей?.. Адна празрыстая постаць калі-нікалі паяўляецца, апрача Любінай, хоць тая жанчына, што ўзнікае з самога паветра, з духу ад напаленай печы, вельмі падобная да Любы. Мо здаецца так, бо Люба цяпер амаль ужо ў веку Таляновай маці. Так, гэта яна, маці – маладая, якою і засілілася ў сенцах на ляйчыне, - наведвае мяне. Голасу яе не чутно, але кожнага разу яна гамоніць, седзячы ў куце за сталом пад абразамі. Часам я прачытваю па яе губах: Талянок, Талянок... І яшчэ губы кажуць слова “Божа”, яно таксама паўтараецца. На адвітанне

цэлую ноч маліліся і спявалі над ёю маршчыністыя бабулькі ў хустках, прасілі Бога, каб прыняў душу няшчаснай і злітаваўся з сына, якога яна пакінула. Грэх, напэўна, ёй не даравaўся, калі душа яе тут, ува мне. Ці ведае тая душа, што больш, чым родны бацька, гадавала Таляна Любіна маці, і што дзеецца з ім зараз?..

Ён, усё яшчэ павернуты да грубкі, не бачыць Любінай постаці, а з-за шапацення дажджу не чуе насцярожаных жаночых крокаў. Яны мякка шоргаюць, слізгацяць па раскіслай лістоце, што ўслала двор ад самых веснічак, і сціхаюць перад акном. Набліжаныя да шыбіны Любіны вочы круглеюць, поўняцца здзіўленнем і спалохам, а пасля блішчаць радаснымі кропелькамі ці то слёз, ці то дажджу. Праз хвіліну яна ўжо прыхінае галаву да Таляновых плячэй і гладзіць, гладзіць ягоныя рукі. Так і стаяць у прыцемку.

Калі ж Таляновы рукі ўздрыгваюць, парывіста адрываюцца ад грубкі, мне робіцца страшнавата за Любу: зараз ён чаго добрага пачне крычаць на яе, а мо і прагоніць. Бо як прыйшоў употайкі, дык, мусіць жа, не хацеў ні з кім сустракацца. І дасюль яшчэ не запальваў святла. Дзівіцца, пэўна, як гэта яна высачыла, акурат патрапіла. А мне не дзіўна, я з учарашняга вечара прадбачыла нешта добрае – адчувала памытымі вокнамі, дзвярыма, парогам, кожнаю маснічынаю. Ці не ад Любы гэта перадалося? Святочная, узбуджаная, учора яна стаяла перад картачкаю Талянoвай маці, працірала рамку, паколатую шкліну ў ёй і прышэптвала: “Цётка Алеся, ён вернецца, ён вернецца, у яго вочы такія, як у вас...”

Ужо зусім цёмна. Мне не відно іхніх твараў. Чую, як знарочыста, абы парушыць маўчанне, кашлянуў Талян.

— Праводка не адсырэла? – адхіліў Любу і пстрыкнуў уключальнікам. Святло ад невялікай лямпачкі пад засняю няяркае, затое мяккае і роўнае.

Талян, здаецца, не зважае на асветлены Любін твар, хавае вочы. Ідзе да тапчана, скідвае з сумкі падсохлую куртку і расшпільвае доўгі, праз усю сумку, замок-маланку.

— Не стой, бы ў гасцях, калі прыйшла, - звяртаецца да Любы. – Павячэраем. Там, дзе я прабыў апошнія гады, кепска кормяць... Як выходзіў, такія-сякія грошы аддалі, дык накупляў – хапаў усё, што траплялася.

— Сядзеў, я ведаю. А ў нас не выежна, дык вылежна, - з нясмелаю крыўдаю азываецца Люба. – Хочаш дома начуй, хочаш тут. Дзве хаты на мяне адну, во як!

— Што, памерлі твае? Гэтулькі гадоў... Чаму ж ты ні за кога не пайшла дасюль?

— Не пайшла, - апускае галаву Люба, бярэ з сумкі бліскучую бляшанку, круціць у руках. – Княжыча з казкі чакала!.. Ты назусім? Што ў цябе наўме?

— Выкладвай на стол. Мне трэба выйсці, я пакуру, бо й на курыва быў голад, - павярнуўся ён да дзвярэй.

На ганку Талян звальваецца цяжкімі локцямі на білу, аберуч сціскае карабок з запалкамі. Хоча прыкурыць, але і першы, і другі запалак адно пыхкае дымам і сераю, тухне. “Спалю!.. Дымам пушчу!..” – бы адгалосак, чую колішнія Таляновы словы, і толькі цяпер даходзіць да мяне, які намер быў у яго сёння. Ды ўжо не сцінаюся ў жаху, як тады...

Ён дзівіцца: Люба там, каля грубкі, але ж і перад ім свіціцца ў змроку яе постаць. Ён трэ запясцямі вочы, мармыча-лаецца і трасе галавою. Не бачыць, як паўз яго праплыла белая жаночая постаць і злілася з Любаю... Ён нарэшце ачуваецца, голасна хмыкае. Зноў прыкурвае.

Трэці запалак бярэцца кволым агеньчыкам, які марудна, бы нехаця, паўзе ўгору. Калі нарэшце ён разгараецца, Талян падносіць трымклівы чырванаваты агеньчык-трохкутнічак да страхі. Але я ўспрымаю гэта як міжвольнае свавольства, інертную забаву, не болей. Не паспяваю адчуць нават подыху агеньчыка: яго тушыць дожджык-драбнасей.

Далёка ад сябе, у дождж, Талян кідае запалак, за ім цыгарэту. Ідзе назад, у цёмных сенях шукае дзвярэй, і тыя адчыняюцца без ягонага дотыку, нібы самі сабою.

— Хату спаліш, курэц, - ні пра што не здагадваецца, горнецца да яго ў парозе Люба.

А недзе апоўначы я слухаю іхняе глыбокае падвоенае дыханне. Сон, ціхі і спакойны, паволі агортвае і мяне – ад парога да покуці, ад падлогі да столі, да гарышча, да самай страхі.

## III

## ЧУДЗІНСКІ ДЗЁННІК

Дзённік вёў у школе і спрабаваў весці ў інстытуце. Першы спаліў у грубцы, другі раскідаўся сам па сабе, згубіўся ў папяровым гармідары. Калісьці я лічыў, што дзённік не так сродак адлюстравання, як сродак фармавання асобы. Мусіць жа, юнацкая сентэнцыя не спраўдзілася, адсюль і вынік.

Чаму наважыўся на дзённік улетку 2003-га, падчас рабінзавання ў родным Чудзіне, адназначна не скажу. Пэўна, такі быў момант — адзіноты, смутку і жалю. Два няпоўныя месяцы, а пераі жылося і перадумалася нямала. Менш за ўсё думалася пра сябе, менш за ўсё жадалася кагосьці з сябе фармаваць. Гэты сколак майго жыцця — ад пабітага люстэрка вёскі, сям'і, роду, у нейкай ступені часу…

### 3 ліпеня

Я ў Чудзіне. Хутка поўнач. Стомлены, але сну ані ў воку. За акном усё яшчэ хмарна, сад будзе начаваць намоклы ад залевы.

Збіраўся ехаць на Ганцаўшчыну з “Брестским курьером”. Але так звычайна: чым большы гурт, тым часцей паездка адкладваецца, дый любая справа, пакуль і зусім не “лясне”.

Больш я чакаць не мог: патэлефанаваў бацька. Сёння з дарогі, якое не памятаю. Ліў дождж, за ім нічога і нікога не бачыў.

Бацька сустрэў стрымана, аднак відно, што рады. “Не надзееўса, думаў: мо заўтра. Шукай што, перакусі”. І падаўся на забінтаваных нагах у распораных для зручнасці тапках да ложка. Устаў, каб мне адчыніць. Я распакаваў сумку і пайшоў у свой – яшчэ са студэнцкіх гадоў свой – пакой і сеў за стол. Не вячэраць, а пасядзець. Выключу святло і дачакаюся сну.

### 4 ліпеня

Уранку з ціхай хаты (бацька спаў) выйшаў у двор, прытуліўся спінаю да хлява і пазіраў на яркае, амаль белае сонца ў імжы і тумане. Так рабіў у дзяцінстве. Згадаў пра гэта з нейкім намаганнем, як бы староннє. “И на челе его высоком не отразилось ничего” (Лермантаў). Няўжо так схаладзела душа? Прынамсі, хлапчуком сябе так і не ўявіў.

У хаце бацька браўся перавязваць ногі. Звыкнуўся рабіць сам. Забраўся на стол, ногі на крэсла. Пальцы літаральна гніюць. Да

дзесятка хвароб – яшчэ і гэтая, ад агню! Кажа, што тушыў неабачліва запаленую траву на старым зарослым пчольніку. У гумовых ступаках... "Прыязджай, а не дак павешуса". Гэтак ён клікаў мяне па тэлефоне. Роспач перш ад самоты, чым ад фізічнага болю.

Не, душа не зусім схаладзела. Баліць.

Гатаваў ежу, ездзіў на ровары па хлеб. Зараз будзем снедаць і палуднаваць заадно. Стрэлка на гадзінніку мінула 12.

**Той жа дзень**

На дварэ цёмна, у пакоі заяркая лямпачка. Шкада, што не прывёз настольнай лямпы. Цікава, ці змог бы чытаць пры месяцы, як у дзяцінстве? Газу, пазней электрычнасць у сям'і ашчаджалі мо і завельмі. Зрок ва ўсіх мінусовы, праўда, я акуляраў пакуль што не набыў.

Свеціцца акно ў Бубновых. З паўгадзіны, як я ад іх. Хадзіў з недарагім вінам і чарговаю просьбаю. Гэта яны, мой стрыечнік Толя і настаўніца Люба, дагледзелі старога і гаспадарку, калі маму завезлі ў Мінск на аперацыю. Дапамагалі і да таго, заўсёды. Стол яны падрыхтавалі самі, мабыць, чакалі. Сядзеў з Толем дапазна ў ягоным дагледжаным скверыку на былых тарфяных ямах, паліў цяпельца, слухаў яго. Ён рэдкі сёння ў Чудзіне гаспадар: такой сядзібы няма, бадай, ні ў кога. Яму сорак ці крыху больш. Наймаладзейшы з трох сыноў дзядзькі Івана, рускага салдата-франтавіка, што ўпадабаў маю цётку па маці Алесю. Нібы пішу для памяці: іх даўно ўжо няма. Толя да ўсяго даходзіў сам: і да касьбы ды ворыва, і да будоўлі, і да прафесіі лясгасаўскага шафёра. Ён часта бывае ў Ганцавічах. Абяцаўся прывезці лекі з раённай паліклінікі.

Трэба ж! Бацька начыста забыўся на сваю цукровую хваробу. Два-тры месяцы не прымаў таблетак, а прапісана прымаць штодзень тройчы. З расцугляным дыябетам ран, канечне ж, не загоіш.

Ад Бубновых закарцела прайсціся на развілку дарог, да пастаўленага імі крыжа (Люба глыбокая верніца). Налева – дарога да мілых мне дзядзькі і цёткі, да адзінага роднага брата, якога не стала ў 42. Могілкі і ўначы віднеліся. Шчыльнаю хмараю, што апусцілася на пагорак.

**6 ліпеня**

Сёння і ўчора нуда і туга, туга і нуда. Касіў у двары і за плотам ад вуліцы, палоў грады, час ад часу забягаючы зірнуць, як бацька. Ён мала гаворыць, а калі гаворыць, дык бурчыць і камандуе. "Я табе не

Аксеня!" – вырвалася ў мяне. Праўда, зводдаль. Стары мог не расчуць. Хаця наўрад: зацяўся.

З Мінска адна навіна: мама толькі-толькі пасля аперацыі, размаўляць з ёю рана. А варта было б з'ездзіць, балазе ехаць адсюль зручна. І якое ліха панесла пасля школы ў Брэст? Адказ: смаркаты местачковы патрыятызм. Я тады не ведаў, што ў часы Сержпутоўскага і чудзінскіх казачнікаў вёска належала да Слуцкага павета. Урэшце, не ведаў нічога ні пра слынных людзей, ні пра паходжанне казак, ні пра сапраўднае сваё прозвішча, вытворнае ад іх. Позна што-небудзь змяняць, зайздрошчу разумнейшым: Бадаку, Баравіковай, Гардзею, Гніламёдаву, Дамашэвічу, Разанаву... З іх, сталічных берасцейцаў, можна дзесяць утварыць такіх пісьменніцкіх аддзяленняў, як наша, тут.

Пачынаецца купальская ноч. Туды, дзе свята, з Толем Бубновым не пойдзем. Яго не пусцілі, мне аднаму не хочацца. Пойдзе іхняя дзесяцікласніца Надзя. Ноч для маладых.

"Астаўцы" – ёсць слова ў вёсцы. "Астаўцу – з аўцу альбо ніяк". Запісаў калісь прымаўку ад маці. Я – аставец.

**7 ліпеня**

Тры гадзіны дзесяць хвілін. Пабудзіў бацька. Я пачуў, кепска спалася. Дапамог яму рабіць перавязкі.

У вялікім доме на двух гудзе змучаная цішыня. Учора пахваліў, банальна, Толевы "харомы": маўляў, заблудзіцца можна. "Яшчэ год, - нявесела рагатнуў ён, - і Надзя следам за старэйшаю драпане ў горад. Тады і праўда можна будзе гуляць у хованкі. Я, мая жонка і ты, калі прыедзеш".

У прыадчыненае акно залятае з вёскі музыка. Прыслухоўваюся да слоў спевака: "Улица, улица, улица родная, Мясоедовская улица моя..." Купальская, трэба лічыць, песня.

Паспрабую заснуць.

**Той жа дзень**

Зноў касіў-палоў, ездзіў па хлеб і па мазь Вішнеўскага. Вечар. Аб рукі – пішу на ганку – трэцца кот Босы. Ён не зусім "босы": чорны ў белых "тапцях" на ўсіх чатырох лапах. Не ганю, шкадую. Мама расказвала, што ўсе апошнія братавы дні Босы быў з ім у хаце. Еў разам з ім, спаў. Калі Толя памёр – рак накінуўся ажно на рэбры – кот ці то на дзесяць, ці то акурат на дзевяць дзён некуды знік. "Мо каля Толіка быў, на магіле?" – пыталася мама.

Што зараз зраблю? Пакармлю Босага, аўчарку Муху ды курэй. Кіпіць чайнік на пліце ў прыбудоўцы. З грушавым кампотам для бацькі.

Цяпер я за сталом. Трэба б узяцца за апавяданне-мініяцюру “Ліст” (ці “Апошні ліст”?). Ёсць пачатак, а далей не ідзе. Учытваюся ў рэальны ліст, дасланы бацьку з Крыма адным з чатырох яго малодшых братоў: “Что ты знаеш о наших брацьях? Раман, знаю, помер. Знаю, хатя телеграмы не было. А вот о Валоди низнаю ничего. Ти жыва Раманава Алёна? Пишы Косця про себе и про Чудин. Кто астался с нашых роственников в Чудине?..” Гэты ліст я знайшоў на тэлевізары. Я: “Бацька, ты адпісаў дзядзьку Колю?”. Ён: “От вазьмі да напішы ад мяне: усе памерлі. І я”.

Чым не мініяцюра? Але з прозай у мяне бяда, як і ва ўсіх. Пачнеш мініяцюру – развінаецца ў цыганскую пугу. Такой заразы (пошасці) няма ў маім вершаванні. Ды не пішацца, на жаль. Аніводным радком пакуль што не пастукаўся верш.

**8 ліпеня**

Два тэлефонныя званкі з Жабінкі. Першы нагадаў пра дзесятае чысло – 50-годдзе Васіля Сахарчука. Падключыўся адзначыць дату райвыканкам. Дамаўляемся, каб без лішняй святочнасці. Пяць месяцаў Васіль не дацягнуў… Горка, што не западозрыў ягонага намеру. Аднак, ці быў намер? Ці бывае ён у каго наогул? Якія б ні былі матывы, а самагвалтоўны сыход з жыцця заўсёды раптоўнасць. Чалавек, тым болей паэт, не халоднакаменны егіпецкі Сфінкс.

Мяккім кантрастам на тую ж тэму “ці прыедзеш?” другі званок, ад Вольгі. “У нас радасць, - паведаміла дачка, - Муся вярнулася”. Парадаваўся з дзеўчынёхаю, хоць быў заўсёды супраць таго, каб яны з жонкаю трымалі кошку ў няволі. І не сумняваўся, што вернецца. Назіраў такую дзею за Сахарчуковым маладым сабачкам Рыжыкам. Той, хто пабываў на ланцугу, на ланцуг і прыйдзе. Мініяцюра пра гэта, здаецца, у мяне атрымалася.

Дзень праходзіць у зборах да паездкі. Гатую пітво-ежу для бацькі з запасам. Прамылі раны, і ногі ў яго палепшалі. Альбо проста бацька настроіўся на маё “не магу не паехаць”? Ён не пярэчыць, выпраўляе.

Уставаць а пятай гадзіне. Баюся праспаць. А яшчэ баюся, што будзе прахапляцца бацька. Каб пабудзіць мяне.

**12 ліпеня**

З’ездзіў, патраціўшы тры дні. Дома (у Чудзіне) з 11-га. Заваліўся мокры ад дажджу. Спаў доўга. Зухам не пачуваюся, хоць развейваўся

на дварэ. У агародзе за час маёй адсутнасці адрасло пустазелле, асабліва ўзялося ў сілу на бульбе. Ладны кавалак работы.

Палю ў печцы: у хаце вогла. Печка дыміць, трэба чысціць. Гатую прывезенае мяса, грэю многа вады, як загадаў бацька. Збіраецца добра памыцца і папарыць ногі. З'езджу ў аптэку купіць нейкую новую прамыўку ран, падказаную фельчарам. Ён настрашыў верагоднасцю гангрэны. Сумняваюся, бо сінюшнасць на левай, больш пацярпелай назе, прыкметна сыходзіць. Мо хоць крыху дапамагаюць таблеткі ад цукру. Супакойваю бацьку і асцярожна намякаю, што трэба ў бальніцу. Ён гэта разумее, але баіцца ампутацыі нагі. Наколькі правільна псіхалагічна паступіў фельчар: нага або смерць? Бацька схіляецца да другога.

Пілі з ім гарбату: кампот астывае на абед. Ад віна я адмовіўся, ператрываю. Учора бацька змоўчаў, а сёння, ідучы да стала, адзін раз уздыхнуў асудна: "Саша, Саша..." Сам разумею, бацька.

**Той жа дзень**

З няёмкасцю ўспамінаю свае сустрэчы з Іванам Лагвіновічам. Сустракаліся ў Баранавічах двойчы: калі ехаў туды і калі вяртаўся назад. Спакусіў яго віном, няхай кропляю. Іван – таленавіты самотнік і вымушаны вегетарыянец: хварэе. А колькі гадоў назад я так радаваўся за яго, былога данбаскага шахцёра, які вярнуўся да радзімы (ён з Ганцаўшчыны) і беларускай паэзіі. Нямала зрабіў, за кароткі час стаў прызнаным паэтам. Зрэшты, прызнаны кім? Галубовічам, Пракаповічам, мною... У іншых абставінах імя загучала б куды шырэй. Цяпер Іван прызнаўся, што не пішацца. "Каму гэта трэба?" У кватэры адзін, шахцёрска-пенсійныя грошы пускае на кнігі. Чытае шмат, з баранавіцкімі раўнівымі "класікамі" бачыцца рэдка. Яшчэ адзін незапатрабаваны талент.

Я прапанаваў яму перакласці што-небудзь з Валерыя Грышкаўца, якому напрыканцы года 50. Ён пагадзіўся, прынамсі, як след учытацца.

**13 ліпеня**

Замкнёная прастора. Гэта адчуваю пасля "вылазкі" ў звыклы свет. Хаця... Што добрага там? Бадай, адно: сустрэчы з сябрамі. Чым далей, тым болей самотнымі. Яднаюць успаміны, а наперадзе ўсё новыя страты, старасць – і непазбежнасць, тое, да чаго кожны прывыкае сам.

Спрабую разгаварыць бацьку. Беспаспяхова. Наракае на дзяцей, што не прыязджаюць, на суседзяў-мужчын, што не заходзяць. “І смерці няма...”

Фізічна яму ледзь-ледзь палепшала. Менш спіць, ахвотней есць. За сняданкам сёння глядзеў тэлевізар. Але перавязкі робім часцей, гэта не на карысць зажыўленню. Самалекаванне ўсё ж не выйсце.

**Той жа дзень**

З агарода прагнаў дробны дождж-гнюс: нарабіў расы і гразі. Шапаціць і цяпер. На захадзе, пад Брэстам, суха, а тут ваўсю растуць грыбы. Праўда, не ўсім вяскоўцам да іх: рабіць прыхапкамі сена, палоць буракі, бульбу, яе ж і ратаваць у нізкіх мясцінах. У лес ходзяць пераважна дзеці ды адзінокія халасцякі, у якіх ні каровы, ні свіней. Варта б і мне вырвацца на гадзіну-другую.

Паабедалі. Гартаю лісцікі з чарнавымі накідамі вершаў, прывезеныя з дому (з дому дадому?). Ні за адзін былы настрой не зачапіўся. Мала і чытаю: “ЛіМ” ды “Уліса” ў “Иностранной литературе”.

Бацька размаўляе па тэлефоне з Марусяю, трэцяю з чатырох маіх сясцёр. “Што, к вам? Не знаю, Маруся. Пазіраць, як вы п’яце?..” Яна ў Слуцкім раёне за былым міліцыянерам, увогуле, неблагім кампанейскім чалавекам.

Мы ўсе хто дзе. Даўно не маем завядзёнкі ездзіць адно да аднаго ў госці. На вяселлях дзяцей і то не бываем. Хіба што пахаванні збіраюць разам.

**Той жа дзень**

Змок не ў агародзе, дык у лесе. За нядоўгі час набраў ледзь не поўны кош падбярозавікаў і лісічак.

У пакоі яшчэ светла, бо распагодзілася. Пахне грыбамі і хвояй. Водар прынесены з лесу. Толькі цяпер заўважаю, што ў маім пакоі і ва ўсім доме аніводнага вазона. Гадоў богведама колькі назад я чытаў і пісаў пад фікусам і рабою паняю, што нярэдка плакала лішкамі вільгаці. Яны састарыліся і згінулі. Больш “разводзіць сырасць” у хаце не дазволіў, канечне, бацька. Затое маці і сёлета насеяла кветак каля хаты. Позніх, каб даўжэй цвілі.

Цяжкага “Уліса” чытаць не хочацца. А ў “ЛіМе” такі дробны шрыфт, што не разбяру і пры яркай лямпачцы. З першай, анонсавай, старонкі тужліва пазірае Васіль Сахарчук. Не верыцца, што яго няма, як не верылася і там, на юбілеі без яго.

Дзесяты дзень ліпеня яскрава адклаўся ў памяці. Перажыліся складаныя пачуцці. Цяпер усведамляю іх у трыадзінстве. Жаль да

чалавека і добрага паэта – крыўда ад страты сябра і “аб’ектыўнай абсурднасці жыцця” (Сартр) – няўкленчанасць перад учынкам, які ў юнацтве прыняў бы за мужнасць і ледзь не за геройства. Самагубства, якімі б фізічнымі і маральнымі пакутамі яно ні матывавалася, апраўдальнае адно тады, калі ты абсалютна нікому не патрэбен, інакш яно праяўленне тваёй сутнасці як эгаіста. Разумею, гэта не вельмі стасуецца з хрысціянскімі поглядамі. Аднак жа рэлігійным вернікам Васіль не быў.

Юбілейна-памінальная імпрэза прайшла годна. Шмат сяброў і – чаго не чакалася сярод белага дня – людзей у зале. Прафесійныя чытанні і спевы. Выступленні светлыя і стасоўныя, без “мыслии по древу”. Сціплы шведскі стол у канцы... Не без выдатку з майго боку: пахваліў галаву раёна (з прозвішчам Каляда!) за беларускую мову. Не варта было, час прымаць за належнае.

**14 ліпеня**

Хадзіў дамоў да фельчара, ён у адпачынку. Сцяпан Барсукевіч старэйшы за мяне. Ён першы з чудзінцаў паступіў у тэхнікум (медвучылішча), я ў інстытут. Цяпер дыпламаваных многа, але ў вёсцы працуюць адзінкі. Калісьці Чудзін набліжаўся да шасцісот двароў, аднак ужо даўно не разбудоўваецца. З паўсотні двароў і хат закінутыя, у астатніх людзі пераважна старыя. На працу ў калгас ходзяць часам інтэлігенты. Некалькі гадоў назад, пры маладым дырэктары Ігары Марозе, адбудавалі вялікую школу, а хто будзе вучыцца ў недалёкай будучыні?

У школе робіцца музей Сержпутоўскага. Я спрычыняюся да яго, а ўсё ж баюся, што атрымаецца банальным: загружаецца лапцямі ды прасніцамі, калгаснай ды ўра-патрыятычнаю атрыбутыкай. Менш за ўсё ўвагі духоўнай культуры.

Антонавіч (інакш Сцяпана ў вёсцы не завуць) пажаліўся: бяда, людзі хварэюць, прычым цяжка, многія на рак. За нейкі дзесятак кіламетраў – зона, дзе плацяць, прынамсі, плацілі “дамавінныя”. У нас не плацілі і не плацяць, хоць дровы, грыбы, ягады з аднаго і таго ж лесу.

Сумная статыстыка: за паўгода 15 чалавек памерла і толькі двое нарадзіліся. Антонавіч зрабіў агаворку: ён не ўлічыў тых, хто скончыў самагубствам. Некаторых ведаю. Весянул і лавелас Васіль Вайтаравых (з нашага, па маці, роду) запіў і павесіўся, калі застаўся адзін; памерла жонка, а дзеці ў белым свеце.

Адзінокія старыя ўсё ж неяк трымаюцца, не ўсе нават кароў сцураліся, а маладыя... Двары трох з іх бачыў: запусценне поўнае, у

агародах ані градачкі. Хто падзарабляе ці ў лясгасе, ці ў калгасе (тут грошы бываюць далёка не кожны месяц). Іншыя ж крадуць. Двух трыццаціпяцігадовых нядаўна судзілі: абакралі нежылую хату ў Пярэвалаках, у вёсачцы нашага сельсавета, якая амаль уся стала "дачнаю". Быў я там у мінулы прыезд, браў газетны матэрыял пра маці 19-ці дзяцей. Яна жыве адна, вось табе і нарадзіла-выгадавала!

Маралізую. А нас жа ў бацькі і маці было таксама нямала, шасцёра. Вярнуўся адзін Толя, ды і той, як выявіў лёс, паміраць.

**Той жа дзень**

Як угаварыць бацьку? Фельчар настойвае на бальніцы. Агледзець хворага адмовіўся. Сказаў, няма сэнсу. Дзякуй і на тым, як той казаў, але пра гангрэну ён усё ж дарма. Я не медык, але...

Змяркаецца. Стары спіць, і трэба чакаць учарашняга. Прачнецца сярод ночы і памыліцца ў пары сутак.

Буду патроху пасоўваць "Ліст". Настрой адпаведны. Працяг зрабіў, калі прыйшоў ад фельчара. Ідзе туга. У апавяданні трагічны фінал. Рука не слухаецца.

**15 ліпеня**

Прамывалі бацькавы ногі жасцёрам. Адварам лісця. Гэтае дзіўнае дрэва паказала Люба. Някідкае, карлікавае. Ледзь не згубіў яго, ваюючы з травастоем і хмызам на пчольніку.

Хаткі-вуллі без пчол. Нечакана мітуслівa каля аднае: няйнакш, прыбіўся малады рой-уцякач. Сказаў пра гэта бацьку, і на табе! Ён рушыў туды сам. Зайшоў, зазірнуў у вулей і, ужо прыкметна цяжэй, прыйшоў. Ці надоўга яму палепшала? Ад бальніцы рашуча адмахнуўся. Перачакаем. Яго настрой мяняецца часта.

Усталявалася пагода, сонечна. Адно што парна, і немагчыма пісаць на дварэ. Узяўся за газетны артыкул – дзеля няшчаснай капейкі.

**Той жа дзень**

21 гадзіна. Сем-восем гадзін назад прыехала Надзя. Пасля таго як не стала Толі, яна наймалодшая. Узялася прыбіраць у доме, мыць бялізну, выбіраць агуркі. Я з большага дапамагаў, але яна ўсё сама, сама... Порсткая і гаманкая кабеціна. А хворая ж. Маці-адзіночка. Дзяцей у яе горба і не аднаго бацькі. Пераборлівая або наадварот. Мужыкоў мела не згадаю колькі, а кахае безнадзейна першага.

Скокнуў роварам у недалёкі беразняк, набраў для яе грыбоў. Нядаўна былі на братавай магіле. Парвалі траву і побач: агароджа

разлічана таксама на бацькоў. З галавы не выходзіла, калі блукалі па моглiцах:

Што ж, буду тут і я названы
між імі, ціхімі людзьмі...

А і праўда, дзе будзе мая магіла?

Перамяніць пласцінку, дапісаць артыкул у газету. Надзя, чую, сцеле сабе на матчыным ложку. Ёй уранку ехаць у свае Старыя Дарогі. Сюды перабірацца не хоча: у калгасе малы заробак, а яна думае пра пенсію. Ранавата, ёй жа ўсяго сорак восьмы.

**16 ліпеня**

Дурны дзень! Яшчэ ў сне – вялікае чырвонае сонца, з якога, быццам з яйка, вылузваюцца нейкія іхтыязыўры... Не выспаўся, хоць устаў не рана. заснуў, не выключыўшы святла. Лямпачка біла ў вочы, да таго ж было душна не распранутаму.

Хапаўся адчыняць курэй, запальваць газпліту, гатаваць снеданне. Недасаліў, затое пераварыў першую маладую бульбу (не блінец, а камяком) і атрымаў вымову ад бацькі. У дадатак да ўсяго на грудзе загінула курыца: збіў, мяркуючы па росным следзе, матацыкл.

Тэлефанаваў аўтар з Белаазёрска. Я адрэдагаваў ягоную прозу. Рэдкі выпадак – не бясплатна, а значыць пры большых аўтарскіх прэтэнзіях. Мала рэдагавання, трэба яшчэ вычытаць карэктуру. Як я гэта зраблю, прывязаны тут? Няхай, калі хоча, дасылае, кніжка невялікая.

**Той жа дзень**

Пачуў нарэшце матчын голас. Ён паглушэў, афарбаваўся празрыстым смуткам. Гаворка была працяглаю, рванаю і часам няўцямнаю. Мама не зусім ачулася ад наркозу, ад моцных лекаў. Дзякуй Богу, што ўжо можа хадзіць, “запрашае” мяне: “Дак зайшоў бы к нам, ты ж недалёка, унь за тымі дамамі...” Ніякіх дамоў, наколькі памятаю, з акна Танінай кватэры не відно – Кальварыйскія могілкі. Перакінуліся словам з сястрою, яе матчыны фантазіі раздражняюць. У адрозненне ад Дзімы, меншага сына, былога “афганца”, які ўзяў апеку над бабуляю, балазе амаль не пакідае кватэры. Унукаў ад яго Таня не дачакаецца: ён цалкам прысвяціў сябе дабрачыннасці, у яго – штаб для такіх жа былых вайскоўцаў.

**Той жа дзень**

Зноў прападаў на агародзе, важдаўся з хворым. Надвячоркам пацягнуўся па вуліцы, напытваў аднаго, другога пра легкавік для

магчымай бацькавай паездкі ў Ганцавічы. Яны – пра сваё: картоплі вымаклі... атавы не даюць... сын п’е... зяць п’е... Добра спачуваць бліжняму, калі ў самога ўсё добра.

Сёння паслухаю “Доўгую дарогу дадому” Васіля Быкава і лягу спаць раней. Вядома, не снатворнае: у выкананні, хай сабе і радыйным, споведзь аўтара ўспрымаецца асабліва даткліва.

**17 ліпеня**

Нічога новага. Дапамагаў бацьку. Выполваў пустазелле. Здымаў памідоры і зрываў вішні. Вішнёвы кампот бацьку не спадабаўся: кіслы.

Ездзіў у грыбы. На Курган памяці ў лесе паглядзеў зводдаль, скрозь прасеку. Падысці не пацягнула. “Вечная память и слава павшим в боях за Родину”. Раней была праўдзівая шыльда, без “баёў”, якіх і не было. Дзевяцёрых вяскоўцаў, у іх ліку майго дзеда Рыгора, тут па-звярынаму замучылі паліцаі. Пра гэта, як і пра мемарыяльную дошку, я гадоў колькі назад пісаў у “Народнай волі”. Нічога не памянялася.

У лесе ўдалося супакоіць нервы. Прысеў у прахалодзе над травяністымі каляінамі з вадою і раптам заўважыў пярэстую, бы зязюля, порсткую мятлушку. Яна купалася. Хуценька-хуценька перабірала лапкамі, а крылцы ўгору, каб не намачыць, - так вясковая маладзіца падымае падол у бродзе або на рачным перамеле. Пырхала з каляіны ў каляіну даволі доўга. Часам, праўда, адпачывала, мо ўсё-такі падмачыла крылцы. Пасядзіць на травінцы, абсохне і зноў гарэзуе на вадзе. Слаўны і адзін момант бесклапотнасці! Гэта я не толькі пра мятлушку.

А зараз – нуда. 20.00. Пайду прайдуся. Босы пойдзе за мною, прывязаўся, бы сабачка.

**18 ліпеня**

Зранку, управіўшыся каля пліты і на падворку, чытаў “ЛіМ”. Цяпер, пакуль ехаць у краму, спрабую запісаць уражанні. Яны, на жаль, нязначныя: ад юбілею Сахарчука мінуў цэлы тыдзень, дый наогул, час цвярозіць. Яшчэ крыху, і ён запатрабуе глыбей і ахопней, без кампліментарнасці пісаць пра паэта .

Слушна ў Галубовіча пра выключную ролю балгарскай паэзіі ў творчасці Сахарчука. Праз яе ён выходзіў на еўрапейскія прасторы. Вось і ў падмурак паэмы (ці “вершанемы”) паклаў радкі балгарына, распрацаваўшы іранізм Здраўкі Кісёва ў трагізм. Пакінуў пасля сябе арыгінальны твор. На жаль, напісаную з болем “Споведзь самотніка”

аўтар не паспеў уважліва і прыдзірліва перачытаць. Інакш, думаю, Васіль збавіўся б ад “сонца-бясконца”, “жыцця-пачуцця” ды іншых засушаных рыфмаў, замяніў бы радок “Каханая мая, мяне ты не кахала”, згадаўшы ясенінскі: “Любимая, меня Вы не любили...”

Аднак жа я пачаў раздражняцца. Кропка. Еду ў краму.

**19 ліпеня**

У другой палове ўчарашняга дня было не да запісаў. Нечакана спаткаліся з аднакласнікам Алёшам Стральчэнем, прыехаў з сынам з Архангельска. У яго ні маці ўжо, ні бацькі: у хаце, яшчэ моцнай, жыве меншы брат, але таксама наездамі, бо “шабашнічае”. Гаманілі тут, прайшліся па вёсцы, завіталі да нас (не без віна). Алёша хацеў пабачыцца з маім бацькам, у якога быў на 70-годдзі, развітальным, як лічыў юбіляр, і таму шчодрым, з размахам. І вось такі кантраст... Не бачыліся 12 гадоў.

Двойчы сканфузіліся: не ўсіх сяброў з выпускнога класа прыгадалі і паспрачаліся, хто была наша першая настаўніца. Я памятаю яе добра – Вольга Васільеўна Аляшкевіч, з Начы родам, ці што. Яна сябравала з маёй сястрой Анютаю, тэлефаністкаю тады. Вучыла нас год, а перад замуствам выехала (чэхаўская фраза-рэмарка як бы мімаходзь: “Поехал в город жениться”). З нашых настаўнікаў у вёсцы ўжо нікога. Апошняю, нядаўна, пакінула Чудзін завуч Людміла Міхайлаўна Доліч, мусіць, каб быць бліжэй да дзяцей.

З аднакласнікаў і проста школьных таварышаў той-сёй вярнуўся. Змушана, гнаны самотаю. Адна нага тут, другая там, у пакінутай сям’і. Або за трыдзевяць зямель у заробках. Ды і жыві яны стала, імі, пяцідзесяцігадовымі, вёска не памаладзее. З часам пабагацее на пенсіянераў, вось і ўсё. Дзеці ж, не тут народжаныя, якога ліха сюды паедуць, да таго ж на мяжу з “дмавіннаю” зонаю? Прыблізна так разважалі з колішнім сябрам, і дадаць мне зараз няма чаго. Час дадасць.

Без сантыментаў развіталіся. Пра ліставанне ні слова. Пра новую сустрэчу таксама. На круглай планеце жывём.

Душна і пасля заходу сонца, пры адчыненым акне. А гадзіны дзве назад было яшчэ пякельней, калі марынаваў, з бацькавымі падказкамі, агуркі. Градуснік за акном прыбудоўкі, на сонцы, паказваў +45. І гэта а 18-й гадзіне! Зноў трэба пад сцюдзёную калодзежную ваду.

**20 ліпеня**

Нядзеля. Выбраўся на сяло пехатою. Надзіва людна было, і шмат моладзі. Купкамі – каля машын залётных гандляроў. Па двое, па трое – на траве ў цяньку, з вінам. Парамі або аднаасобна – уздоўж вуліцы з дзіцячымі вазкамі. “Праўда, што Алесь Каско – гэта вы?..” Ясна: паз’язджаліся. Хто да бацькоў, хто ў асірацелую бацькоўскую хату. Але ўсё выглядае, як у старыя добрыя часы.

Спаткаў выпадкова Марыю Васілеўну Бараноўскую. Яна былая настаўніца пачатковых класаў. Усё такая ж: прыгожая, рухавая, усмешлівая. Усмешка з ямачак не сыходзіць нават пры слязах. Гора ў яе вялікае, нядаўняе: у адну раніцу памерлі маці і муж. Дзве дамавіны адразу... Ёй адзінока. Найбольш казала пра сяброўку Людмілу Доліч, асуджала, што тая прадала дом і невядома як жыве на Міншчыне. Яна маецца прыехаць з дня на дзень у госці. “У грыбы пайду – перажываю, спяшаюся дахаты: раптам прыехала, а ў мяне замкнёна?..”

Дома ў нас крыху святочна. Памыў падлогу, дапамог памыцца бацьку. Ён, як толькі прачнуўся, спытаў: “Што сягонне ў нас, нядзеля?” Лагодны, не бурчыць.

Званок ад жонкі. Між іншым сказала, што паступілі ганарары: 30, 28, 9, 6 тысяч... Самы раз рабіць унёсак у будаўніцтва кааператыўнай кватэры, якую задумала жонка. Смех, дый годзе.

**22 ліпеня**

Рашучае настойванне на паездцы да хірурга скончылася адчаем. Стары ўзбунтаваўся: “Ты от што. Калі надаела, дак едзь у Жабінку, я найму каго-нібудзь”. Добра, што я не сарваўся, каб сапраўды кінуць усё ды з’ехаць.

На паўдарозе да аўтобуснага прыпынку, канечне, адумаўся б.

Учора і сёння без настрою. Як будзе заўтра?

**23 ліпеня**

“Дні праходзяць марна і бяздарна” (Міх. Рудкоўскі). Бяссілле што-небудзь істотнае зрабіць для здароўя бацькі. Абрыдзела аднастайная праца ў двары.

Невялікае адхланне – “вылазка” на Яўсейскі Груд, на Лань. Ад ракі адна назва, выпрастаны быстрак з гнілымі берагамі, а мая любімая мясціна засталася. Груд сярод поплаву, дуброва над процьмаю самых неверагодных дзікіх кветак. Дубы з пасляменіярацыйнага пакалення – што баравікі ў грыбную пару: каржакаватыя, крамяныя, кроністыя. Трывалая прырода!

Мне трэба быць менш сентыментальным. Чарніцы, сабраныя па дарозе назад, аказаліся для бацькі горкія, лубачны падасінавік-спарыш стаў усяго наглядным дапаможнікам, як трэба або не трэба падымаць грыбы. “Трэба раздзяляць!” І раздзяліў цуд-грыб, парэзаў. Я не ведаю расчуленага або хаця б здзіўленага бацькі. Маці – іншая зусім натура, кажуць, я ўдаўся ў яе, таму і вершы пішу. Ад бацькі ж у мяне найгоршае толькі і ёсць. Не навучыўся ў яго, на ўсе рукі майстра, аніводнаму рамяству.

Ну-ну, “пішу”. За гэтулькі дзён аніводнага вершаванага радка. Ці можна лічыць вершам во гэта? “Сузіральнік”:

“Гэты краявід рамантычна прыгожы. Не адчуваю, а ведаю. Маю вопыт мінулых перажыванняў.

Гэты краявід можна адлюстраваць вершам. Маю навык версіфікатарства. Камбінацыяй метафар падраблю пачуццё.

Мала хто здагадаецца, але памятаць буду я:
я той, хто выціскае слязу з каменя”.

## Той жа дзень

Перачытваю Бялінскага. Нейкі трэці том – цэлы фаліянт 49-га года выдання – заваляўся тут. Выбраў ягоныя выпады супраць Гогаля, балазе не так даўно перагортваў і яго. Стыль “неистового Виссариона” проста бянтэжыць (“обескураживает”). Сарказм заўсёды ў выйгрышы перад спавядальнасцю, як гардыня перад пакорай. Чыхвосць усё запар, жанглюй красамоўствам! Аднак перавага ілюзорная. Бялінскі, багата цытуючы апанента, здаецца, і сам не заўважае, як б’е сябе ягонымі словамі: “Нет, по мне, уж лучше временное уныние и тоска от самого себя, нежели самонадеянность в себе”.

## 25 ліпеня

Другі дзень у хаце ажыўлена. Прыехала Таццяна з сынам і ўнукам і прывезла з сабою маму. Добрая мама! Ні слова крыўды на бацьку, хоць у вёсцы асуджаюць яго: прыспешыў, маўляў, аперацыю. “Застануся тут!” – заявіла, паклікаўшы мяне, маці.

Акідваю ў думках яе век. Перадваенная праца прычэпшчыцаю – камсамолка ж – на трактары, які аднойчы ледзь-ледзь не заараў яе. Хаванне ў вайну ад паліцаяў. Серпавае жніво з калыскаю ў полі і топкая сенажаць. Даенне калгасных кароў, што выцягвалі жылы, дзеля мізэрнага заробку. Дэспатыя мужа, бясконцыя клопаты і слёзы па нас. І ўсё гэта ўжо схавалася, затанула ў глыбока запалых, хворых вачах. Прынамсі, не праяўляецца нараканнямі.

Стараюся не вельмі расчульвацца. У хаце маладыя гарадскія хлопцы. Што яны ведаюць?

Вырашана: Таня забярэ абаіх. Бо заставацца дваім перастарэлым калекам тут – пагібель. Бацька пагаджаецца. Згодзе спрыяюць і ўнук з праўнукам, якія лашчацца і ўгаворваюць. Я ў бяссіллі маўчу. Горкая праўда: калі ледзь-ледзь спраўляўся з адным, дык дзе мне дагледзець яшчэ і маму. Думка-жаданне забраць да сябе ў Жабінку бязглуздая. Кватэра такая, што і працую, і сплю на кухні.

**Той жа дзень**

З мінчукамі, балазе ў іх машына, пабылі за вёскаю на старарэчышчы Лані. Рыбная мясціна каля сваяў ад былога драўлянага моста. Карасі тут іншы раз добра ловяцца. Хлопцы лавілі, а я больш пазіраў на былую раку. І зноў, мусіць, “не отразилось ничего”. Абыякава сузіраў тое, што паступова знікае і з душы. “Чудин, Днепр при тихой погоде...” Гогаль плюс Пракаповіч, Мікола быў тут, калі меліяратары “дарэзвалі” раку. А Лань і праўда – Дняпро, пасярэдніцтвам Прыпяці.

Каб заняць маці, чысціў з ёю карасёў. Яна калісь любіла і ўмела гэта рабіць. Сёння ж, каб выкінуць кішкі, зноў і зноў надрэзвала рыбіну каля хваста...

**26 ліпеня**

Сястра, на жаль, прагаварылася бацьку пра шпіталь у Бараўлянах, куды яго, інваліда вайны, прынялі б, напэўна, без праблем. Уладкаваць збіраліся праз некаторы час, не адразу. Дык нашто было адкрывацца? “Надумаліса, што ўчворыць! Каб там парэзалі да пакінулі насаўсім? От ласка мне!”

Поўны развал. Бацька цяпер у дарозе на Баранавічы. Прыехалі і павезлі ўнучка з мужам-прадпрымальнікам. Гаворка пра гэты варыянт вялася даўно, але ж дамаўляліся пра зіму.

З бацькам мы развітваліся абодва ўтрапёныя. Наказ мне: узяць нейкі квіток у сельсавеце, сабраць нейкія ключы ад нейкіх замкоў. “Сашу німа дзе жыць”. Гэта ён да Бубновай Любы.

Яшчэ раней злосная і заплаканая з’ехала Таня з дзецьмі і мамаю. “Як ты будзеш тут адзін? – перад ад’ездам турбавалася маці. – Нічога, сынок, я заўтра прыйду”. Тут і здаровы звіхнецца.

Але што ж атрымліваецца? Гэта я, атрымліваецца, самы няшчасны з усіх? Яны думаюць, што я прыехаў сюды назаўсёды, выгнаны сям’ёю, ці што. У вёсцы, цяпер здагадваюся, думаюць гэтак

жа. Успамінаю парады суседа, як весці гаспадарку, намёкі сваячкі пра адзінокіх жанчын... Яці т-тваю!

Хочацца парваць дзённік.

**27 ліпеня**

Дабрыдзень, самота. Сяджу ў ранішнім прыцемку. Спяшацца няма куды. Прыбіраў у спальні і, чаго зусім не чакаў, абнатрыў дубальтоўку: ляжыць уздоўж сцяны на бацькавым ложку, прыхаваная занавескамі. Яна была няспраўная гадоў сто назад, і я лічыў, што бацька збыў яе або знішчыў. "Прыязджай, а не дак павешуса..." То чаму ж такім чынам? Даруй, Божа.

Паводле Ціміразева, сутнасць людскога жыцця ў натуральным, без узрушэнняў і зрываў, існаванні, ва ўмовах, пры якіх чалавек дажывае да глыбокай старасці і спакойна памірае. Ідэалізм матэрыяліста. Дастаткова і такіх умоў, якія б не вялі чалавека да самагубства. Ані ў маладосці, ані ў старасці. Бо ніхто нізавошта не хоча пакідаць жыцця сам.

Хлеў за акном. Бацька пачаў яго перакрываць, і ён чарнеецца новым рубероідам. А яшчэ год-два назад стары заяўляў: "Не буду, на мой век хваціць". Так ён казаў і пра дровы, ды потым папрасіў хлопцаў-мужчын, каб і прывезлі, і папілавалі.

Дроў шмат. Хто іх папаліць у печы ды грубцы? Наездамі будзем паліць, от ужо праўда, да скону сваіх дзён. Калі хто чужы не расцягне.

Трэба ісці і прыбіць дошку ў плоце: праз дзірку ў агарод залезлі куры. Суседскія. Сваіх яшчэ не выпускаў.

**3 жніўня**

Запіў. Не памятаю – якога дня. Сённяшнюю дату ведаю ад Бубновых. Учора яны спынілі мяне. Уночы, відно, прайшла бура, а я і не чуў: блізка ля хаты яблыня з ададраным вялікім ралам.

Цяжка выходзіць са "Стану" (назва нібыта верша). Мозг шалёна працуе, малоціць усё разам. Малаціў і ўночы.

Амінь, больш вершаў не пішу
(рука не цягнецца й да прозы)
і ўсё часцей я тым грашу,
што і лайдак, і нецвярозы...

Ану яго, пісаць пра тое, што не пішацца! З усяго мякіннага верша пакіну тое-сёе: "Святла ізноў не зберагчы ў краіне вечна глухаманнай", "Дзе, родны край, твая краса? Хіба што ў глянцы на асфальце". Занатоўваю на ўсялякі выпадак. Цяпер я да чарнавых накідаў стаўлюся не так бязлітасна, як раней.

Узяцца зноў за фізічную працу, яе за гэтыя дні гара набралася.

**4 жніўня**

Жонка тэлефанавала з дзвюх нагодаў. Ёсць нібыта перспектыва ўладкавацца на пастаянную журналісцкую працу. Другая нагода – пытанне: чаго мне далей сядзець у чорта на рагах? І праўда, чаго? Маці, бацька наўрад ці вернуцца, прынамсі, у бліжэйшы час, а роля вартаўніка або рабінзона неўзабаве прыесца.

Думаю, з кім і з чым сябе параўнаць. З перасаджаным дрэвам, якое не пусціла каранёў?

Зманіў Людміле, што ў Баранавічы ўжо тэлефанаваў. Набраў нумар пасля яе званка. Бацьку пакуль што не лепш, затое хірург не знайшоў ніякай гангрэны. Мо цяпер стары адважыцца на бальніцу?

Мама агукнулася сама. Здаецца, мне ўдалося зменшыць яе турботы: маўляў, і ў мяне ўсё добра, і ў бацькі не ўсё так кепска. Яна ў канцы: "Не вельмі налягай на картоплі, еш і макароны, насенне навесну пакідай".

**5 жніўня**

То сонца, то дождж, і я то ў агародзе, то ў хаце. Бывае, заседжваюся, як зараз. Каб утаймаваць мозг, засяроджваюся на "Улісе". Чытаю паволі, як чытаюць Біблію. І, як Біблію, часам адгортваю наўздагад, бо паслядоўнае чытанне стамляе, адварочвае. Мне парою да лесу Джойсавы ўскладнёнасці і каментарыі да яго. Амаль на кожнай старонцы знаходжу цудоўныя апісанні, думкі, стылёвыя ўзоры, інтэрпрэтацыі. "Вокруг меня насыщенные и насыщающиеся мозги... а во тьме моего ума грузное подземное чудище, неповоротливое, боящееся света, шевелит драконовой чешуей. Мысль – это мысль о мысли".

Чуў, што "Уліс" перакладзены беларусамі ў Польшчы. Мець бы кнігу, а ўрыўкі, што былі ў "Нашай ніве", не вельмі ўразілі.

Бялінскага з яго банальнасцямі тыпу "в здоровом теле здоровый дух" адклаў канчаткова. Не яго забяру ў Жабінку. Вазьму двухтомнік Панчанкі 59-га года выдання. Няблага захаваўся. Будзе нагадваць пра студэнцкія часы, калі мы скуплялі ўсё беларускае, - таннае, уцэненае, а нам і патрэбнае, і дарагое.

**6 жніўня**

Апоўдні да лаўкі, дзе я курыў пад маёй і братавай таполямі, падышоў Толя Бубноў: "Хваціць скучаць. Паехалі са мною. Куды? На прыроду". Запрасіў з хітрыкаю. Не такі ён лайдак, каб проста гойдаць

на матацыкле, швэндацца без справы па лугах, пералесках. За кіламетраў пяць-шэсць ад вёскі, пад “дамавіннымі” Гаўрыльчыцамі, аказалася яго лясгасаўская сенажаць. Варушылі (“варочалі” па-нашаму) сена.

І ўсё-такі змог насыціцца краявідамі, запыняючы вока на астраўках колішняга, майго, Палесся. Нават стararэчышча Лані збольшага зберагл*ося – запруджанае, зарослае, там і тут перасечанае экзатычнымі дарогамі ў гушчары хмызнякоў і лазы. І ўсё роўна пазнаецца ставамі забурэлай і гнілой вады, высокімі чаратамі, ланцугамі дрэў і кустоў. Рэшткі памяці пра дзяцінства і юнацтва. Не вечныя ні людзі, ні рэкі.

Калі вярнуліся дадому, Талян як бы мімаходзь адкрыўся: будзе заўтра пагода, дык яны гуртам паедуць збіраць і вывозіць сена. Я зразумеў і гэты намёк. Мушу добра выспацца, калі ўдасца: пакутую ад бяссоння. Але вылазка “на прыроду” ды шалёная язда на матацыкле, няйнакш, паспрыяюць сну.

**8 жніўня**

Здаецца, гэтак цяжка, як учора, я ніколі не працаваў. Ну, было, вынатужваўся на тых самых пакосах, тапіўся ў рудой вадзе, выносячы на дзвюх жэрдках-насілках з бацькам або з маці сена на сухое. Аднак тое было даўно, у юнацтве, бы ў далёкім сне: і малюнак няяркі, і боль ад ламоты ў касцях бязгучны.

Учора ўсё вярнулася, няхай сабе і на былым, высушаным і адпрасаваным, балоце. Колькі сена трэба было сабраць, перанесці, пагрузіць, разгрузіць!.. Здужаў, вытрымаў і цяпер цешуся: яшчэ не зломак. Высілкі да таго ж не для чужых людзей, ім трэба яшчэ дзякаваць ды дзякаваць. Нават браць ад іх малако (прыносяць з учарашняга дня) няёмка.

Цэлы дзень б’ю бібікі, нават чытаць не хочацца.

**9 жніўня**

Пачаў абіраць антонаўкі: штодзень ездзяць нарыхтоўшчыкі з “поля” – з Капыльшчыны, Случчыны, дзе яблыкі не ўрадзілі. Для мяне ўсялякі рубель не лішні, жыву з саду-агароду. Агарод сёлета надзіва шчодры: у гурочнік не ўбіцца, цыбуліны наступаюць адна на адну, бульба пасаджана ўпрытак з плотам. Маці як прадчувала свой ад’езд. Гэтак невераемна густа высыпае на голле шышкі сасна, што засыхае…

**10 жніўня**

Ад здагадкі, ад ценю думкі, што неўзабаве мушу ехаць адсюль, агортвае невыказны жаль. Штодзень, часам па некалькі разоў, меланхалічна блукаю па блізкіх мне мясцінах. Сёння наведаўся на Белую (або Лысую) гару на ўскрайку лесу. Тут улетку мы куляліся з яе пясчаных схілаў, "бралі" яе, як франтавую вышыню, зімою рабілі слалам і трамплін. Бываў я тут і на самоце, калі перажываў таемнае каханне:

Вынырне бліскучы месяц з-за гары,
пад пушыстым снегам бор засне стары.
І заплюшчаць вочы хаты ўсе, адно
доўга не патухне любае акно...

Гары няма: разабралі на пясок пад будаўніцтва. Цяпер тут шыльда: "Свалка мусора". Іронія, што не прыдумаеш.

Званіла дачка, а пасля я ёй. Волечка знаёміла мяне з лістамі, дасланымі ў Жабінку. У прыватнасці, з Масквы, ад Валеры Грышкаўца. У "Дружбе народов" друкуюцца вершы ў ягоных перакладах. Мае.

**11 жніўня**

Бяссонне. Рэкорднай была мінулая ноч: дзве гадзіны сну.

Патэлефанаваў жонцы. Перспектыва з працаўладкаваннем яшчэ не блізкая. Не надта засмучаюся: ёсць магчымасць затрымацца ў Чудзіне. Балазе выручыў сякія-такія грошы за яблыкі.

**13 жніўня**

Размаўляў па тэлефоне з бацькам. Ён зболены і маркотны, у яго ўсё па-ранейшаму, хоць наведваецца доктар. Я спытаў, ці званіла маці яму. Адказаў са здзіўленнем: не. Здагадваюся, ёй не даюць тэлефанаваць (трэба пагаварыць з сястрою). Мама размаўляла ўчора са мною, пыталася і пра яго. Гэтым крыху суцешыў бацьку.

Абое цікавяцца домам. Чакаюць пераменаў навесну.

**15 жніўня**

Наведаўся ў Чудзінскае лясніцтва. Мяне даўно цікавіць лёс лесу. Бачыў пажарышчы – жахлівае відовішча і адчуванне, нібыта і ты пачарнеў, абвугліўся з ног да галавы і ўсярэдзіне. Даўно заўважыў зрэджанасць лесу: ідзеш нібы ў парку, а не ў прыродатворным бары.

Гэтыя дзве акалічнасці найбольш турбавалі мяне ў размове з ляснічым Паўлам Стрэчкам. Размова была невясёлая, нягледзячы на гарбату і нешта мацнейшае. У 1992г. у ваколіцах Чудзіна (агонь падабраўся да самай вёскі) згарэлі тысячы гектараў лесу, а таксама

хмызнякоў у журавінным заказніку. На пажарышчах пілавалі ўсе, хто не ленаваўся, прычым валілі не толькі пакалечаныя дрэвы. Сам бачыў у вяскоўцаў так званыя дровы: ім акурат бы ў зрубы. Цяпер нібыта ўсё адноўлена пасадкамі, але страты не хутка кампенсуюцца: сасне для збору жывіцы трэба расці 65 гадоў, для драўніны – 90.

Зрэджанасць лесу не адно ад перагледжаных норм высадкі (зменшыліся амаль удвая). Яго прарэджваюць лясгасы дзеля замежнай валюты, хоць афіцыйна гэта называецца ачысткай, бо нарыхтоўваецца пераважна дробнатаварная драўніна – чатырохметровыя жэрдкі. Але пры чым тады нормы высадкі?

Падзякаваў ляснічаму за шчырасць. А тэма – беларускі лес – не перастала турбаваць. Нічога не ўдалося высветліць пра радыяцыйныя наступствы лясных пажараў: узровень радыяцыі ніхто не замервае. Між тым я насушыў грыбоў, назбіраў брусніц...

**17 жніўня**

Крутнуў на ровары ў Пярэвалакі, перадаў газету героям публікацыі. Заадно пабываў на хутары Шарпутоўшчына, паміж Пярэвалакамі і Чудзінам. Сержпутоўскіх інакш не называлі, як Шарпаты, так прасцей вымаўляць, адсюль і назва хутара, адсюль і адзін з псеўданімаў фалькларыста і этнографа. (Дарэчы, і пісьменніка. Калі ўжо надрукуюцца ягоныя апавяданні, нарысы?)

На хутары запусценне, гэта ўжо і не хутар, а ўрочышча проста. Некалі я застаў яшчэ сведку юначых гадоў Сержпутоўскага – самавіты і сімвалічны дуб: адна галіна, зялёная, высока ўгору, другая, мёртвая, да самай зямлі. Сёння не знайшоў яго. Але ў памяці яркі. Застаўся і ў маім нататніку, эскізна замаляваны. А кінастужка на абласным тэлебачанні, відаць, згубілася.

Вярнуўся і патэлефанаваў у Аранчыцы Міколу Папеку: прыедзеш? Не сказаў "не", не сказаў "так". Няварта было званіць. Ясна, не прыедзе. Ці ўручыць ён сёлета каму-небудзь з пісьменнікаў сваю Мядовую прэмію? Расстроіўся і не запытаўся.

**18 жніўня**

Паявіліся кампанійкі, не зусім гуляшчыя, аднак... Яшчэ раз упэўніўся, што не магу рабіць так, як вяскоўцы: піць і працаваць адначасова. Было гэтак на перавозцы сена ў далёкага сваяка. Сабраліся талакою каля трактара – выпілі, заехалі на сенажаць, нагрузілі прычэп – выпілі, прыехалі, выгрузілі сена – зноў выпілі. Ачмурэнне, пот, галаўны боль, а ім хоць бы што. Яны звыклыя.

Усё, зноў замыкаюся ў сабе.

## 19 жніўня

Патроху працую над апавяданнем “Трутнёўка”, падпраўляю, балазе пратататып гераіні тут. Калісьці гультаі, а тым больш гультайкі, у вёсцы лічыліся за вырадкаў. Цяпер плодзяцца і плодзяць новых.

Пачаў быў праяўляцца “сур’ёзны” верш.

Уначы
чараў чыніцца многа.
Нехта стаў ля парога
і маўчыць...

Пакрысе містыка саступае іроніі. Але ўсё роўна слабізна.

Затое чарнавы варыянт “Бяздомніка” пакуль што падабаецца. Гэта магла б быць паэма, але я зарокся паэм пасля “Апазнання”, адэкватна прачытанага малавядомым рэцэнзентам і не зразуметага ўсімі астатнімі.

## 21 жніўня

Трохі пішу, чытаю “Уліса”, рыхтую соткі для капання бульбы, а больш прападаю ў лесе. Знайшоў някепскую грыбную мясціну.

Тэлефанавалі з Брэста чыноўніца з упраўлення культуры і Мікола Пракаповіч. Чакаецца сустрэча творчых арганізацый з кіраўніцтвам вобласці. Закавыка ў тым, што мае просьбы і прапановы як сакратара пісьменніцкага аддзялення, выкладзеныя на паперы, згубіліся, і мне трэба іх узнавіць. Ці варта – праз цэлы год? Прытым я ўжо адзін раз узнаўляў. Такая вось увага да пісьменнікаў.

## 22 жніўня

У Чудзіне павесіўся яшчэ адзін малады чалавек. Сын прыстойных бацькоў, прыблізна маіх аднагодкаў. Не самотнік і не п’яніца. З таго яшчэ вастрэй думаецца пра непазбежнае.

Адзінае на сённяшні дзень маё тлумачэнне (апраўданне) смерці – гэта яе выключная загадкавасць, таямніца. Нават несправядліва было б зрабіцца неўміручым, але недасведчаным. Чалавек у канцы жыцця спасцігае сэнс або бяссэнсавасць пройдзенага шляху, аднак – не смерці. Яе разгадка – па той бок.

## 24 жніўня

Нядзеля, а сумна. Аднастайныя дні. Працы ў агародзе не перарабіць, асабліва з-за таго, што буяе, як ніколі, пустазелле: выкасіш ці выпалеш у адным канцы, адрастае ў другім. А пройдзе дождж, дык паўстае паўсюль разам, проста на вачах.

Учора пачаў капаць бульбу. Капаю марудна, без ахвоты. Чакаю падмогі. Маюцца пад'ехаць Надзя і Маруся, сёстры. Адзін бы я "закапаўся" да зімы.

Туга па вёсцы мінае. Так, з-за нуды, зранку пабадзяўся па недалёкім драбналессі. Пагаманіў з дзецьмі, спатканымі па дарозе, пра школу, куды яны, вядома ж, не хочуць (мне б іхнія праблемы). І засумаваў па дачцэ. Найперш па ёй, а па горадзе – аніколькі. Нейкая раздвоенасць.

**Той жа дзень**

Прыходзяць пакупнікі, тыя, хто на куплю-продаж дамаўляўся з бацькам. Што ж, прадаю, мне трэба грошы і тут – узнікае праблема наняць чалавека з канём дзеля бульбы, - і на дарогу. Адну рэч прадаў (лічы, аддаў) без бацькавага дазволу. Яна, крый Бог, лішняя, далей ад яе.

Больш, чым справа, цікавіць мяне гаворка людзей, яе гучанне, падзабытыя мною слоўцы. Зрэдку запісваю. Зрэдку, бо нашы словы ўжо даўно пачалі замяняцца на прывезеныя з горада. "Вуксус", "поснае масла", "наскі", "брукі" і нават "картошка", што пачуў упершыню. Праўда, суразмоўнікі маю літаратурную мову ўспрымаюць як належнае (раней, памятаю, заўважалі, перапытвалі часам). Умовы для мовы, нармальныя, калі будуць? Неяк тэлебачанне, якое гляджу, калі абедаю, дагаварылася да "хатніх сланоў". Сланы, як знарок, здаравенныя і буйным планам. Уяўляю іх у хаце!

Даводзілася чытаць "Очерки наречия дер. Чудин..." А.Сержпутоўскага. У слоўнічку, змешчаным там, нямала слоў, незразумелых для мяне. Згінулі, забыліся і ў вёсцы. Дык што, такі ж лёс чакае і некаторыя сённяшнія, ёмістыя і гаваркія словы – "аполак", "атапок", "віш", "завалкі", "ёўгнуць"? Пагэтаму і хочацца запісваць.

**25 жніўня**

З учарашняга адвячорка на душы павесялела. Пад'ехалі, і ў пару, капальнікі бульбы: Надзя, а замест Марусі яе сын Васіль. Сёлета ён пойдзе ў дзесяты клас, аднагодак маёй Вольгі. Кемлівы і шчыры, цікаўны і працавіты, не раўня гарадскім. Ці паразмаўляць з ім, ці прайсціся па грыбным узлеску, ці прыгатаваць сняданак – усюды ён малойца, усюды на вышыні. Кармілі курэй. Заўважылі, што рахманую караткахвостую курачку астатнія не прымаюць, б'юць. "Яна зараз адна нясецца", - патлумачыў я. "Хто нясецца, таго заўсёды б'юць", - падхапіў пляменнік. Галава!

Шкада, што такія, як ён ды разумніца-руплівіца Надзейка Бубнова, марацъ акурат пра горад. Там многае страцяць, як страціў я.

Даволі шпарка капаем бульбу. Сёння з канём праблемы не было. Але заўтра трэба разворваць на два дні. Паслязаўтра я паеду адсюль.

**Той жа дзень**

Ого, 23.20! Я з вандроўкі па вёсцы. Шура Евін, добры, зычлівы чалавек і дбайны гаспадар, заўтра араць у нас не будзе. Заўпарцілася жонка: трэба ўласныя соткі выбіраць. Сварлівая і грубая ўвогуле кабета: "тыкала" мне, нагаворвала на бацьку...

Яшчэ адзін кантраст – стрыечныя браты Хведар Лаўрымаў і Костусь Папок. Адзін выхваляўся сілаю, дужаўся са мною на рукі (і праўда, дужы, хоць і старэйшы за мяне гадоў на пятнаццаць). Другі стрыманы, разважлівы, тактоўны. Прыгажун і цяпер, але ўжо трынаццаць гадоў жыве адзін. "Другі раз дзеля дзяцей не жаніўся", - проста сказаў Костусь.

У абодвух коні, аднак заўтра вольны толькі Хведараў, а гаспадар на большым падпітку, чым брат. "Ты дай мне каня, - настойваў Костусь, - а я ўзару".

Не датэлефанаваўся ў Баранавічы. Гэта трывожыць. Як і што з бацькам?

**26 жніўня**

Браты не падвялі. А сёмай ужо грукнулі ў акно, хоць быў я на нагах. Бадзёрыя, крыху "падсвежаныя" віном. "А ў цябе е што? Ну, хай". Хведар прызнаўся, што праспаў бы. Пабудзіў Костусь. Апошні ўзяўся за ручкі цяжкага плуга, я за аброць каня, і пайшло-паехала. Конік малады, шустры, свавольны. Хуценька, борздзенька, там у крывулі, там з пропускам... Я рагатаў, мне было весела. Заплаціў шчадрэй, чым Евінаму Шуру, сапраўднаму аратаю. За тое, што стрымалі слова.

Капаў, выпраўляючы агрэхі, бульбу і забягаў у хату, званіў у Баранавічы. Досвіткам бацьку павезлі ў Бараўляны, на медагляд. Нарэшце старога ўгаварылі. Дактары, канечне, угаварылі. Што ж, наша спатканне адкладваецца. Неўзабаве трэба будзе збірацца ў сталіцу. У Баранавічах праведаю толькі сваякоў.

**27 жніўня**

На гадзінніку 6.30. Да адыходу на аўтобус хвілін 10-15. Скончылася паста ў самапісцы, узяў новую. Гэта не самы кепскі знак, хочацца думаць.

Пабудзіла Надзя. Каб не яна, мусіць, заспаў бы. Не ведаю, рупіць мне ехаць адсюль або не. З галавы не выходзіць позняя, амаль начная, тэлефонная размова з мамаю.

— Я прыходзіла ў Чудзін.

— З Мінска? Пехатою?

— Ага, захацелася паглядзець, ці на месцы хата.

— І што, мама?

— На месцы, яе нікуды не перавезлі. (Уявіў: цагляную...). Адно груша была не там, але я паклікала, і яна скоранька падышла...

Прыблізна такая размова. Варта было ноччу запісаць, не паленавацца.

Не расклейвайся, ідзі. Спознішся.

## НАЗІРАННІ ЗА БЕЛЫМІ ВОБЛАКАМІ

*

У трыццаць тры ўпершыню здзяцінеў. Прыехаў з сынам на радзіму, у вёску, — і пацягнула ў маленства; праз палі і бярозавы гай, праз дубровы і балотную сенажаць – на Лань. Ачоліў гурт хлапчукоў сынавага і большага веку – і рушыў. Усе босыя, узбуджаныя, гаманкія. І я ім раўня! Пазнаю сябе ў сыне, але такое адчуванне, быццам гэта і не ён, а проста дарагі мне хлопчык, мой сябрук, ды і я не я, такі дарослы і неразумны, а той далёкі і незваротны Кастусёў - Аксенін летуценнік-свавольнік, які вырваўся з дому... Фантастычна! Няйнакш, гэта матэрыялізавалася памяць і, як мара, збыўся ўспамін.

*

Дзіўна чуць здзіўленае: “Што, нацыянальнае ты ставіш перад агульначалавечым?“ Стаўлю ні паперадзе, ні пазадзе, а ў самую гушчу, бо нацыянальнае – неадʼемная часціна агульналюдскога. Ніхто не скажа, у каго мацнейшае (або слабейшае) патрыятычнае пачуццё: у эліна Адысея ці ў заходняга беларуса Алеся Руневіча, адпаведна – у Гамера ці ў Брыля. Але яно – ёсць.

*

Пакуль чалавек смяротны, вера ў Бога – неўміручая.

*

Палярнасць дабра і ліха не толькі ў іх сутнасна-мэтавым напаўненні, а і ў спосабах, формах іхняга існавання і праяўлення. У

супрацьвагу дабру, якое найчасцей малітва, спакой і сузіранне, ліха дынамічнае, актыўнае, усюдыіснае. І пагэтаму так цяжка змагацца з ім дабру.

*

Філасофія, якая так і не змагла даць пэўнага адказу ні на воднае кардынальнае пытанне быцщця, каб зусім не стаць марным, пустапарожнім заняткам, усё больш пераходзіць у сферу прыгожага – у паэзію, эсэістыку, мастацкую крытыку, дзе пошук ісціны істотна адрозніваецца ад навуковага. Мусіць, рэч у тым, што жыццё куды багацейшае і глыбейшае, чым любая філасофія, і знаходзіць сваё адлюстраванне ў апісанні, а не ў вытлумачэнні.

*

Тужлівая надзея і чаканне – вось настрой многіх твораў Альбэра Камю. Яскравы згустак: “Ён не ведаў тады, ці ён шчаслівы, ці – наадварот – яму хочацца плакаць. Прынамсі, у такія хвіліны ён заміраў у нейкім супакаенні, і яму заставалася толькі адно – чакаць, хоць ён і сам не ведаў, чаго” (апавяданне “Нямкі”). Гэтая экзістэнцыйная меланхолія вабіць больш, чым бязлітасныя і небясспрэчныя разважанні пісьменніка-філосафа пра “пяшчотную абыякавасць свету”, з якою ў рэшце рэшт зліваецца чалавек, памірае “ўвесь”, знаходзіць апраўданне жыццю ў смерці, перад чым “нішто, нішто не мае значэння” (раман “Чужаніца”).

*

Дзевяноста адсоткаў пісьменнікаў свету маюць псіхічныя адхіленні, восемдзесят – схільныя да дэпрэсіі. Такую выснову-статыстыку зрабілі самыя нібыта нармальныя людзі на зямлі — дактары-псіхіятры. Цікава, а ці падлічвалася доля ненармальных сярод іх саміх? І як гэта зрабіць? Даручыць бы пісьменнікам – вынік быў бы ці не такі самы, не ў пыху псіхіятрам…

*

Ці з’явіліся на мяжы двух стагоддзяў знакавыя творы ў беларускай літаратуры? – найбольш сур’ёзнае пытанне анкеты “ЛІМа”. Згадваю адзін з такіх: кароценькая навела В.Быкава “У двары”. Старэнькага дзеда вывелі ў двор, каб пагрэўся на сонейку, парадаваўся вясне. І ён радуецца, што дажыў да яе, радуецца дзяўчынцы, што выгульвае сабаку, пакуль што спакойнага, самавітага. Нечакана сабачына вырывае павадок з кволых рук і

намёртва хапае дзеда за горла… Хіба гэта не метафізіка двух стагоддзяў для нас?

*

Тактоўнасці, зычлівасці, веданню псіхалогіі добра было вучыцца ў незабыўнага У.Калесніка. Неяк на пасяджэнні літаб'яднання чытаў свае патрыятычныя радкі не тое што графаман, а ў простым сэнсе нездаровы псіхічна чалавек, пра што мы, жаўтаротыя тады, здагадаліся не адразу.Ён скончыў чытаць і заявіў: ці не паспрыялі б, каб во гэты верш быў змешчаны на сцяне Брэсцкай крэпасці? (Акурат распачыналася рэканструкцыя яе). Уладзімір Андрэевіч знайшоўся праз невялікую паўзу: слушная , сказаў , прапанова, але прыпозненая, бо праект ужо зацверджаны і мы не зможам умяшацца…Аўтар быў цалкам задаволены, а жаўтаротыя перасталі рагатаць між сабою і чарговы раз вялікімі вачыма зірнулі на Настаўніка.

*

Другі год пачынаецца без Уладзіміра Андрэевіча Калесніка… Горка і няўцешна было пачуць у адзін з апошніх ягоных дзён: "Нікуды не падзецца. Што зробіш? Не хоча цела трымаць душы, не ў сілах…" І душа тая так вогненна-журботна пазірала ягонымі вачыма. Яна жыла, пакутавала тым, чаго не паспела зрабіць, хоць і зрабіла уга колькі! Нейкі дакор і наказ быў мне, нам, каму ён пасабляў жыць духам, не даваў апусціцца ў спраты абыякавасці, ленасці, адчаю ці звычайнага п'янства.

*

Снежная, сонечная, сухая зіма, якой не было даўно. Яна вабіць, цягне блукаць па навакольных вёсачках-прыгарадах, палях, пералесках. Спыніўся перад чырвона-белаю графікаю гонкага сасонніку і шчымеў душою: якая прыгажосць! Пакуль не адчуў страшэннай адзіноты. Раней мы стаялі тут з Васілём Сахарчуком, і ён казаў, што хаця б дзеля гэтага хараства яшчэ варта пажыць на свеце. А пражыў толькі год, зламаўся раптоўна…

*

Маленства – летамі, юнацтва і маладосць – зімамі. Гэтак памятаюцца. Дадому, у шэрань і снежныя гурбы да стрэх, у водар дымоў і згадак! Спачатку сам сабе, а потым і ўголас выдыхаў: "О мой

Божа, як прыгожа!” І за час пабыўкі амаль не пісаў. Апрача гэтай сакраментальнай фразы, у галаве і ў сэрцы круцілася коласаўскае:

О край родны, край прыгожы,
Мілы кут маіх бацькоў!
Што мілей на свеце Божым
Гэтых светлых берагоў…

Даўно ўсё мінула. Бясснежнымі, голымі сталі зімы, прытупіліся памяць і пачуцці. Дома цяпер мала пішацца не з-за празмерных эмоцый, а з-за катастрафічнай іх недастатковасці.

*

Паэма “Над ракой Арэсай” – дзіўны і няпросты для тлумачэння купалаўскі твор. З тых, за якія паэта папракаў Колас: маўляў, піша “дрындулкі”.

Свіснуў раз, свіснуў два
Шустры паравозік
І павёз, і павёз
За возікам возік…

Мяне ў студэнцтве асабліва бянтэжылі такія два радкі паэмы: ”Можа ёсць і недахопы, але іх не бачыў”. Калі стаў журналістам-раёншчыкам, не аднойчы цытаваў іх і казаў сябрам: вось – эпіграф і лейтматыў нашых з вамі газетных публікацый.

Што ж насамрэч адбывалася з геніем?.. Гнёт савецкай ідэалогіі змушаў коўзаць паэтава пяро на аркушы, бы іголку на сапсаванай грампласцінцы. І часта збіваў на іронію, ідэолагамі так і не адчутую: заказалі – дык наце!..

*

Захапляюся тургенеўскімі ”Стихотворениями в прозе” і зноў пераконваюся ва ўмоўнасці жанравага падзелу ў літаратуры. Глыбокія перажыванні ў максімальнай суаднесенасці з вобразным словам – вось што яднае ўвесь гэты дыяментавы россып: медытацыю, апавяданне-мініяцюру, замалёўку з натуры, прыпавесць, показку, дзённікавы запіс, нязмушаны афарызм і г.д.

*

Тры кнігі, якія не дачытаў і не дачытаю, бадай, да скону дзён сваіх, – гэта “Біблія”, “Уліс” Джойса і “Капітал” Карла Маркса.

*

Праява найбольшага святатацтва, блюзнерства – памкненне не да слугавання Богу, а, наадварот, зрабіць сваім слугою Яго. Скрозь і паўсюль: дапамажы, злітуйся, уратуй. І ў дробязі бытавой, і нават у ліхім учынку – дапамажы… Выключна знішчальная іронія на гэты конт у творы ХУІІ ст. нямецкага пісьменніка Г.Грымэльсгаўзена “Авантурнік Сімпліцысімус”. Над бурліваю прорваю Рэйна герой-рабаўнік і каецца, і моліцца, і клянецца перарадзіцца, калі выжыве, а пасля нечаканага выратавання замест таго, каб “упасці на калені і падзякаваць Божай добрасці за збавенне і запачаткаваць сваё новае, лепшае жыццё… пачаў так хлусіць, што неба пачарнець магло” (пераклад В.Сёмухі).

*

З вершаў нашых “постмадэрністаў” з іхнім тэзісам: паэзія – гэта гульня, выбіраю тое, што вынікла з двух сур’ёзных матываў, дэклараваных імі: 1) беларускай паэзіі яшчэ шмат чаго не стае, 2) далёка не ўсе магчымасці роднай мовы вычарпаны. Адклаўся ў памяці вядомы паліндром В.Жыбуля, які пашырыў гэтае паняцце ледзьве не да паэмы. І наадварот, ёсць міні-мініяцюры ў І.Сідарука, што таксама ўражваюць:

Падаюць дрэвы.
Нават дрэвы…

У першым выпадку – карпатлівая праца, у другім – імгненная ўспышка, і ў абодвух – зусім не гульнёвасць.

*

Паэтычны зборнік Міколы Папекі рэдагаваў ажно два гады. Таму што з даволі частымі і працяглымі перапынкамі пасля спрэчак і сварак з-за аднаго якога-небудзь радка або нават слова. Давала мне дыхту Міколава амбітнасць, аднак трываў, бо рыхтаваць у друк было што. І ўсё ж не меней, чым зборнікам, задаволены тым, што паспрыяў аўтару зрабіцца самакрытыкам.

*

Пасміхаешся з паблажлівасці маладых: ягоныя вершы таксама філасафічныя… Гэтак пра мяне ў друку крытык-пачатковец пасля таго, як перакінуў кладачку агляду ад пачаткоўца-паэта. Што ж, дзякуй і за “таксама”: не скінуты з карабля сучаснасці!

*

Некаторым сябрам, Валодзя Ягоўдзік сярод іх, не падабаецца ў маёй шапцы-загалоўку, што накідваю на выбраныя для друку запісы слова “назіранні”. Нібыта назіраю знарок, як следапыт ці юны натураліст, а то яшчэ горш… А гэта ж – ад колішняй звычкі-захаплення пазіраць на зменлівыя белыя воблакі з зямлі, запыняць іх таксама зменлівым уяўленнем. Уяўленнем толькі сваім і толькі ў гэтае імгненне.

*

Шарль Бадлер – адна з самых багатых, а з таго і такіх складаных творчых натур. Ці ведалі б мы пра гэта, калі б паэт не быў да канца, да дна душы шчырым – у сваіх супярэчнасцях, сумненнях, зрывах і заганах? Багацце душы і шчырасць – калі не ўвесь яшчэ талент, дык, мусіць, аснова, грунт яго. Астатняе – эрудыцыя, вопыт, майстэрства – надбудова.

*

Апавяданне “Жоўты пясочак” Васіля Быкава і “Рассказ о семи повешенных” Леаніда Андрэева блізкія паміж сабою. Найперш не тэмаю ды сюжэтнымі лініямі – гэта, як кажуць, на паверхні, а псіхалагічнай дакладнасцю ў адлюстраванні стану і паводзін герояў, глыбокім пранікненнем аўтараў у сутнасць чалавечую і антычалавечую, адназначнай гуманістычнай скіраванасцю твораў. І – надзвычайна моцным уздзеяннем на чытача. Як некалі, чытаючы “Рассказ…”, я ў жаху пачуваўся адным з семярых, асуджаных на шыбеніцу, гэтак цяпер, акунуты ў быкаўскае апавяданне, быў сярод тых, каго - пад “жоўты пясочак”… Карацей кажучы, пісьменніцкімі талентамі блізкія гэтыя творы.

*

Украінец. Жыве ў Беларусі. Піша па-руску. Дакладней, пісаў: ужо два гады як перайшоў на родную, украінскую, мову. Моцна пакутуе і ад кепскага ведання мовы, і ад свайго позняга “прасвятлення” – яму ж пад восемдзесят. Калі сустракаю яго, нязменна згадваю адмысловы трохжыльны кабель, які быў паказаны па тэлебачанні ў гады галоснасці: адзін провад рабіўся ў адной саюзнай рэспубліцы, другі – у другой, трэці – у трэцяй… А ўсё роўна “плакунам” па зніклай краіне цяжка даказваць, што менавіта штучнае яе ўтварэнне ды паказная еднасць, а не натуральны і непазбежны распад – сапраўдная прычына трагедыі многіх шчырых людзей, у тым ліку творцаў.

*

Што нашы пісьменнікі размаўляюць на "трасянцы", я ўжо звыкся. Засталося звыкнуцца, што на "трасянцы" яны і пішуць, - не ўсе, але ўсё больш іх...

*

На жаль, не быў на святкаванні "паўсоткавага" юбілею Віктара Гардзея ў ягоных Малых Круговічах, на нашай Ганцаўшчыне. Але, спрычынены да падрыхтоўкі ягонай сустрэчы з землякамі, не сумняваўся, што ўсё там пройдзе хораша. Яно так і было, адзіная, дый тая прыемная, нечаканасць – вуліца, названая аднавяскоўцамі ў гонар юбіляра. Намер гэты да апошняга дня трымаўся ў сакрэце, і мне ўявілася прытоена-памяркоўная Віктарава ўсмешка. А падумаць, дык усё натуральна: любяць землякі ягоныя творы, пазнаюць у героях ягонай прозы сябе. Вось і аддзячылі, не чакаючы (цьфу-цьфу-цьфу) "ушанавання памяці", як гэта ў нас вядзецца.

*

Так і хочацца сказаць некаторым шматпішучым: не ўсё, што напісалі, нясіце ў друк. Нешта пакіньце і для нашчадкаў. Няхай і яны памучацца, чытаючы.

*

Кахае безнадзейна, ды аніяк не разыдзецца з жанчынаю, якая яму здраджвае. Гэтак жа не парывае з музаю графаман.

*

Несумненна, літаратура, мастацтва не прызнаюць і не церпяць мяжы дазволенага. Яны не толькі маюць права, а і пакліканы паказваць самы ніз (ці бездань) душы, псіхікі. Ды паказваць як? "Падняць чалавечы дух – гэта правіла для ўсіх нас, - пісаў У.Фолкнер, - для тых, хто стараецца пісаць проста забаўныя гісторыі, для тых, хто піша, каб узрушыць і напалохаць". Гаворка найперш – пра гуманізм.

*

Боязь сказаць праўду – як боязь выпусціць з сябе спёртае паветра: у абодвух выпадках пачынаецца гніенне.

*

Адзінка не нуль, а ўсё, не драбніца, а цэласнасць: у ёй – уся прырода, увесь вопыт пакаленняў і ўся будучыня. Найбольшае праяўленне цэлага ў адзінцы і ёсць геній. Геній закліканы выказаць, адлюстраваць усю вечнасць. І толькі нявечнасць існавання яго самога не дазваляе яму гэтага зрабіць.

*

Не сілю сябе пісаць, калі не пішацца, сілю – жыць, калі жыць не хочацца. Галоўнае – духоўна выжыць. А што не пішацца – гэта проста вынік.

*

Ніцшэ, Шапенгаўэр... Без карысці, нават і небяспечна чытаць іх звіхнутаму да параноі самалюбу. Але паэту, які ў нас амаль скрозь бязвольны, бездапаможны і наіўны, як дзіця, - чытаць абавязкова!

*

Звычайны стан Алеся Разанава – “увесь у сабе”, з-за чаго ён выдае не толькі на нелюдзімага, але і на незямнога. Мусіць, увесь фокус у тым, што ён у натхненні, у рабоце душы – паўсядзённа, а большасць з нас – па святах. Але як жа ён мяняецца, калі трапляе ў нашу паўсядзённасць! Нібы скідвае з сябе цяжар, з якім жыве пастаянна. Нават чакае і хоча скідваць яго, што ўжо не раз для мяне было відавочным, як і ў 1995 годзе ў “Іслачы”. Сядзелі доўга ў ягоным нумары, цягамоцілі сур’ёзныя рэчы, а раптам сярод ночы Алесь падымае ўсю “кумпанію” (былі там і сур’ёзныя замежныя калегі) ды вядзе да Ніны Мацяш, каб да ранку піць шампанскае і гаварыць зусім пра зямное... Але, кажуць, бываюць у яго і сапраўдныя зрывы – ад жадання скінуць той самы цяжар, ад невыноснасці яго. Думаю, залежыць гэта ад моманту, ад “кумпаніі” іншага ладу і складу.

*

Пачатак апавядання берасцейца Аляксея Філатава: “Былы паліцай, які ніколі не праміне пахваліцца сваім партызанскім мінулым...” Здаецца, больш і пісаць няма чаго: тут і тэма, і сюжэт, і вобраз, і адлюстраванне эпохі, усё.

*

Патэлефанаваў з Баранавічаў малады “геній”: пішу, разумееш, пра ўваскрэсенне Заратустры; так, нешта ёсць ад Ніцшэ, але, ведаеш, нашмат лепш... Вось так!

*

Па дарозе ў Мінск чытаў прозу Мікалая Гумілёва. Чытаў і жахаўся “Запискам кавалериста”, прама супрацьлеглым запіскам нашага Максіма Гарэцкага, хоць і тыя і другія – пра першую сусветную. У Гумілёва – гэта апафеоз вайны, існы вытак якога не ў адданасці манархізму і не ў асабістай храбрасці, а ў адкрытым, махровым шавінізме.

“Мы были в Германии… И так близки показались мне мечты Ермака, Перовского и других представителей России, завоёвывающей и торжествующей”;

“Есть люди, рождённые только для войны, и в России таких людей не меньше, чем где бы то ни было. И если им нечего делать “в гражданстве северной державы”, то они незаменимы “в её воинственной судьбе”, а поэт знал, что это – одно и то же”.

І так мала ў “Записках кавалериста” агульначалавечага, гуманістычнага. І з тым большаю павагаю і цеплынёю думаў я пра запіскі “На імперыялістычнай вайне” Максіма Гарэцкага.

*

Мо таму, што вельмі-вельмі рэдка пішу і атрымліваю лісты, захапіўся эпісталярнай спадчынай пісьменнікаў ды іншых цікавых людзей, балазе сёння ёсць што і з чаго пачытаць. Кампутар? Электронная пошта? Што зберагуць для гісторыі яны? А што ўжо казаць пра тэлефоны сотавыя ці звычайныя!..

*

Чытаю ў газеце: сын забіў бацьку… Бацька сыну даў жыццё, сын у бацькі жыццё забраў. Помста, што спарадзіў на пакуты? Што быў несправядлівы да яго? Што ўсяліў, паводле Фрэйда, комплекс мужчынскай рэўнасці?.. Блюзнерыць, шукаць апраўдання - яшчэ больш павялічваць грэх.

*

“Прасты, бы вяроўка з вісельнікам”… Спарадзіў гэтую думку-фразу і жахнуўся ёй. Скуль і для чаго яна ўзялася? Напружваю зрок памяці – і вось , уваскрашаю жывы, рэальны вобраз некалькігадовай даўнасці. Малады, высокі, танклявы чарнявец – следчы асабліва важных спраў. Самаўпэўнены, цынічна-расхрыстаны. “Захачу – апраўдаю, захачу – падвяду пад вісельню”. Адвечны і, мусіць, вечны, неўміручы вобраз для літаратуры…

*

У пасляваенным (пасля другой сусветнай) peралёце з Еўропы ў Амерыку цераз велізарны, бяздонны Атлантычны акіян, за якім таксама страшыла невядомасць, Масей Сяднёў раптам убачыў, як поруч узнікла і павяла самалёт Маці Божая... Шмат гадоў пазней пісьменнік зрабіў споведзь у “ЛІМе” пад назваю “Як я прыйшоў да Бога”.

Пасля аднаго асабліва цяжкага бою з гітлераўцамі палегла амаль уся рота на чале з лейтэнантам, пры якім ардынарцам быў Артур Вольскі. Ацалелы юнак упершыню ўкленчыў перад Небам і паверыў у яго, у чым у сталым сваім веку паспавядаўся зноў жа ў “ЛІМе”.

Начытаўся, наслухаўся я і шмат каго іншага пра ўсё тое ж. У позняга, роспачнага, Васіля Розанава: “Христианство – это религия ужаса”. А я ўвесь час думаў, што вера ў Бога нараджаецца Любоўю, а не Страхам.

*

У сваім напружаным і пакутлівым богашукальніцтве М.Дастаеўскі так і не змог пераадолець перашкоды-трагедыі - смерці ўласнага маленькага дзіцяці. Першародны людскі грэх, неўсвядомленая родавая або сямейная віна, мажлівае анёльскае пераўвасабленне памерлых немаўлятак – усё пасуе перад “невинно убиенным младенцем”, узятым у ахвяру нібыта дзеля будучай усеагульнай гармоніі. Сумніўцам Дастаеўскі застаўся і ў выніковым сваім творы ”Браты Карамазавы ”, у якім найглыбей сягнуў у сутнасць і місію хрысціянства. І зноў жа – з-за балючай асабістай першапрычыны, уласцівай, у рэшце рэшт, кожнаму з нас, нармальнаму і не фанатычнаму чалавеку, пераступіць якую (ведаю на ўласнай душы!) немагчыма.

*

Корпаўся ў сваім кніжным запасніку, каб узяць у дарогу што-небудзь спадручнае, і спыніўся на стосе паэтычных буклетаў, выдадзеных у Маскве напярэдадні Х1 з’езда пісьменнікаў СССР, у 1992-м. Сярод іншых – зборнічак Станіслава Золатцава “Прощеное воскресенье” з надпісам: “...на дружбу!” Сяброўства не мела працягу, і міжволі думаеш, што прычына ў выніках таго апошняга з’езда. Слова “дружба” неаднойчы тады злятала з вуснаў расійскіх пісьменнікаў. Многія з іх усё яшчэ спадзяваліся захаваць агульны СП і ўскладвалі немалую надзею на дэлегацыю ад Беларусі. Дзіўна атрымлівалася:

СССР ужо распаўся, а яго спрабавалі звязаць-сцягнуць літаратураю. Спроба праваліласся, і якраз пазіцыя беларускай сябрыны – няхай сабе традыцыйна памяркоўная, але дастатковая: устрымліваемся! – схіліла вагі галасавання на карысць самастойнасці нацыянальных пісьменніцкіх саюзаў. “Здраднікі!” – там і сям выгуквалі з залы…

*

Правадыр у поўны рост. Абапіраецца на масіўную трыбуну, падобную на вісельню або гільяціну. Наўкруга пастамента – барэльефныя дробныя фігуркі рабочых, чырвонаармейцаў і інш. Яны – пад нагамі ў правадыра…

Нават пасля поўнага адмаўлення бальшавізму гэты скульптурны помнік у сталіцы разбураць няможна: ён – найпраўдзівы помнік заснавальніку бальшавізму!

*

Галаваломка-сафістыка для вучняў і студэнтаў (узяў з канспекта завочніка): складзі сказ са слоў “звычайна”, “атаясамліваць”, “кожная”, “з”, “адна”, “нацыя”, “мова”. Можна пракруціць сем-восем варыянтаў, і ўсе яны будуць мець для нас іранічны сэнс: звычайна кожную мову атаясамліваюць з адной нацыяй; звычайна кожную нацыю атаясамліваюць… і г.д. Калі б не слова “звычайна”, дык і схавацца не было б за што!

*

Ксенафобія, боязь чужога, - з’ява, зразумела, ненармальная. Але ці не гэтак жа ненармальна папракаць у ксенафобіі нацыянальна свядомую творчую інтэлігенцыю? Яна не пагаджаецца ўсяго толькі з нераўнапраўем “чужога” і ”свайго”, з тымі ўмовамі, у якіх ёй даводзіцца працаваць, падымаць нацыянальныя творы да агульнаеўрапейскага і сусветнага ўзроўню.

*

Прашу ў буфетчыцы: “Мне дранікаў, калі ласка”. Яна: “Дряники у нас только вчерашние”. Што ж, падумалася, усё правільна: дрэнь.

*

Набачыўся карцін мастака-авангардыста ў ягонай майстэрні. Маскі, геаметрычныя фігуры, падзеленыя на часткі людскія твары… Дома ўзяў ды знайшоў старонку ў “Архіпелагу ГУЛАГ” А.Салжаніцына:

“Они уже печатаются, выставляют картины. Выворачиваются, как по-новому исказить окружающий, недостаточно оригинальный мир”.

*

Шукаем жывых істотаў на іншых планетах. Спаўна верагодна, што і яшчэ дзесьці ёсць жыццё, нават на непрыдатных для яго Марсе ці Венеры. Жывуць жа чырвоныя рачкі ў стэпавай солі, тэрмапілы – у міжгорным кіпені, асобны від камароў – у холадзе Антарктыды, мікробы – у вакууме… Усё драбяза несвядомая, не роўня гомасапіенсу. Планета людзей – непаўторная, абраная Усявышнім? Ведаць бы толькі, у імя чаго абраная…

*

Спыняць жыццё самагубствам няздатныя толькі трава і дрэвы. Здатныя чалавек, зрэдку – птушка (бусел, лебедзь) і жывёліна (напрыклад, кіт).

*

Адкуль у тваю маладосць, у твае шчаслівыя дні наплывалі невымоўная туга, шчымлівасць, меланхолія? Яны праяўляліся нават у самым высокім палёце душы – у яднанні з хараством зямлі і неба, у творчых памкненнях, у радасці кахання.Ты быў шчаслівы, а ў тваю падсвядомасць, у твае таямніцы зноў і зноў упаўзала змяя-думка, цень думкі, пра мімалётнасць усяго і непазбежны зыход.

Цяпер, калі розум адкрыў зыход напоўніцу, а душа скурчылася пад ягоным гнётам, ты абыякава сузіраеш прыроду, гоніш прэч вершаваны радок, грэбуеш зірнуць у вочы закаханай у цябе жанчыны.

Яшчэ, хоць і далёка за мяжой маладосці, ты не стаў мудрым, не адрадзіў душы любоўю.Ты яшчэ не спасціг, што ўвесь час ты жыў у сабе і дзеля сябе, не зразумеў, што цяпер, бы калісьці змяя страху, мае права гэтак жа ўладна сягнуць у твае глыбіні і нарэшце застацца там пачуццё любові – змяя мудрасці.

*

Закасіў апавяданне – кінуў, зрабіў паўпракоса ў паэме - таксама адклаў, узяўся за іншае. Процьма недакошаных дзялянак, а ўжо восень. Стукаю пучкамі па лобе сабе: трэба, лайдак, выкладвацца адразу і цалкам, якія б абставіны ні заміналі. Ды ці астатні раз стукаю?

# РЭХА СМЕХУ СЯРОД ПІСЬМЕННІКАЎ

Сціслы дасціпны аповед - анекдот, а ў беларускай мове яму цалкам адпавядае найменне показка, - гуляе па ўсім свеце і закранае ўсе бакі чалавечага жыцця, у тым ліку літаратуру і яе творцаў. Чым больш цікавая, неардзынарная асоба пісьменніка, тым больш запамінальных досціпаў пра яго. Што, напрыклад, мне згадваецца тут жа? Выпадак з Бернардам Шоў. “Пазіраючы на вас, - сказаў неяк яму на вуліцы таўстун-буржуа, - можна падумаць, што ўся наша краіна галадае”. – “А пазіраючы на вас, лёгка здагадацца, у чым прычына яе такога становішча”,- адказаў Б. Шоў.

Нямала дасціпнага і вясёлага, бясспрэчна, і за нашымі пісьменнікамі. Дастаткова пабыць з імі ў нязмушаных абставінах, каб пачуць. Тое-сёе можна і прачытаць у апублікаваных падарожных і дзённікавых нататках, абразках (А. Пісьмянкоў, Л. Галубовіч, К. Камейша ды інш.). Аднак жа беларускіх літаратурных анекдотаў-показак ніхто мэтава пакуль што не збіраў, не выдаваў у купе. Яны перадаюцца пераважна ў вуснай форме, што, урэшце, адпавядае жанру (з французскай “анекдот” азначае нявыдадзенае). А калі б сабраць, дык атрымалася б цікавая кніжка, якая шмат што дадала б да партрэтаў пісьменнікаў, робячы іх сапраўды жывымі.

***

У коле сяброў-пісьменнікаў чытаў сваю прозу тады яшчэ малады Аляксей (Леанід) Філатаў. Адно апавяданне дачытаць да канца яму не даў Уладзімір Калеснік:

— Ну, што ты, Лявоне! У цябе ўсе героі п’яныя: галоўны герой п’яны, жонка падвяселеная, брыгадзір з пахмелля. Адзін конь цвярозы, ды і той падазрона доўга з вядра піў…

***

Міхась Рудкоўскі папрасіў сябра-паэта, які завітаў да яго ў кватэру:

—Закончыў перакладаць украінцаў, - ён узяў са стала стос аркушаў. – Ты слухай і ацэньвай усяго двума словамі: добра або ерунда.

Калі закончылі, зарагатаў.

— Ты чаго? – збянтэжыўся госць.

— Дык пераклады я межаваў са сваімі новымі вершамі. Чытаю пераклад, ты – “добра”, свой верш – “ерунда”. Не крыўдуй, праўду хацеў пачуць.

***

Аляксей Гардзіцкі, уключаны ў савецкую дэлегацыю, пабываў на Кубе, падзяліўся сваімі ўражаннямі з калегамі, а тыя перадалі яго аповяд так:

— О, моцныя ўражанні! Уяўляеце, Куба – гэта востраў: тут суша, а вакол вада, вада... Сталіца – Гавана, і жывуць у ёй кубінцы, але размаўляюць чамусьці не па-кубінску, а па-іспанску. Дык вось, падышла да мяне прыгожая мулатка, паляпала па плячы і кажа па-іспанску: “Савеціко, зэ-э-р гут!”

***

Рэдактар аддзела выдавецтва “Мастацкая літаратура” хітрун з утоенаю ўсмешкаю Леанід Дранько-Майсюк – аўтару новага рукапіса вершаў Анатолю Дэбішу:

— Прачытаў, зборнік ёсць. Толькі назва, бадай, насцярожыць маё начальства: “Трыпціх жаночага цела”. Зменім збольшага, каб кніжка пайшла. Трыпціх – трыумф, жаночага – рабочага... Во – “Трыумф рабочага дзела”. Сугучна?

***

Цесная сябрына ў курылцы рэдакцыі адной з газет. Тут і Мікола Купрэеў – адпачывае ў сваёй вечнай вандроўцы. З яго не-не ды і падсмейваецца малады супрацоўнік рэдакцыі: маўляў, і дома не сядзіш, і вершаў не прыносіш... Нарэшце Мікола Сымонавіч згортвае ў трубачку свежы нумар газеты і паварочваецца да яго:

— Ведаеш, дарагі, дома назолаў-мух я б’ю толькі вашай газетай, - і лёгка пляскае таго па лобе.

А прозвішча супрацоўніка было акурат Муха.

***

Мікола Пракаповіч першы раз у жыцці пабываў у Маскве. Ездзіў з журналістамі-экскурсантамі ад вобласці.

— Мікола, і як ты правёў тры дні ў Маскве? Крэмль бачыў?

— Бачыў з акна гатэля “Расія”, праўда, не вельмі выразна: засланялі то калегі, з якімі прыехаў, то дзяўчаты...

***

У рэдакцыю жабінкаўскай райгазеты завітаў са здымачнай групай абласнога тэлебачання Мікола Трафімчук.

— Вы мяне дачакайцеся, - сказаў сябрам-газетчыкам, - па дарозе назад заскочу, пагамонім. Адна нага ў калгасе, другая тут. Матэрыял напісаў загадзя, тое-сёе зазняць трэба, і ўсё. Ох, і разаб'ю ж я гэты ваш калгас-сад!..

І праўда, завітаў другі раз, хоць і не так хутка, як абяцаў. У добрым гуморы, расчырванелы. Яблыкамі пачаставаў.

— Атрымаўся матэрыял, Мікола?

— Ага, але крытычнага не атрымалася: людзі дужа станоўчыя там працуюць.

***

На беларуска-ўкраінскім памежжы пасля традыцыйных вандровак і сустрэч пісьменнікі-берасцейцы развітваліся з пісьменнікамі-валынянамі. І ўсё не маглі развітацца – ні ў прыдарожным рэстаране, ні пасля ў маляўнічым лясочку. Паэт Пятро Мах, аматар кампліментарных экспромтаў, прадэкламаваў, паказваючы на Міхася Рудкоўскага, што стаяў, трымаючыся за бярозку: “Стоїть Михась, стоїть, як бог!..” Іван Арабейка тут жа падхапіў: “Інакш бы і стаяць не змог!”

***

Рэдактар раёнкі да Расціслава Бензерука, супрацоўніка газеты:

— Здаецца, пра дзедаву грушу ты ўжо разы два пісаў. І зноў замалёўку прынёс…

— Дык на гэты раз я ўжо пра іншую напісаў.

— І колькі ж яшчэ дзедавых груш засталося? – насцярожыўся рэдактар.

***

Гэты жарт прыпісваюць мне, тадышняму сакратару абласнога пісьменніцкага аддзялення. Дык вось, аўтар-графаман да Алеся Каско:

— Уважліва прачытайце мае вершы, вельмі ўважліва. Уяўляеце: іх мне прадыктаваў голас з космасу!

Каско (нібыта) прачытаў, падумаў.

— Што вам сказаць? Дапускаю, што гэта неба дыктавала вам вершы, але вы не расчулі як след і пагэтаму вельмі кепска запісалі…

***

Васіль Праскураў – вельмі тактоўны чалавек. А на гэты раз, каля сяброўскага вогнішча, прыгарнуў да сябе маладую настаўніцу, якая перад тым расхвальвала ягоную творчасць.

— Нягожа рукі распускаць, Васіль Хведаравіч, - гулліва папракнула яна.

— Даруй за рукі, мая рыбачка: так расчуліўся, што ногі не трымаюць, упасці мог…

***

На семінары маладых літаратараў праходжваўся сабе мэтр Іван Чыгрынаў.

— Ну, кажы, як ты жывеш, хлопча? – Паляпваў па плячы то аднаго, то другога пачаткоўца ды ішоў далей, а не абдзелены ўвагай хлопец заставаўся з растуленым для адказу ротам.

Віктар Гардзей таксама трапіўся пад руку яму. Не паспеў Чыгрынаў і слова сказаць, як той апярэдзіў:

— Халера яго ведае, Іван Гаўрылавіч!

— Ты пра што гэта, Віця? – уставіўся на яго мэтр.

***

Студэнт Алесь Разанаў здаваў экзамен за курс педагогікі. Першае пытанне ў білеце – чарговы з’езд КПСС пра школьнае навучанне і выхаванне. Матэрыялаў з’езда Алесь не чытаў, але ўзяўся адказваць, балазе ставала эрудыцыі. Гаварыў пафасна пра юнае пакаленне, выклаў як толькі мог “мацярынскі” клопат партыі пра дзяцей. Экзаменатарка ўважліва слухала, а праз хвілін 15, калі студэнт змоўк, сказала: “Уступ вы закончылі? Дзякуй. Цяпер адказвайце на пытанне білета”.

***

“ Круглы стол” ва ўніверсітэцкім навуковым цэнтры імя У. Калесніка. Ужо хвілін дзесяць трымае слова Уладзімір Гніламёдаў:

— … дык не адразу і згадаеш, каго можна паставіць з ім побач… Поруч… Поплеч… М-м, пра што гэта я казаў?

— Сінонімы падбіралі, - з усмешкаю “падказвае” Алесь Разанаў.

***

Дужа ўражлівы Мікола Панасюк цмокаў языком і выказваў “ай-я-яй” ці не перад кожным будынкам, які паказвалі луцкія сябры-пісьменнікі берасцейцам. Нарэшце Міхась Рудкоўскі падсмяяўся з яго:

— Мікола, ты пабач, якая архітэктура, - кіўнуў ён на прыземісты будынак каля вакзала.

— Цм, цм. Ай-я-яй!

А стаяла там звычайная каробка трансфарматарнай падстанцыі.

***

Сваю чарговую кніжку прозы Анатоль Крэйдзіч назваў паводле аднайменнага твора пра слыннага мастака Напалеона Орду “Палескі Напалеон”. Няйнакш, каб скараціць аб’ём, твор той выдавецтва з кнігі выключыла, але памяняць яе назву “забыла”. І сябры-калегі мелі падставу пры аўтары прачытваць вокладку з такой інтанацыяй: “Анатоль Крэйдзіч – палескі Напалеон”.

***

Пасля літсустрэчы і, натуральна, развітальнай чаркі берасцейцы выйшлі з Дома літаратара, каб ехаць у гатэль. “Ранавата, - прамовіў Васіль Сахарчук і прапанаваў: Во, праваднічкі ідуць. Давайце пазнаёмімся. Хто са мной?”

Сапраўды, па Фрунзенскай ішла купка дзяўчат у форме. Вітанне, заляцанне… Прайшлі паэты поруч з дзяўчатамі толькі да першага яркага ліхтара.

— Стойце, - раптам спыніўся Сахарчук, - я кнігі ў Доме літаратара забыў!

Нідзе нічога Васіль не забыў: проста ён першы ўбачыў, што форма і пагоны ў дзяўчат – міліцэйскія, а не чыгуначныя.

***

З “Полымем” у руках звоніць у дзверы да У.Калесніка Сцяпан Крываль. Уладзімір Андрэевіч выйшаў:

— Табе чаго?

— Я, во, надрукаваўся.

— І вырашыў пахваліцца гэтым пасярод ночы?

— Вырашыў так: Вы прачытаеце, і калі апавяданне спадабаецца, дык дасце мне тры рублі да Маларыты.

***

— Сцяпан, - раённы рэдактар да Крываля,- нешта я цябе ўчора на працы не бачыў.

— Дык жа валынскія сябры прыехалі. Мы паснедалі, потым з’ездзілі ў кнігарню і ўжо абедалі да самай вячэры…

***

Адзін з сакратароў Саюза пісьменнікаў Віктар Супрунчук прыехаў у Брэст пацікавіцца справамі абласнога аддзялення. Пасля сустрэчы берасцейскія сябры зрабілі яму даволі шчодрую вячэру ў кавярні. Калі трэба было разлічвацца, Віктар спыніў тутэйшага сакратара:

— Цяпер у Мінску інакшая завядзёнка: разлічваецца, не падначалены, а начальнік.

І расплаціўся.

***

Перад выступленнем у Брэсцкім педінстытуце бавіў час жартамі з сустрэчнымі дзяўчатамі Алесь Пісьмянкоў:

— Ці не скажаце, дзе тут праспект Міколы Пракаповіча?.. А бульвар Алеся Каско?..

Тыя ўсур'ёз задумваліся, некаторыя выказвалі здагадкі. Адна дык нават паказала рукою:

— Вуліца Уладзіміра Марука? Мусіць, там, суседняя, там і помнік стаіць...

Суседняй была вуліца Гогаля, з ягоным бюстам на пастаменце.